М.В. Жуковіч

# Актыўныя адукацыйныя тэхналогіі па фарміраванні свабоднай асобы вучня на ўроках беларускай мовы, літаратуры і пазакласных мерапрыемствах

2012

# ЗМЕСТ

## УСТУП

Свабодная і моцная духам асоба заўсёды была, ёсць і будзе прыцягальнай у любым цывілізаваным грамадстве і калектыве. Асаблівай папулярнасцю, павагай і заслужаным аўтарытэтам карыстаецца грамадзянін, які актыўна ўдзельнічае у грамадска-палітычным жыцці краіны, змагаецца за дэмакратычныя свабоды ў таталітарнай дзяржаве ці прыносіць пэўныя матэрыяльныя выгоды. Нягледзячы на псіхалагічныя і фізічныя прыніжэнні, уціск, такая асоба, безумоўна, стварае новую гісторыю, новую плынь на карысць свайму народу і Айчыне. Сёння добра вядомы нашаму сучасніку грамадзянскі подзвіг Кастуся Каліноўскага, Францішкі Багушэвіча, Адама Міцкевіча, Зянона Пазняка, Васіля Быкава, Алеся Бяляцкага і многіх іншых змагароў за суверэнітэт краіны, за свабоду слова, друку, мітынгаў і шэсцяў.

Але трэба прызнаць той факт, што практычна ва ўсе часы большасць беларусаў падтрымлівала і падтрымлівае такіх змагароў толькі маральна, а сама займала і сёння займае пазіцыю «а што будзе з імі далей?». Прычынай, на нашу думку, з’яўляецца не толькі спрадвечная ментальнасць і талерантнасць нашага народа, але і недастатковая грамадзянская адукацыя, асабліва сярод падлеткаў і моладзі. На нізкім узроўні яна і ў сярэдніх адукацыйных установах рэспублікі.

Сучасныя падлеткі жадаюць і імкнуцца быць вольнымі і незалежнымі: распараджаюцца сабою па ўласным жаданні, не хочуць звязваць сябе з ніякімі абавязкамі і адносінамі, праяўляюць негатыўную свабоду ў грубых адносінах з бацькамі і настаўнікамі, не прыкладаюць намаганняў у вучобе, шмат часу трацяць на знаходжанне ў інтэрнэце, бясконца гуляюць у камп’ютарныя гульні, любяць позна вярнуцца дадому, паспрабаваць у раннім узросце табак, а то і наркотыкі, сесці за руль аўтамабіля без наяўнасці на гэта праў і г.д. Безумоўна, такая свабода, а больш дакладна, свавольства, легкадумнасць прынясе толькі шкоду. У выніку такіх паводзін, як правіла, узнікае псіхалагічная і фізічная залежнасць. А гэта ўжо крайняя ступень няволі, у якую мадады чалавек з цягам невялікага часу заганяе сябе сам.

Як бачым, свабода паступова можа пераўтварацца ў сваю супрацілегласць – звычайную няволю, а то і трагедыю.

У дадзеным дапаможніку «Актыўныя адукацыйныя тэхналогіі па фарміраванні свабоднай асобы вучня на ўроках беларускай мовы, літаратуры і пазакласных мерапрыемствах» вядзецца гаворка пра свабоду як пра адну з магчымасцей дасягнення канструктыўнай мэты ў жыцці навучэнца, дапамагчы зрабіць правільны выбар у ім. Вядома, што калі падлетак ставіць правільную мэту, то свабода яму дае і карысны вынік, калі падманную, негатыўную – прыносіць шкоду ці залежнасць.

Якой жа павінна быць практыка фарміравання высокай грамадзянскасці і патрыятызму падрастаючага пакалення беларусаў, каб адпавядаць сучасным агульначалавечым прынцыпам? Як павінен працаваць сённяшні педагог, каб

выхаваць маладых людзей сацыяльна актыўнымі і нацыянальна свядомымі? Якім чынам фарміраваць адказныя паводзіны, уменне супрацьстаяць чужым ідэям і асацыятыўным праяўленням? Менавіта гэтыя і некаторыя іншыя актуальныя пытанні па фарміраванні свабоднай і дзейснай асобы цікавяць ўжо некалькі дзесяцігоддзяў аўтара гэтай кнігі.

Са шматгадовага педагагічнага вопыту працы ў сярэдняй школе глыбока перакананы, што перш за ўсё патрэбна фарміраваць у сучасных вучняў нацыянальную самасвядомасць: дапамагчы падлеткам у вызначэнні сэнсу жыцця, выхоўваць павагу да прынятых нормаў маралі, фарміраваць грамадзянскія адносіны да сям'і, матываваць цікавасць і патрэбу ў авалоданні нацыянальнага моўнага багацця, да гістарычнай спадчыны і гісторыі сваёй Айчыны. Як ніколі, сёння педагог павінен умець ствараць умовы для індывідуальнага самавызначэння навучэнцаў, іх творчага патэнцыялу, схільнасцей і здольнасцей. Развіваць навыкі міжасобасных адносін, выхоўваць якасці лідара і грамадзянскую пазіцыю як ва ўмовах навучальнага працэсу, так і ў пазакласнай дзейнасці школьнікаў.

Лічым і перакананы на ўласным педагагічным вопыце, што рэалізаваць вышэйназваныя мэты і задачы дапамогуць такія адукацыйныя тэхналогіі, як крытычнага мыслення, дзелавой гульні, праектнага навучання, калектыўнага асэнсавання, педагагічных майстэрняў, актыўнай ацэнкі. Дзейснымі па гэтым пытанні з'яўляюцца і інфармацыйна-камп'ютарныя тэхналогіі. Гэта такія, як дыстанцыйнае навучанне, выкарыстанне мультымедыйных прэзентацый і г.д.

Спадзяемся, што з цягам часу гэты дапаможнік будзе пашырацца новымі знаходкамі і стане добрым памочнікам у нялёгкай выкладчыцкай справе настаўніка-філолага.

*Аўтар*

## Раздзел 1. Выкарыстанне асобасна арыентаваных тэхналогій навучання

### 1.1. Дыдактычныя мадэлі ўрокаў па тэхналогіі крытычнага мыслення

Адразу зазначым, што гэтая тэхналогія навучання з'яўляецца больш прыдатнай для выкарыстання менавіта настаўнікамі-філолагамі: знешне набліжана да традыцыйнай методыкі выкладання беларускай мовы і літаратуры ў агульнаадукацыйнай школе, патрабуецца нязначны час на падрыхтоўку заняткаў па ёй, эканомная па абсталяванні, накіравана на эфектыўную работу школьнікаў з тэкстам.

З самой назвы гэтай тэхналогіі вынікае, што яна ўяўляе сабою працэс фарміравання такой неабходнай на сёння якасці асобы, як уменне крытычна думаць, крэатыўна, творча вырашаць надзённыя праблемы.

Слова «крытычнае» тут трэба разумець не як развіццё ў сучасных школьнікаў нейкага негатыўнага меркавання пра што-небудзь, а, наадварот, гэта ёсць станоўчы, разумны і ўсвядомлены падыход да пэўнай жыццёвай сітуацыі.

Акадэмічны «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (том 2) раскрывае адно з лексічных значэнняў «крытычны», якое непасрэдна датычыць тэмы нашай гаворкі: «**Крытычны.** 1. Які заключае ў сабе крытыку, з'яўляецца крытыкай. Крытычныя заўвагі. Крытычны артыкул. Крытычная літаратура. 2. Здольны крытычна адносіцца да каго-, чаго-н. Крытычны розум». Адсюль вынікае, што крытычна думаць – гэта значыць:

- праяўляць пэўную зацікаўленасць да чаго-небудзь ці каго-небудзь;
- ставіць перад сабою пытанні і праблемы;
- умець шукаць адказы на іх;
- па мажлівасці ўмець выкарыстоўваць даследчыя метады;
- вызначаць прычыны і наступствы пэўных абставін;
- выпрацоўваць уласнае погляд і здольнасць адстаяць яго пры дапамозе адпаведных доказаў,
- увага да аргументаў апанента і іх лагічнае асэнсаванне.

Вядомыя расійскія псіхолагі А.І. Ліпкіна і Л.А. Рыбак вызначаюць два віды крытычнага мыслення ў вучняў-старшакласнікаў: першы, на іх думку, заснаваны на аргументах і фактах, другі – гэта асабістае меркаванне без строгай доказнасці.

Слушнымі, на наш погляд, з'яўляюцца і словы расійскага педагога-псіхолага

С.І. Векслера, які быў перакананы, што навучыць крытычна асэнсоўваць можна і з дапамогай спецыяльна арганізаванага навучання метадам знаходжання і абвяржэння памылак. Асаблівае значэнне вучоны надаваў рэцэнзаванню работ па літаратуры, гісторыі і іншых грамадскіх навуках.

Што датычыцца слова **«мысленне»** ў назве тэхналогіі, якое падаецца ў расійскай сучаснай псіхолага-педагагічнай літаратуры, то, на нашу думку, больш правамерна па-беларуску выкарыстоўваць «асэнсаванне».

З выкладчыцкай практыкі добра вядома, што развіць крытычны розум удаецца не адразу і не ва ўсіх вучняў, а толькі ў 30-60 % . Тут, вядома, многае будзе залежыць і ад іх узроўню адукаванасці, сацыяльнага становішча, матывацыі і патрэбы ў ведах. Праўда, развіць крытычнае асэнсаванне сёння можна ў любым узросце і без значнай папярэдняй падрыхтоўкі, таму што многія яго прыкметы, асаблівасці фарміруюцца і пры традыцыйным, класічным выкладанні. Аднак эфектыўнасць гэтага працэсу і яго вынікі найбольш відавочныя пры сістэмным і паслядоўным фарміраванні дадзенага тыпу асэнсавання, пачынаючы са школы і працягваючы ў сярэднеспецыяльных ці вышэйшых навучальных установах.

**Забяспечыць развіццё крытычнага асэнсавання з дапамогай інтэрактыўнага ўключэння вучняў у адукацыйны працэс – гэта і будзе асноўная мэта названай тэхналогіі.**

Мяркуецца, што ў выніку выкарыстання яе ў навучальнай установе вучань з цягам часу выпрацуе ў сабе ўменне суб'ектыўнага бачання, аргументаванага меркавання, прыме незалежныя прадуманыя рашэнні, няхай нават і не заўсёды правільныя і ўдалыя.

Як бачым, дадзеная тэхналогія адносіцца да катэгорыі творчых, крэатыўных. А гэта значыць, што выкарыстанне яе настаўнікам-філолагам дапаможа сучаснаму школьніку выпрацаваць наступныя неабходныя ўменні для творчай самарэалізацыі асобы:

- крытычна разважаць і прымаць узважаныя рашэнні;
- прымяняць атрыманыя веды як у стандартных сітуацыях, так і ў сітуацыях няпэўнасці;
- ставіць новыя пытанні;
- разумець і паважаць вучняў-партнёраў;
- самастойна і свядома дзейнічаць з мэтай дасягнення пастаўленых задач;
- навыкі самастойнай і групавой работы.

І, самае галоўнае, яна зноў жа матывуе вучняў актыўна ўключыцца ў вучэбна-

выхаваўчы працэс, што стварае падмурак для новых ідэй разумовай дзейнасці.

Такім чынам, на аснове вышэйсказанага можна сцвярджаць: крытычна думаць – гэта значыць выпрацоўваць імунітэт душы.

**Асновы** асобасна арыентаванай тэхналогіі былі закладзены яшчэ швейцарскім псіхолагам Жанам Піяжэ і савецкім псіхолагам Львом Сямёнавічам

Выгоцкім. Тэхналагічны кірунак пазней надалі амерыканскія спецыялісты.У пачатку XXI стагоддзя загаварылі пра асобную сістэму развіцця крытычнага асэнсавання і ў беларускіх навучальных установах. Сярод настаўніцтва можна было пачуць такія тэрміны, як «сінквейн», «кластэр», ці саму назву дадзенай тэхналогіі. У нашы дні на старонках навукова-метадычных часопісаў «Роднае слова» і «Беларуская мова і літаратура» ўжо з’явіліся асобныя канспекты ўрокаў па гэтай сістэме выкладання.

Для ўкаранення тэхналогіі развіцця крытычнага асэнсавання ў школе настаўніку-філолагу рэкамендуецца спачатку выкарыстоўваць толькі асобныя элементы на звычайным ўроку камбінаванага тыпу, а структура заняткаў па гэтай сістэме звычайна складаецца з **трох-чатырох этапаў**:

(1) **выклік – (2) рэалізацыя (асэнсаванне) – (3) рэфлексія (разважанне) – (4) падагульненне і ацэнка інфармацыі.**

Зазначым, што не абавязкова рэалізоўваць адразу ўсе названыя этапы. Так, напрыклад, адзін, звычайна першы, урок можа быць поўнасцю выклікам, другі – рэалізацыяй і г.д. Тое ж самае можна сказаць і аб прыёмах, якімі будзе дасягацца пэўная мэта. З ніжэйпрапанаваных настаўніку-філолагу даецца права выбару з улікам тэмы ўрока і магчымасцей школьнікаў.

Акцэнтуем увагу чытача на самым галоўным: тэхналогія крытычнага мыслення **садзейнічае ў першую чаргу эфектыўнай рабоце вучня з тэкстам**, у працэсе якой пададзены тэарэтычны матэрыял лёгка асэнсоўваецца, затым становіцца ўласным вопытам падлетка. Зыходзячы з гэтага, у выніку ў яго фарміруецца ўжо ўласнае аналітычнае разважанне, погляд.

Назва першага этапу ўрока па гэтай тэхналогіі гаваркая. Само слова **«выклік»** у свядомасці чытача адразу асацыіруецца з нейкім інтрыгуючым пачаткам, запрашэннем пэўнага суб’екта да актыўнай дзейнасці. Так, сапраўды, **асноўнымі мэтамі** на гэтым этапе, якія будзе вырашаць настаўнік, стануць:

- актуалізацыя ў вучняў вопыту і раней набытых ведаў;
- актывізацыя іх дзейнасці;
- фарміраванне матывацыі да вывучэння запланаванай праграмнай тэмы;
- пастаноўка вучнямі перад сабою індывідуальнай мэты пры вывучэнні матэрыялу як на ўроку, так і дома.

Трэба яшчэ зазначыць, што на этапе выкліку часта будзе чаргавацца індывідуальная работа школьніка з работай у парах. Прысутнасць этапу выкліку з’яўляецца абавязковай на кожным уроку па гэтай тэхналогіі.

Пры дапамозе якіх **прыёмаў** настаўніку-філолагу можна рэалізаваць названую мэту?

Прапануем выкарыстаць наступныя: прагназаванне, «кошык ідэй, паняццяў і імёнаў», альтэрнатыўны тэст, паблытаныя лагічныя ланцужкі, «белыя плямы», «мазгавы штурм», фармуляванне пытанняў, табліца «Ведаю – Хачу даведацца – Даведаўся», вольнае пісьмо і інш. Асобныя з іх, асабліва табліца «Ведаю – Хачу даведацца – Даведаўся», найчасцей выкарыстоўваюцца на працягу ўсіх трох-чатырох стадый гэтай тэхналогіі.

**Прыём прагназавання** на этапе выкліку можна выкарыстаць як на ўроках мовы, так і літаратуры па ключавых словах-тэрмінах, гатовай дыдактычнай табліцы, па партрэце пісьменніка, карціне і інш. Напрыклад, перад пачаткам тлумачэння тэмы «Простыя, складаныя і састаўныя колькасныя лічэбнікі, іх скланенне, ужыванне і правапіс» у 6 класе настаўнік на дошцы можа запісаць у слупок наступныя ключавыя словы-тэрміны: лічэбнікі простыя, састаўныя, складаныя, два карані, некалькі слоў, адзін корань. Па гэтых словах вучням прапануецца скласці невялікі лінгвістычны тэкст і запісаць яго ў сшытку. Звычайна на падобную работу адводзіцца пяць хвілін. Пасля заслухоўваюцца два-тры аповеды. І вынікам выкліку тут можа быць пастаўленае класу пытанне: «Што вы хацелі б даведацца, зыходзячы з прапанаваных слоў і створаных вамі лінгвістычных нататак ?»

Дэманстрацыя звычайнай дыдактычнай табліцы таксама можа з’явіцца ўдалым аб’ектам для фарміравання матывацыі да вучэбнай дзейнасці. Перш чым пазнаёміць васьмікласнікаў з правіламі, напрыклад, адасаблення азначэнняў, прыдаткаў ці акалічнасцей, настаўнік прапануе класу прачытаць апорныя сказы, змешчаныя ў табліцы, і паспрабаваць растлумачыць правілы адасаблення без дапамогі падручніка:

Адасабленне азначэнняў

1. Лес**, атулены мрокам і цішынёю,** стаяў нерухома. (Я. Колас)
2. Надвячоркам пайшоў дождж**, па-майску цёплы, дробны, але спорны**. (І. Шамякін)
3. На палянцы суніц было многа. **Сакавітыя, з мядовым пахам,** яны самі прасіліся ў рот. (М. Гамолка)
4. Вясною**, усыпаная белым цветам,** груша ўпрыгожвала дзедаў двор. (Я. Колас)
5. **Урачыстыя ў сваім асеннім спакоі,** стаялі сосны і бярозы.

(І. Навуменка)

Цікавай формай прагназавання на ўроку беларускай літаратуры можа паслужыць дэманстрацыя партрэта малавядомага вучням беларускага ці замежнага пісьменніка, з жыццём і творчасцю якога яны пачнуць знаёміцца ўпершыню. Напрыклад, у 10 класе перад вывучэннем манаграфічнай тэмы «Змітрок Бядуля»

настаўнік прапануе класу пазнаць асобу паэта па партрэце, выкарыстоўвае падборку фотаздымкаў з выявай гэтага пісьменніка. Падобны прыём можна будзе выкарыстаць і перад знаёмствам са звесткамі аб жыцці і творчасці Максіма Гарэцкага, Андрэя Макаёнка, Стэфана Цвэйга і інш.

Таксама цікава будзе пачаць урок з разгляду карціны, а то і цэлай падборкі палотнаў, звязаных з пэўнымі гістарычнымі падзеямі. Інтрыгуючым момантам можа стаць дэманстрацыя карцін П. Сергіевіча «Кастусь Каліноўскі і Валерый Урублеўскі на аглядзе паўстанцаў» і «Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў 1863 г.» у 9 класе перад пачаткам знаёмства з жыццём і творчым шляхам Кастуся Каліноўскага. Затым настаўнік прапануе класу паразважаць, хто адлюстраваны на гэтых рэпрадукцыях, з якой нагоды паказаны ў такім ракурсе.

Добрым аб'ектам на этапе выкліку могуць паслужыць і скульптуры ці кадры з кінафільмаў, якія створаны паводле праграмных літаратурных твораў.

Перад знаёмствам з біяграфіяй паэта настаўнік можа даць групе вучняў на асобных лістах тры-чатыры вершы без указання года напісання і прапанаваць самастойна пазнаёміцца са зместам, а затым размясціць іх у храналагічным парадку і абгрунтаваць яго, вызначыць тэму дадзеных твораў, настрой лірычнага героя і яго светапогляд. Такія вершы, як «Спатканне», «Родная мова», «Мой хлеб надзённы» Максіма Танка, стануць прыдатным матэрыялам для прагназавання ў 10 класе. Тут да месца будзе пастаўленае класу пытанне: «Пастарайцеся прадбачыць, якія выпрабаванні лёсу маглі выпасці на долю паэта гэтых вершаў».

Заслухаўшы выступленні школьнікаў, настаўнік паведаміць правільную паслядоўнасць твораў, скажа, што кожны з іх адпавядае пэўнаму этапу жыцця Максіма Танка. А затым прачытае лекцыю або вучні самастойна пазнаёмяцца з адпаведным біяграфічным артыкулам падручніка.

З мэтай актуалізацыі вопыту і набытых раней ведаў па пэўнай тэме ўрока можна выкарыстаць **метад «Кошык ідэй, паняццяў і імёнаў»**. Ён сапраўды дазваляе выявіць ўсё, што ведаюць і думаюць школьнікі па тэме заняткаў.

Для гэтага выкладчыку патрэбна намаляваць на дошцы абрысы звычайнага кошыка, у які ў час эўрыстычнай гутаркі сцісла будзе ўпісана крэйдай ўсё тое, што ведаюць і скажуць вучні.

Абмен інфармацыяй ажыццяўляецца з дапамогай індывідуальнай і групавой работы па наступным умоўным плане.

1. Настаўнік ставіць перад класам пытанне аб тым, што ўжо вядома па пэўнай тэме.
2. Кожны вучань самастойна ўзгадвае і на працягу адной-дзвюх хвілін запісвае ў сшытак усё, што ведае па тым ці іншым пытанні.
3. Настаўнік прапануе ў парах ці групах на працягу трох хвілін абмяняцца вядомымі фактамі па пастаўленай задачы, прааналізаваць, у чым іхнія думкі супалі, а ў чым не, выказаць свой пункт гледжання.

4. Кожнай групе даецца мажлівасць выказаць усім прысутным нейкае адно паведамленне ці факт, не паўтараючы сваіх апанентаў.
5. На апошняй стадыі настаўнік запісвае сцісла ў «кошыку» ідэі без каментара, нягледзячы на тое, што яны яўна памылковыя. У «кошык ідэй» можна «скласці» разнастайныя думкі, меркаванні, факты, паняцці, праблемы, імёны, якія маюць дачыненне да пэўнай тэмы ўрока.
6. Усе дапушчаныя памылкі настаўніку неабходна прааналізаваць і паправіць па меры асэнсавання новай інфармацыі.

Замест «кошыка ідэй, паняццяў і імён» на першым этапе працы па тэхналогіі развіцця крытычнага асэнсавання можна выкарыстаць прыём **табліцы «Ведаю – Хачу даведацца – Даведаўся»**. Тут важна звярнуць увагу на запаўненне першай і другой яе калонак. Напрыклад, перад вывучэннем тэмы «Асаблівасці будовы сінтаксічных канструкцый з простай мовай, іх інтанаванне і выкарыстанне. Знакі прыпынку ў сказах з простай мовай» у 9 класе на этапе выкліку, улічыўшы набытыя веды за 5 клас, настаўнік у выніку зробіць наступны запіс у выглядзе схем :

| Ведаю | Хачу даведацца | Даведаўся |
|---|---|---|
| А: «П».<br>А: «П!»<br>А: «П?»<br>«П», – а.<br>«П!» – а.<br>«П?» – а. | «П, – а , – п».<br>«П, – а . – П».<br>«П! – а . – П».<br>«П? – а . – П». | |

Як бачым, калонка «Хачу даведацца» стане на дадзеным уроку месцам фіксацыі мэты заняткаў.

**«Альтэрнатыўны тэст»** – яшчэ адзін цікавы і займальны прыём этапу выкліку, калі класу прапануецца па яшчэ не вывучанай новай тэме паслухаць ланцужок правільных і памылковых сцвярджанняў, з якіх пазней вучні выберуць толькі тыя, што адпавядаюць сапраўднасці.

Так, перад знаёмствам з прыслоўем у 7 класе настаўнік можа агучыць некалькі сцвярджэнняў, а яшчэ лепш – прадэманстраваць напісанае на дошцы, экране, каб вучні маглі зрокава назіраць за пададзенымі фактамі, і прапанаваць выбраць тыя, што, на іх думку, з’яўляюцца правільнымі, абгрунтаваць гэта.

1. Прыслоўе – гэта службовая часціна мовы, якая абазначае прымету дзеяння і адказвае на пытанні як? дзе? куды? адкуль?
2. Прыслоўе – самастойная часціна мовы, якая абазначае прымету дзеяння або прымету іншай прыметы ці прадмета і адказвае на пытанні як? якім чынам? калі? дзе? куды? чаму? з якой нагоды? навошта?
3. Прыслоўі змяняюцца па склонах, асобах і ліках.

4. Прыслоўі не скланяюцца, не спрагаюцца, не маюць роду і ліку.
5. Маюць на канцы толькі суфіксы.
6. Могуць мець на канцы суфіксы і канчаткі.
7. У сказе прыслоўе найчасцей бывае акалічнасцю.
8. Нязменная часціна мовы.

Падобны прыём можна рэалізаваць і на ўроку літаратуры, асабліва ў 9-11 класах пры знаёмстве з жыццёвым і творчым шляхам пэўнага пісьменніка. Напрыклад, перад самастойным чытаннем вучнямі біяграфіі Максіма Гарэцкага ў 10 класе настаўнік можа прадставіць у выглядзе альтэрнатыўнага тэста наступныя факты і папрасіць вызначыць з іх толькі правільныя:

1. Сапраўднае імя і прозвішча пісьменніка – Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі.
2. Нарадзіўся на Магілёўшчыне ў вёсцы Малая Багацькаўка ў сям'і служачых.
3. Першы надрукаваны твор – апавяданне «У лазні» пад псеўданімам Максім Беларус.
4. Першы зборнік пісьменніка – «Рунь».
5. Першы зборнік – «Вянок».
6. Быў салдатам царскай арміі ў перыяд Першай сусветнай вайны.
7. Вызваляў тэрыторыю Піншчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны.
8. Аўтар антываенных твораў: апавяданняў «Літоўскі хутарок», «Рускі», «Генерал», «На этапе», дакументальна-мастацкіх запісак «На імперыялістычнай вайне».
9. Аўтар рамана «Золата».
10. Аўтар аповесці «Дзве душы» (1919), «У чым яго крыўда ?» (1926), «Ціхая плынь», рамана «Віленскія камунары».
11. Быў расстраляны ўладамі буржуазнай Польшчы за контррэвалюцыйную дзейнасць.
12. Літаратуразнавец, фальклярыст, лексікограф.

Момант угадвання настройвае на спаборніцтва і выклікае зацікаўленасць, якія не пакінуць да канца ўрока.

Жаданне пераканацца ў правільнасці пададзеных фактаў, даведацца ісціну, безумоўна, прымусіць сучаснага вучня больш сур'ёзна і асэнсавана слухаць лекцыю ці чытаць вучэбны артыкул.

Ідэнтычным альтэрнатыўнаму тэсту з'яўляецца добра вядомы філолагу традыцыйны прыём **«фармуляванне пытанняў»**, на якія патрэбна знайсці адказы ў тэксце. Праўда, асобныя пытанні змешчаны аўтарамі-складальнікамі пасля адпаведных артыкулаў у сучасных вучэбных дапаможніках. Таму мяркуем, што дадзены падыход не варта апісваць.

Назва метадычнага прыёма **«паблытаныя лагічныя ланцужкі»** таксама гаваркая. Тут пэўны праграмны матэрыял па мове ці літаратуры настаўнік падае класу са спецыяльнымі памылкамі. На этапе выкліку, зыходзячы з асноўнай яго мэты, вучням спачатку даецца мажлівасць самастойна пазнаёміцца з наглядным тэарэтычным матэрыялам і выказацца наконт яго правільнасці. Напрыклад, настаўнік на ўроку мовы ў 9 класе перад знаёмствам з тэмай «Тыпы складаных сказаў» прапануе ўважліва разгледзець і прааналізаваць прадстаўленую табліцу-ланцужок. Кожны яе элемент пажадана дэманстраваць пад пэўным нумарам для больш дакладнага ўказання.

На этапе рэфлексіі дзесяцікласнікі назавуць убачаныя памылкі і прадставяць зробленую самастойна ці групай апорную табліцу па гэтай тэме.




Прыём паблытаных лагічных ланцужкоў можна выкарыстоўваць і на ўроках літаратуры. Больш прыдатны ён будзе на занятках па біяграфіі пэўнага пісьменніка. Тут настаўнік перад самастойным вучнёўскім чытаннем артыкула можа прадставіць класу спачатку адзін з паблытаных ланцужкоў, напрыклад, жыццёвага і творчага шляху Пімена Панчанкі:

1. Пімен Емяльянавіч Панчанка нарадзіўся 23 жніўня 1917 года ў Таліне (Эстонія).

↓

2. На трэцім годзе яго жыцця ў час грамадзянскай вайны сям’я пераехала на Ашмяншчыну – радзіму маці.

↓

3. У 1933 г. сям’я пераехала ў Бабруйск. Тут юнак пачаў працаваць на дрэваапрацоўчым камбінаце.

↓

4. Пасля дэмабілізацыі бацькі дзіцячыя і юнацкія гады будучага паэта прайшлі ў Бягомлі (Віцебская вобласць).

↓

5. Пасля заканчэння настаўніцкіх курсаў з 1934 па 1939 гг. працаваў у пачатковай і сярэдніх школах Бабруйскага і Кіраўскага раёнаў.

↓

6. У 1934 г. дэбютаваў як паэт. У 1938 г. выйшаў яго першы зборнік “Упэўненасць”.

↓

7. У 1939 г. быў запрошаны ў Мінск на працу ў газету “Літаратура і мастацтва”.

↓

8. У гады Вялікай Айчыннай вайны паэт служыць у франтавых газетах: “Красноармейская правда”, “За Савецкую Беларусь”, “За свабодную Беларусь” і ў сатырычным часопісе “Партызанская дубінка”. Затым быў пераведзены на Паўночна-Заходні фронт пад Старую Русу, дзе працаваў у газеце «Героический штурм».

9. Быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію, дзе працаваў у рэдакцыі газеты “Беларуская звязда”.

Пасля самастойнага чытання ў час рэпрадуктыўнай гутаркі дзесяцікласнікі зазначаць, што ў прадстаўленым матэрыяле сапраўды ёсць недакладнасці: патрэбна памяняць месцамі ланцужкі пад нумарамі 3 і 4, 8 і 9.

Падобным чынам на этапе выкліку можна выкарыстаць на ўроку беларускай літаратуры і метадычны прыём **«белыя плямы»**. Як вядома, тэрмін асабліва загучаў у дзевяностыя гады ХХ стагоддзя – у час гарбачоўскай перабудовы, калі грамадству пачалі раскрывацца многія раней забароненыя гістарычныя падзеі і факты.

Настаўнік літаратуры можа прапанаваць дзесяцікласнікам правільны лагічны ланцужок фактаў з біяграфіі таго Пімена Панчанкі, але з пропускамі – «белымі плямамі». Гэта можна прадэманстраваць такім чынам:

10. У 1942 г. выйшла кніга паэзіі “Табе, Беларусь”. У 1943 г. – зборнік “Дарогамі вайны”. У 1945 г. – “Далёкія станцыі”.

11. У 1944 г. Пімен Панчанка ...................................

12. У 1946 г. паэт дэмабілізаваўся. Працаваў у часопісе “Вожык”, газеце “Літаратура і мастацтва”. Рэдагаваў альманах “Советская Отчизна”.

13. За кнігу “Пры святле маланак”(1966).................
.................................................................................

Ланцужкі пад нумарамі 11 і 13 патрабуюць ад вучняў дапаўнення таго фактычнага матэрыялу, які яны самастойна прачыталі ў артыкуле падручніка. Як вядома, у 1944 годзе Пімена Панчанку з-пад Старой Русы на два гады перакінулі ў Іран. Тут ім быў створаны вядомы цыкл вершаў «Іранскі дзённік». За зборнік паэзіі «Пры святле маланак» у 1966 годзе паэту была прысуджана Дзяржаўная прэмія імя Янкі Купалы.

З мэтай матывацыі і цікавасці да ведаў падобныя пропускі фактычнага матэрыялу можна рабіць і ў лагічных ланцужках па мове.

Прыём **«мазгавога штурму»** таксама даўно знаёмы настаўніцтву і шырока выкарыстоўваецца на разнастайных уроках. Развіццё творчага тыпу мыслення – асноўная мэта гэтага метадычнага прыёму. Таму ён прыдатны для тых урокаў мовы і літаратуры, дзе вывучаемая тэма прама залежыць ад варыятыўнасці вырашэння пэўнай праблемы.

Звычайна «мазгавы штурм» праводзіцца ў вучнёўскіх групах з пяці-сямі чалавек у тры ўмоўныя этапы: на першым ствараецца банк ідэй, магчымых шляхоў вырашэння пастаўленай педагогам праблемы. Школьнікам прапануецца на працягу пяці-сямі хвілін выказваць і зафіксаваць на дошцы ці ватмане разнастайныя меркаванні.

На другім этапе вучнёўскі калектыў абмяркоўвае пададзеныя ідэі і прапановы і вызначае галоўнае і рацыянальнае ў кожнай з іх, затым аб’ядноўвае па мажлівасці ў адно цэлае.

Трэцім і апошнім крокам групы стане выбар найбольш перспектыўнай на іх думку ідэі, якая і прапануецца ўсяму класу на агульны разгляд.

Прыём **«вольнага пісьма»** больш прыдатны для ўрокаў беларускай літаратуры. На этапе выкліку, калі настаўнік аналізуе ўспрыманне вучнямі самастойна прачытанага дома мастацкага твора, можна прапанаваць класу пісьмова выказаць свае думкі наконт яго назвы. Напрыклад, зафіксаваныя ў сшытках па літаратуры выказванні па пытаннях: «Хто, на вашу думку, з’яўляецца гандляром, а хто паэтам у аднайменнай аповесці І.Шамякіна?» ці «Як вы разумееце загаловак апавядання М. Стральцова “Сена на асфальце”?» стануць добрым падмуркам для ўласнага асэнсавання і параўнання адзінаццацікласнікам уласных  думак па адной і той жа праблеме на розных этапах, пры розных тыпах урока і праз пэўны час.

На этапе **асэнсавання (рэалізацыі)** вучні знаёмяцца з новай інфармацыяй, ведамі. Як зазначалася вышэй, прыярытэтнай у тэхналогіі развіцця крытычнага мыслення з’яўляецца работа з тэкстам. Тут важна, каб менавіта на гэтым этапе ўрока падлеткі адсочвалі ўласнае разуменне новай для іх інфармацыі, сістэматызавалі яе, суадносілі ўжо вядомае з новым. Не выпускалі з поля зроку і рэалізоўвалі мэту, якая была пастаўлена на стадыі выкліку. І галоўнае на другім этапе – **гэта засваенне вучнямі найбольш эфектыўных спосабаў работы з інфармацыяй.**

Вядома з практыкі, што фарміраванне крытычнага асэнсавання ў школьнікаў выпрацоўваецца ў спрэчках, дыскусіях, падчас абмеркавання і публічных выступленняў – у камунікатыўных зносінах.

Прыёмы вызначэння ключавых слоў падкрэсліваннем, крытычны аналіз тэксту (абмеркаванне навуковых і публіцыстычных артыкулаў, сюжэтаў радыё- і тэлеперадач), рэцэнзавання сваіх і чужых сачыненняў, рэфератаў ужо добра вядомы настаўніцтву, таму не варта пра іх падрабязна весці гаворку.

На гэтым этапе прадстаўляем апісанне больш значных і новых прыёмаў. Гэта «Пазнака на палях», чытанне тэксту з маркіроўкай, запаўненне маркіровачнай табліцы, «шырокія» і «вузкія» пытанні.

**Прыём «Пазнака на палях»** даволі просты. Ён дазваляе старшакласнікам свядома і ўважліва адсочваць уласнае разуменне прачытанага тэксту. І, перш чым яго выкарыстоўваць у вучэбным працэсе, настаўніку патрэбна пазнаёміць школьнікаў з наступнымі агульнапрынятымі значкамі:

Y – галачкай адзначаецца ў тэксце тая інфармацыя, якая ўжо была вядома вучню раней;

– – мінусам пазначаецца ўсё тое, што ідзе ўразрэз з ужо набытымі раней ведамі;

+ – плюсам фіксуецца новая інфармацыя, з якой вучань сустракаецца ўпершыню;

? – пытальнікам адзначаецца незразумелая для вучня інфармацыя, якая патрабуе дадатковых, новых звестак, выклікае жаданне даведацца пра яе больш падрабязна.

Вядома, што такія пазнакі пажадана расстаўляць на палях алоўкам, а лепш выкарыстоваць палоску паперы, якую можна прымацаваць уздоўж старонкі падручніка.

Пасля чытання тэксту з маркіроўкай вучні могуць запоўніць **маркіровачную табліцу**, якая складаецца адпаведна з чатырох калонак. Усе калонкі павінны запаўняцца па парадку – ад першай і да апошняй.

| Y | – | + | ? |
|---|---|---|---|

| | | | |
|---|---|---|---|
| | | | |

Як бачым, гэты прыём патрабуе актыўнага і ўважлівага чытання. Пры традыцыйным навучанні школьнік часта прапускае незразумелае, і таму многае застаецца «за кадрам», а пры выстаўленні на палях, напрыклад, пытальніка, учытацца ў змест параграфа, гэта стымулюе да пошуку адказаў на пэўнае пытанне, прымушае звярнуцца ў першую чаргу па тлумачэнне да настаўніка, а ў час дамашняй падрыхтоўкі – да бацькоў ці дадатковай літаратуры.

Настаўніку пажадана загадзя вызначыць тэкст ці яго фрагмент для чытання з пазнакамі, дакладна рэгламентаваць час і выбраць аптымальную форму праверкі і ацэнкі такога чытання.

Як паказвае вопыт, вучні без асаблівых праблем адзначаюць, што ім ужо было знаёма, і з задавальненнем паведамляюць, што новага і нечаканага даведаліся для сябе ў прапанаваным тэксце. У час праверкі дастаткова папрасіць іх аргументаваць пэўнымі сказамі ці абзацамі адказ на пастаўленае пытанне.

Адной з формаў кантролю эфектыўнасці індывідуальнага чытання з пазнакамі на палях з'яўляецца працяг запаўнення апошняй, трэцяй, калонкі табліцы «Ведаю – Хачу даведацца – Даведаўся», якую пачалі запаўняць яшчэ на этапе выкліку. Праўда, ёсць патрабаванне: запісваць звесткі, паняцці, факты толькі сваімі словамі, не цытуючы тэкст падручніка. Табліцу «Ведаю – Хачу даведацца – Даведаўся» не заўсёды патрэбна запаўняць на занятках, можна прапанаваць школьнікам закончыць яе і дома, а на дадзеным уроку варта запісаць толькі адзін-два тэзісы ці сказы ў кожнай калонцы.

**Прыём «Вызначэнне ключавых слоў падкрэсліваннем»** таксама даволі зручны тэхнічна, просты і добра знаёмы школьнікам і студэнтам. Праўда, застаецца ў такім выпадку нявырашанай адна праблема – культура беражлівых адносін да кнігі. Выйсце на сёння бачым толькі ў капіраванні патрэбных артыкулаў на асобныя лісты, якія можна даць для чытання з пазнакай.

Прымушае разважаць над прачытаным і **прыём «шырокіх» і «вузкіх» пытанняў»**.

Самастойна сфармуляванае і зададзенае вучнем пытанне па змесце лінгвістычнага ці мастацкага тэксту сапраўды з'яўляецца яскравым спосабам дыягностыкі яго ведаў па пэўным матэрыяле. Пытанне ўдала дэманструе ўзровень «паглыблення» ў вывучаны тэкс.

Перш чым выкарыстоўваць гэты прыём на ўроку, настаўніку пажадана спачатку навучыць вызначаць разам «шырокія» і «вузкія» пытанні па пэўнай тэме ці праблеме.

Напрыклад, на заключных занятках па рамане «Людзі на балоце» І.Мележа ў 10 класе настаўнікам могуць быць пастаўлены наступныя «шырокія» пытанні:

- Чаму свой раман пісьменнік назваў «Людзі на балоце», а не «Ганна і Васіль»?
- Што, на вашу думку, ужо ўстарэла ў гэтым творы, а што застаецца сучасным?
- Каму прысвяціў свой раман Мележ ? Як гэта выяўлена ў яго змесце? і інш.

«Шырокія» пытанні, прыдуманыя вучнямі, далей могуць стаць і тэмамі сачынення.

«Вузкія» пытанні звычайна застаюцца на традыцыйных уроках аналізу пэўных урокаў ці частак мастацкага твора:

- Праз якую мастацкую дэталь пісьменнік паказвае, як нарадзілася каханне паміж Ганнай і Васілём?
- Як пісьменнік апісвае нараджэнне сімпатыі паміж маладымі людзьмі? і г.д.

Папрактыкавацца ў вызначэнні «шырокіх» і «вузкіх» пытанняў можна на аснове метадычнай падборкі, што звычайна змяшчаецца пасля мастацкіх твораў у любым школьным падручніку беларускай літаратуры 5-11-ых класаў.

Апошнім этапам механізма тэхналогіі развіцця крытычнага асэнсавання ў школе з'яўляецца **рэфлексія (разважанне)**, на якім у вучняў фарміруецца асабістая думка, адносіны да вывучанага матэрыялу, прыводзяцца ў сістэму новыя веды па тэме і, калі ў гэтым ёсць неабходнасць, плануюцца новыя шляхі далейшага пошуку для вучэбнай дзейнасці. А гэта значыць, што настаўніку тут будзе да месца выкарыстаць наступную асобасна арыентаваную тэхналогію – праектнага навучання.

На этапе рэфлексіі настаўнік з класам можа пры неабходнасці закончыць запаўняць маркіровачную табліцу «Ведаю – Хачу даведацца – Даведаўся», асабліва акцэнтаваць увагу на запаўненне апошняй яе калонкі.

Этап рэфлексіі таксама дае магчымасць завяршыць работу па незразумелай для вучняў інфармацыі, што пазначана імі на палях артыкула пытальнікамі і патрабуе дадатковых новых звестак.

Пад канец урока можна вярнуцца да ключавых слоў, да правільных і памылковых сцвярджэнняў, прывесці ў сістэму паблытаныя лагічныя ланцужкі і г.д.

Даволі эфектыўнымі прыёмамі могуць паслужыць складанне кластэра, напісанне сінквейна і эсэ.

Дапамагае вучням свабодна і адкрыта думаць па любой тэме на этапе рэфлексіі метадычны **прыём «Складанне кластэра»**, ці проста «Кластэр». Яшчэ яго можна назваць і «Павучок», бо слова «кластэр» запазычана з французскай

мовы, што ў перакладзе абазначае «прамень, пучок, сузор’е» і ў гатовым выглядзе нагадвае абрысы павука. Гэта сапраўды нелінейная форма асэнсавання, якая патрабуе ад школьнікаў вызначыць толькі тыя структурныя элементы ў інфармацыі, якія даюць мажлівасць сістэматызаваць ужо набытыя веды па вывучанай тэме ўрока. Прыём кластэра цесна звязаны з «кошыкам ідэй, фактаў і прапаноў». Таму складанне кластэра выкарыстоўваюць і на двух папярэдніх этапах урока: на этапе выкліку з яго дапамогай можна актуалізаваць вопыт і набытыя раней веды па запланаванай тэме ўрока, на стадыі асэнсавання – для структурызацыі вучэбнага матэрыялу.

Кластэр – гэта графічная форма (схема) адлюстравання вывучаемага ці вывучанага матэрыялу, з дапамогай якой можна лёгка і эфектыўна паказаць сэнсавыя межы пэўнай інфармацыі.

Са складаннем кластэра вучні лёгка спраўляюцца. Асабліва не ўзнікае праблем, калі настаўнік хоць адзін раз пакажа ход сваіх разважанняў і высноў на дошцы ў форме графічнай апорнай табліцы: спачатку ў цэнтры запісваецца галоўнае слова-паняцце. Затым ад яго ў розныя бакі адыходзяць стрэлкі-прамяні з фіксацыяй іншых тэрмінаў, ад якіх у сваю чаргу стрэлкі могуць адгаліноўвацца і далей. Выгляд элементаў кластэра можа быць разнастайным: у форме кружкоў, квадрацікаў, ромбаў, зорак, кветак, шаблонаў, авалаў, абрысаў фігур і г.д.

Прыём кластэра можна выкарыстаць таксама і для арганізацыі індывідуальнай і групавой работы як у класе, так і дома. Вось адзін з прыкладаў да лінгвістычнай тэмы «Правапіс Ы, Й пасля прыставак» у 5 класе :






Цікавай творчай формай рэфлексіі з’яўляецца і **сінквейн**.

Сінквейн – гэта верш, які патрабуе аналізу, сінтэзу і абагульнення інфармацыі ў кароткіх выразах. Ён вучыць свядома выкарыстоўваць паняцці і вызначаць уласныя адносіны праблемы. У перакладзе з французскай мовы слова «сінквейн» абазначае «пяць». Такім чынам, сінквейн – гэта верш, які складаецца з пяці радкоў і звычайна пішацца па наступных правілах:

1. На першым радку запісваецца адным словам тэма гаворкі (звычайна назоўнікам).
2. На другім – апісанне тэмы двума словамі-прыметнікамі.
3. На трэцім радку запісваюцца дзеянні трыма дзеясловамі, што адносяцца да тэмы сінквейна.
4. Чацвёрты радок – гэта фраза, сказ з любых чатырох слоў, з дапамогай якіх вучань выказвае свае адносіны да тэмы. Гэта можа быць і крылаты выраз, цытата ці проста вучнёўская фраза ў кантэксце з тэмай.
5. Апошні радок – слова-рэзюме, сінонім з аднаго слова, якое паўтарае сутнасць тэмы, дае новую інтэрпрэтацыю.

Як бачым,  сінквейн – гэта форма свабоднай творчасці, выкарыстанне якой на ўроках стварае спрыяльныя ўмовы для крэатыўнай самарэалізацыі асобы вучня, развівае яго пазнавальныя здольнасці і ўмацоўвае маральны патэнцыял. Вядома, што чалавек, які піша, з’яўляецца актыўным, знаходзіцца ў пастаянным пошуку.

Вось прыклад такога верша, які быў напісаны пасля вывучэння аповесці Якуба Коласа «У палескай глушы»:

Ядвіся

Прыгожая, ганарлівая.

Жартуе, сумуе, кахае.

Няспраўджанае шчасце фанабэрлівага Лабановіча.

Дзічка.

Блізкім  па сутнасці да сінквейна з’яўляецца яшчэ адзін прыём рэфлексіі – напісанне  **эсэ**. Гэта таксама вольнае пісьмо на зададзеную тэму, але без правілаў і абмежаванняў. У форме невялікага нарыса ці публіцыстычнага эцюда вучням прапануецца аргументавана асвятліць пэўнае пытанне. Звычайна эсэ пішацца ў класе адразу пасля абмеркавання літаратурнай, філасофскай ці сацыяльнай праблемы і па часе займае не болей за пяць хвілін.

У заключэнне хочам зазначыць, што дасканала прадуманы аналіз і ацэнка мастацкага твора таксама фарміруюць у вучняў крытычнае бачанне. А такія метады і спосабы, як супастаўленне, падагульненне, рашэнне праблемных сітуацый, устанаўленне прычынна-выніковых сувязяў, тлумачэнне прычын дапушчаных памылак, доказ і абвяржэнне таксама з’яўляюцца вядучымі ў працы настаўніка па гэтай сістэме навучання.

Таму, зразумела, падчас урокаў па тэхналогіі развіцця крытычнага асэнсавання найчасцей будуць гучаць з вуснаў настаўніка і школьнікаў адпаведныя пытанні і заданні: «Дзе дапушчана памылка? У чым прычына яе з’яўлення? Якія тут бачыце недахопы? Ці згодны вы з гэтым? Аргументуйце гэта. Прывядзіце контраргументы. Спрагназуйце сваё бачанне і інш.»

## 1.2. Тэхналогія дзелавой гульні

Дзелавітасць – неабходная рыса характару для кожнай асобы нашага вірлівага часу. Чалавек, які валодае ёю, звычайна арганізаваны і дакладны ў працы, умее пераадольваць цяжкасці і заўсёды дасягае пастаўленай мэты, знаходзіць рацыянальныя спосабы вырашэння праблем. Ён настойлівы, сур'ёзны, разважлівы. Без дзелавітасці, лідэрства сёння вельмі лёгка апынуцца на самай нізкай сацыяльнай ступені грамадства.

Першыя асновы дзелавітасці, як вядома, закладваюцца ў сям'і. Але, зыходзячы з рэаліяў часу, галоўную ролю ў вырашэнні гэтай праблемы, на нашу думку, павінна выконваць сучасная адукацыйная ўстанова. Як сказаў французскі пісьменнік Анры Барбюс, «школа – гэта майстэрня, дзе фарміруецца думка маладога пакалення, трэба моцна трымаць яе ў руках, калі не хочаш выпусціць з рук будучыню». Такім чынам, наспела неабходнасць выхоўваць у вучняў дзелавітасць, якая дасягаецца перш за ўсё шляхам усебаковай сувязі навучання з жыццём.

Найбольш эфектыўны метад, які далучае школьнікаў да прафесійнай дзейнасці, спрыяе развіццю творчых здольнасцяў і самастойнасці, – гэта ўвядзенне ў адукацыйны працэс сучаснай школы дзелавой гульні. Такі дыдактычны метад актывізуе асобу вучня: дае магчымасць стаць лідэрам, дапамагае запомніць значны аб'ём інфармацыі, наладзіць міжасобасныя стасункі з аднакласнікамі і настаўнікамі.

Дзелавая гульня – разнавіднасць асобасна арыентаванай педагагічнай тэхналогіі, якая мае на мэце навучыць асобных школьнікаў ці іх групы прымаць рашэнне. Яе можна выкарыстоўваць у час выкладання асобных тэмаў па геаграфіі, хіміі, фізіцы, біялогіі, а таксама ва ўсіх тыпах і відах урокаў беларускай мовы і літаратуры: у час тлумачэння і паўтарэння новага матэрыялу, абагульнення і сістэматызацыі, праверкі і ацэнкі ведаў вучняў.

Прапанаваная педагагічная тэхналогія, як паказвае вопыт, цікавая не толькі для школьнікаў 5 – 8 класаў. Гэта эфектыўны і карысны від дзейнасці і для старшакласнікаў. Гуляць звычайна хочуць усе вучні, важна толькі ўлічыць іх узроставыя асаблівасці, правільна выбраць форму гульні і арганічна ўключыць яе ў структуру пэўнага ўрока. Падрыхтоўка і правядзенне дзелавой гульні ажыццяўляецца ў чатыры этапы.

На першым этапе настаўнік знаёміць удзельнікаў з тэмай і мэтай гульні, канкрэтызуе, які матэрыял плануецца вывучыць і замацаваць. На другім паведамляюцца агульныя правілы супрацоўніцтва, крытэрыі ацэнкі навучальнай дзейнасці, рэгламент і размяркоўваюцца ролі. На трэцім этапе вызначаюцца склад удзельнікаў каманд і заданні з улікам схільнасцяў і зацікаўленняў вучняў. На чацвёртым этапе падагульняюцца атрыманыя веды і падводзяцца вынікі. Тут важна тактоўна даць агульную і персанальную ацэнку, звярнуць увагу на ўдалыя і слабыя

рашэнні пэўных задач гульні. Пажадана заслухаць прапановы і самаацэнку вучняў, што дапаможа пазбегнуць недахопаў на іншых занятках.

У педагагічнай літаратуры расійскіх аўтараў гэтай дыдактычнай мадэлі: Г.П.Шчадравіцкага, А.Л.Ліфшыца, В.Ф.Камарова і інш. – вызначаюцца розныя тыпы дзелавой гульні: ролевыя, імітацыйныя, арганізацыйна-дзейнасныя.

Звычайна ў вучняў 5 – 11 класаў найбольшую цікавасць выклікаюць **ролевыя** гульні, дзякуючы якім у школьнікаў фарміруюцца некаторыя прафесійныя якасці, лідэрства, развіваецца ўменне кіраваць людзьмі. Поспех залежыць ад здольнасці вучня супрацоўнічаць з аднакласнікамі. Удзельнікі могуць пабываць у ролі настаўніка, экскурсавода, бібліятэкара, карэктара і інш. Такі падыход у выкладанні мовы і літаратуры не толькі разнастаіць змест урока, але і раскрые выхаванцам некаторыя аспекты пэўных прафесій.

Прапануем некалькі ролевых гульняў, якія можна выкарыстаць на занятках і па мове, і па літаратуры.

**«Арфаграфічная эстафета»**

Мэты: удасканальваць у вучняў уменне запісваць тэкст у адпаведнасці з арфаграфічнымі і пунктуацыйнымі правіламі; развіваць лагічнае мысленне, памяць і ўменне працаваць у групе.

Ход гульні. Некалькі паасобнікаў невялікага вершаванага ці празаічнага тэксту дыктоўкі трэба размясціць на сцяне ці дошцы школьнага кабінета за 3 -5 метраў ад вучняў класа. Выкладчык дзеліць клас на групы па 3-4 чалавекі і прапануе ў кожнай вызначыць ролі: 1-2 «кур'еры», 1-2 «пісьменнікі», «карэктар». «Кур'ерам» трэба пабываць ля тэксту вызначаную настаўнікам колькасць разоў і дакладна запомніць як мага больш, нічога не запісваючы. «Пісьменнік» у сшытку павінен правільна запісаць тэкст, прадыктаваны «кур'ерам». За працай сваёй групы сочыць «карэктар». Пасля сігналу настаўніка ён правярае тэкст «пісьменніка», выпраўляе памылкі, параўноўвае запісанае з арыгіналам і ацэньвае працу згодна з прапанаванымі крытэрыямі.

«Арфаграфічную эстафету» можна выкарыстаць практычна ў кожным класе, асабліва на трэніровачна-карэкцыйным ці кантрольна-рэфлексійным этапах сучаснага ўрока мовы.

**«Карэктар»**

Мэты: фарміраваць у школьнікаў пісьменнасць праз параўнанне слоў і знакаў прыпынку прапанаванага тэксту з эталонам; развіваць уважлівасць у працэсе пошуку памылак; выхоўваць супрацоўніцтва ў час працы ў міні-калектыве і цікавасць да прафесіі карэктара.

Ход гульні. Выкладчык мовы павінен загадзя падабраць і размножыць тэкст з запланаванымі памылкамі. Іх агульная колькасць павінна быць вядомая ўсім удзельнікам гульні.

Вучні падзяляюцца на групы ад 3 да 6 чалавек. Настаўнік знаёміць іх з ходам і правіламі гульні.

1. Кожны вучань- «карэктар» атрымлівае тэкст і самастойна выпраўляе ў ім памылкі алоўкам.

2. Пасля індывідуальнай праверкі ўдзельнікі групы калектыўна абмяркоўваюць выпраўленае.

Узгодненыя недахопы пажадана пазначыць фіялетавым стрыжнем.

3. «Карэктары» мяняюцца тэкстамі, параўноўваюць выпраўленае аднакласнікамі з тэкстам-эталонам, ацэньваюць працу паводле прапанаваных крытэрыяў (на гэтым этапе гульні выпраўленні робяцца чырвоным стрыжнем).

У эталоне месцы памылак пажадана пранумараваць.

Гульню можна закончыць агульным каментарам дапушчаных памылак.

**«Вучань-настаўнік»**

Мэта: паўтарыць і сістэматызаваць веды вучняў па вывучаным матэрыяле; развіваць лідэрскія ўменні; прывіваць цікавасць да прадмета і настаўніцкай прафесіі.

Традыцыйна адукацыйны школьны працэс ставіць вучня ў пазіцыю аб’екта навучання. Звычайна настаўнік дае заданні, кантралюе іх выкананне і выстаўляе адзнакі. Зразумела, што пры такім падыходзе лідэрскія здольнасці ў школьнікаў развіваюцца недастаткова, таму для фарміравання ў падлеткаў ініцыятывы прапануем выкарыстаць гульню «Вучань-настаўнік» на працягу ўсяго ўрока мовы, асабліва ў час паўтарэння новага матэрыялу, абагульнення, сістэматызацыі і праверкі набытых ведаў па аб’ёмнай тэме.

За некалькі ўрокаў да запланаванай дзелавой гульні выкладчык паведамляе чатыром-пяці ініцыятыўным вучням, што на наступных занятках яны па чарзе будуць выконваць ролю настаўніка (напрыклад, да дзесяці хвілін па пэўнай тэме). Можна застацца з гэтымі вучнямі пасля ўрокаў і абмеркаваць ход гульні і змест заданняў. Пасля сігналу педагога «вучань-настаўнік» павінен выйсці да дошкі і правесці адпаведнае апытванне ці выканаць заданне.

Ход гульні. У 10-ым класе на заключным уроку мовы па тэме «Марфемная будова слова. Словаўтварэнне» пасля сігналу настаўніка да дошкі выходзіць першы вучань і праводзіць тэарэтычнае пісьмовае апытванне ў форме крыжаванкавай дыктоўкі: чытае азначэнне, правіла, а аднакласнікі пад адпаведны нумар даюць

адказ адным словам, другі вучань выклікае да дошкі 2-3 аднакласнікаў і з каментарам праводзіць марфемны і словаўтваральны разбор слоў. Трэці «настаўнік» прапануе слоўнікавую дыктоўку на правапіс прыставак і галосных у складаных словах, на правапіс галосных і, ы, зычнага й пасля прыставак.

Вучні вельмі адказна ставяцца да такіх урокаў, паміж аднакласнікамі развіваецца супрацоўніцтва, у дзесяцікласнікаў фарміруецца аб’ектыўны погляд на складанасць і адказнасць настаўніцкай прафесіі.

Гульню «Вучань-настаўнік» можна правесці са старшакласнікамі і па-іншаму, асабліва на ўроках праверкі і ацэнкі ведаў па такіх буйных і значных тэмах, як «Літаратура эпохі Сярэднявечча», «Рэалізм як літаратурны напрамак. Захаванне тэндэнцый рамантызму», «Янка Купала», «Якуб Колас» (9 клас), «Іван Мележ», «Уладзімір Караткевіч» (10 клас) і «Беларуская літаратура на сучасным этапе» (11 клас).

На ўступных занятках да адной з названых тэм выкладчык павінен папярэдзіць старшакласнікаў, што па гэтай тэме будзе праведзены тэматычны кантроль і ацэнка ведаў. Найбольш актыўныя і старанныя вучні за пастаянную і сістэматычную працу аўтаматычна атрымаюць высокую адзнаку (9 ці 10 балаў). Добра, калі такіх аб’ектыўна вызначыць увесь клас. На запланаваны ўрок-гульню спатрэбіцца 5-6 вызваленых старшакласнікаў (на 3-4 вучні – 1 «вучань-настаўнік»). Педагог павінен правесці кансультацыю для ўсяго класа і асобна для вызначаных памочнікаў: што трэба ведаць і зрабіць да кантрольнага ўрока. «Вучням-настаўнікам» можна параіць падрыхтаваць дома тры тэматычныя пакеты пытанняў у выглядзе асобных картак-білетаў. Напрыклад, у 9-ым класе па тэме «Рэалізм як літаратурны напрамак. Захаванне тэндэнцый рамантызму» адзін блок пытанняў можна прысвяціць характарыстыцы часу і літаратурнага працэсу, другі – біяграфіям пісьменнікаў, трэці – вывучаным мастацкім творам. Можна карыстацца і пытаннямі падручніка, пададзенымі пад адпаведнымі артыкуламі.

Ход гульні. Пасля паведамлення тэмы і мэты кантрольнага ўрока настаўнік дзеліць клас на 5-6 груп (па 3-4 чалавекі ў кожнай) і прызначае па «вучню-настаўніку». Пажадана рассадзіць групы так, каб яны не перашкаджалі адна адной. Адначасова пачынаецца вуснае апытванне адразу ў 5-6 міні-калектывах. Самому педагогу праводзіць кантроль не рэкамендуецца, лепш пабыць у ролі назіральніка, памочніка, калі раптам узнікнуць праблемы. У кожнай групе на працягу дзесяці хвілін «вучань-настаўнік» працуе з адным аднакласнікам. Астатнія могуць рыхтавацца або слухаць дыялог сяброў. «Вучань-настаўнік» можа весці апытванне па тэме адначасова і ўсіх удзельнікаў сваёй групы, але на працягу ўсяго ўрока, фіксуючы вынікі іх адказаў у «Ацэначным лісце вучня».

Заканчваецца гульня за пяць хвілін да званка падвядзеннем вынікаў вуснага апытвання. Кожны «вучань-настаўнік» каротка аналізуе адказы сваіх аднакласнікаў і называе адзнаку, педагог ставіць яе ў класны журнал.

Такім чынам, за адзін урок з вуснымі маналогамі адначасова выступяць і будуць ацэнены 20 – 25 чалавек. Высокі бал можна паставіць за старанную і аб’ектыўную працу і «вучням-настаўнікам».

Не менш цікавы і займальны тып дзелавой гульні – **імітацыйны, ці сцэнарны**, калі ўдзельнікі выступаюць у пэўнай ролі паводле загадзя напісанага сцэнара. Тут няма аб’екта і мадэлі кіравання, як у гульні ролевага тыпу. Звычайна вучань выконвае адну ролю. Напрыклад, вядучага на літаратурным вечары, экскурсавода ў школьным музеі, бібліятэкара, літаратурнага героя, пісьменніка, вучонага і пад. Як паказвае педагагічны вопыт, дзякуючы ўвядзенню нават элементаў імітацыі ўрок літаратуры становіцца запамінальным і незвычайным. У школьнікаў фарміруюцца артыстычныя здольнасці і цікавасць да прадмета, лепш запамінаецца матэрыял.

Узоры такіх урокаў былі змешчаныя ў навукова-метадычных часопісах «Роднае слова» («Беларуская мова і літаратура ў школе») і «Беларуская мова і літаратура». Напрыклад:

Гарошка, А. Урок-экскурсія па аповесці Я. Коласа «Дрыгва» / А. Гарошка // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1989. – № 4. – С. 32.

Кунавіч, А. Урок-прэс-канферэнцыя па паэме «Тарас на Парнасе» / А. Кунавіч // Беларуская мова і літаратура ў школе. –1989. –№ 8. –С. 70.

Хурсік, Н. Урок-прэм’ера па кнізе С. Алексіевіч «У вайны не жаночы твар...»/ Н. Хурсік // Беларуская мова і літаратура ў школе. –1989. –№ 7. –С. 53.

Генюш, І. Урок-суд над здраднікамі: Па аповесці В. Быкава «Жураўліны крык» / І. Геніюш // Беларуская мова і літаратура ў школе. –1990. –№ 2. –С. 32.

Палякова, Т. Творчасць Івана Мележа ў VIII класе / Т. Палякова // Беларуская мова і літаратура. –2002. –№ 4. –С. 62 і інш.

Элементы вучнёўскага пераймання каго- ці чаго-небудзь, падробкі пад нешта можна выкарыстаць у час правядзення гульняў «Што гэта за слова?» і «Пазнайце фразеалагізм».

Гульня **«Што гэта за слова?»** найбольш прыдатная для школьнікаў пачатковых і сярэдніх класаў, праводзіцца з мэтай аптымізацыі і разрадкі ўрока мовы па лексіцы, па тэме «Словазлучэнне» ў 5 – 8 класах.

Уся гульня пабудавана на жэстах, міміцы і пластычных рухах школьнікаў. Настаўнік выклікае да дошкі вучня, які хоча паўдзельнічаць у гульні. З дапамогай шпількі ці скотчу мацуе на яго спіне загадзя запісанае на асобнай картцы слова або словазлучэнне. Напрыклад, малаток ці стукаць малатком. Змест карткі павінен быць акрэслены: «Сёння мы будзем разглядаць дзеясловы (словы-антонімы; словазлучэнні, звязаныя кіраваннем, і г. д.)». Картку нельга паказваць таму, каму яна мацуецца. Потым выкладчык выклікае іншага вучня і ставіць перад ім задачу

прачытаць і як мага хутчэй з дапамогай пантамімы паказаць напісанае на картцы яе гаспадару і ўсяму класу. Калі адказ- «паказ» няўдалы, настаўнік выклікае наступнага вучня. Гульня паўтараецца з новым словам ці словазлучэннем.

Падобны падыход патрабуецца і да гульні **«Пазнайце фразеалагізм»**. Па чарзе кожны вучань выцягвае са стоса невяліку картку з запісаным устойлівым спалучэннем слоў і тлумачыць яго з дапамогай жэстаў і мімікі. Пры гэтым можна карыстацца і прадметамі на настаўніцкім стале.

Настаўнік мовы павінен улічыць, што не кожны фразеалагізм можа быць прыдатны для гэтай гульні. Варта выкарыстаць наступныя ўстойлівыя спалучэнні: *вадзіць за нос, прыкусіць язык, звязаць рукі, брацца за жывот, трэсці кішэнь, закасаўшы рукавы, з нагі на нагу, з кута ў кут, намыліць галаву (шыю), у бубен біць, абвесці вакол пальца, закінуць вуды і інш.*

Да імітацыйнага тыпу дзелавой гульні можна аднесці і стварэнне на ўроках літаратуры і дома разнастайных «дыяфільмаў», «сцэнараў кінафільмаў», напісанне рэцэнзій. Школьнікі будуць мець магчымасць дакрануцца да сутнасці прафесіі мастака, рэжысёра, аператара, сцэнарыста.

Так, у 5 класе настаўнік можа параіць вучням загадзя стварыць «дыяфільмы» да заключных заняткаў на аснове вывучаных народных ці літаратурных казак, асобных апавяданняў і аповесцяў. Такую дзіцячую фабрыку можна адкрыць, калі школьнікі ўжо закончылі вывучаць казкі Якуба Коласа «Крыніца» ці Уладзіміра Караткевіча «Нямоглы бацька», аповесць Міхася Лынькова «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў» і інш. Герояў менавіта гэтых мастацкіх твораў лёгка адлюстраваць на паперы. У працэсе падрыхтоўкі настаўнік нагадае пяцікласнікам, што для кадра «дыяфільма» важнае не толькі ўдалае анімацыйнае адлюстраванне літаратурных герояў на паперы, але і тэкст, які змяшчаецца ў любым кутку «кадра». Пажадана размеркаваць эпізоды твора паміж школьнікамі і прапанаваць выбраць для кадра самае галоўнае, яскравае, што дапамагае раскрыць характары персанажаў.

Трэба сказаць, што ў гэтай гульні ўсё скіравана на тое, каб асэнсаваць твор. А вынікам індывідуальнай працы зможа стаць наглядны калектыўны альбом-»дыяфільм» (злучаныя скотчам па парадку ўсе вучнёўскія працы).

**Арганізацыйна-дзейнасны тып** дзелавой гульні больш прымальны для ўрокаў літаратуры ў старэйшых класах. Падчас такой гульні для вырашэння пэўнай праблемы ці задачы патрабуюцца веды і ўменні розных спецыялістаў. Настаўнік павінен узяць на сябе ролю каардынатара калектыўнай дзейнасці ўсіх удзельнікаў, улічыць іх асабістыя магчымасці і інтарэсы. Вучнёўскія веды на такіх занятках часта ацэньваюцца ў балах, больш карысна для школьнікаў пачуць добрае слова педагога.

Як прыклад выкарыстання арганізацыйна-дзейнаснага тыпу дзелавой гульні ў адукацыйным працэсе школы прапануем пазакласнае мерапрыемства – **вусны**

**часопіс па тэме «Адам Міцкевіч – прадвеснік адраджэння беларускай літаратуры» для вучняў 8-10-ых класаў.**

Прыкладна за тыдзень да яго класны кіраўнік арганізоўвае ў класе міні-калектывы пад умоўнымі назвамі – «мастакі-афармляльнікі» , «фатографы», «бібліятэкары», «бібліёграфы», «артысты», «літаратуразнаўцы», «гісторыкі», «краязнаўцы» – і дае вучням канкрэтныя спісы літаратуры і заданні, неабходныя для рэалізацыі запланаванай тэмы заняткаў. Такім чынам, ход мерапрыемства рыхтуецца сіламі саміх вучняў. Педагогу патрабуецца толькі прадумаць і ўмела звязаць усе сітуацыі навучальнай гульні.

Вучням – «мастакам-афармляльнікам» і «бібліятэкарам» варта прымацаваць у кабінеце і прыгожа аздобіць партрэт Адама Міцкевіча; пажадана падрыхтаваць кніжную выставу перакладных твораў пісьменніка і літаразнаўчых прац; на дошцы або на аркушы паперы можна напісаць па-польску і ў перакладзе наступныя словы, што паслужаць эпіграфам да ўрока:

*Літва! Бацькоўскі край, ты як здароўе тое:*

*Не цэнім, маючы, а страцім залатое –*

*Шкада, як і красы твае, мой родны краю.*

*Тугою па табе тут вобраз твой ствараю.*

Пан Тадэвуш. Пераклад Я. Семяжона.

Ці:

*0, мне дажыць бы да гэткай уцехі,*

*Каб мае трапілі кнігі пад стрэхі,*

*Каб і мае ўзялі кнігі сялянкі,*

*Простыя кнігі, як іх калыханкі.*

Пан Тадэвуш. Пераклад М. Танка.

Дарэчы будзе выкарыстаць і схематычную карту «Па мясцінах вандроўніка-пілігрыма Адама Міцкевіча», а таксама вялікі самаробны часопіс, на лістах якога можна напісаць назвы старонак і змясціць патрэбны ілюстрацыйны матэрыял.

Распачаць часопіс настаўнік можа з праслухоўвання славутага паланэза «Развітанне з Радзімай» Міхала Клеафаса Агінскага або аднаго з паланэзаў Фрыдэрыка Шапэна – блізкага сябра і суайчынніка Адама Міцкевіча. Такая музычная застаўка створыць адпаведны настрой і эмацыйна ўвядзе ў гістарычную эпоху канца XVIII – пачатку XIX ст. Выкладчык паказвае партрэт Адама Міцкевіча і адгортвае першую старонку часопіса: «Такім бачылі Міцкевіча яго сучаснікі».

Добрым дадаткам да вуснага апісання знешняга выгляду творцы будзе зачытванне ўспамінаў яго сучаснікаў.

Вось як апісваў першую сустрэчу з паэтам-выгнаннікам у Швейцарыі польскі пісьменнік Зыгмунт Красіньскі: «11 жніўня 1830 года Міцкевіч вельмі ветліва мяне прыняў. Ён вельмі бледны і слабы, невысокага росту, з худым тварам, але з цудоўнымі спакойнымі меланхалічнымі рысамі... Халодны, пануры, выглядае вельмі разважлівым чалавекам... » Значна пазней, у Францыі, у 1849 г., рускі крытык Аляксандр Герцэн запомніў Адама Міцкевіча такім: «Шмат думак і пакутаў баразнілі яго хутчэй літоўскае, чым польскае аблічча. Яго фігура, галава з пышнымі сівымі валасамі і стомленым поглядам выяўлялі перажытае няшчасце, унутраны боль... »

Акцэнтуючы ўвагу вучняў на партрэце Адама Міцкевіча, настаўнік адзначае, што такім задумлівым і меланхалічным паэта зрабіла туга па Радзіме. Трыццаць адзін год, аж да самай смерці, А. Міцкевіч так і не здолеў вярнуцца з выгнання ў сваю Літву-Бацькаўшчыну.

Тут будзе дарэчы працытаваць радкі з уступу да паэмы «Пан Тадэвуш», якімі выкладчык «адгорне» другую старонку часопіса – «Зямля навагрудская, краю мой родны... ».

Вучань- «краязнаўца» працягвае далей, што Наваградчына – надзвычай маляўнічы куток Беларусі. Заезджаму госцю адразу кідаецца ў вочы прыгажосць яе прыроды: зялёныя палі, лясы, высокія ўзгоркі, зубчасты край Налібоцкай пушчы, непаўторнасць краявідаў ракі Нёман і возера Свіцязь, авеяных легендамі і паданнямі.

Праз мультымедыйную ўстаноўку можна паказаць паштоўку з выявамі славутага возера і прапанаваць паслухаць адну з легендаў. Змест народных легендаў пра Свіцязь ёсць у кнізе «Лісце забытых алеяў» Кастуся Цвіркі (с. 20) і ў зборніку твораў беларускага фальклору «Свяці, свяці, сонейка» (с. 96 – 98).

Пасля даецца слова вучням- «бібліёграфам». Трэцяя старонка – «З радаводнага дрэва Міцкевічаў».

Радавод Міцкевічаў бярэ пачатак з XVIII ст., калі прадзед пісьменніка са сваёй сям’ёй пакінуў Лідскі павет і асеў на Наваградчыне, дзе купіў невялікі фальварак. З прычыны шматлікіх падзелаў гаспадарка меншала, і паступова род страціў усялякія доказы сваёй прыналежнасці да шляхты.

Бацька Адама, Мікалай Міцкевіч, спачатку працаваў каморнікам (чыноўнікам па зямельных справах), а пазней – адвакатам. Дзякуючы гэтай пасадзе ён дамогся звання шляхціца. Маці, Барбара Маеўская, таксама была шляхцянкай. Гадаваць дзяцей бацькам дапамагалі нянька Гансеўская і стары слуга Блажэй.

Сям’я Міцкевічаў ганарылася і сваім радавым гербом пад назвай «Порай» – яркім сведчаннем шляхетнасці. Аднак сама па сабе прыналежнасць да знатнага

роду не давала сродкаў на існаванне, таму чацвёра сыноў Мікалая Міцкевіча здабывалі свой жыццёвы хлеб уласнай працай, інтэлектам: Францішак служыў падпаручнікам, Адам быў настаўнікам, Аляксандр – юрыстам, Ежы – медыкам, пяты памёр яшчэ немаўлём.

Чацвёртая старонка – «Дзяцінства край, ты з намі да скanання, чысты, светлы, як першае каханне…»

Нарадзіўся Адам Міцкевіч 24 снежня 1798 г., на Куццю, напярэдадні каталіцкіх Калядаў, у фальварку Завоссе (цяпер Баранавіцкі раён), паводле іншых версій – у вёсцы Літоўка ці фальварку Асавец.

Дом Міцкевічаў амаль нічым не адрозніваўся ад сялянскіх хат: «Высокая саламяная страха, ганачак на драўляных слупах, пад вокнамі ў агародчыку кветкі. Недалёка ад хаты свіронак, крыху збоку – прасторны хлявец. Побач высока ў неба нацэліўся калодзежны журавель. На прыгуменні бярозы, а за імі гумно. Палявая сцяжынка за гумном уздымаецца на ўзгорак, а адтуль накіроўваецца на навагрудскі гасцінец». Так апісаў фальварак у сваім нарысе беларускі літаратуразнаўца Сцяпан Александровіч.

(У час чытання можна паказаць на экране літаграфію «Фальварак Завоссе» паводле малюнка Напалеона Орды альбо іншую выяву дома, у якім нарадзіўся паэт.)

Па рэлігійным веравызнанні Міцкевічы былі каталікамі. Свайго сына Адама бацькі хрысцілі 22 лютага 1799 г. у Наваградскім фарным касцёле, што быў заснаваны яшчэ ў XIV ст. вялікім князем літоўскім Вітаўтам. Пабудова захавалася да нашага часу і знаходзіцца каля Замкавай гары.

Вера ў Бога яшчэ больш умацавалася ў сямейнікаў Адама Міцкевіча пасля аднаго здарэння, якое расказаў свайму сябру Антону Эдварду Адынцу сам паэт. Аднойчы, калі Адам быў яшчэ зусім маленькі, ён незнарок выпаў з акна і страціў прытомнасць. Маці, напалоханая няшчасцем, з напаўжывым сынам на руках пабегла да цудадзейнага абраза Прасвятой Панны Замкавай у Навагрудку. Пасля матчынай малітвы хлопчык ажыў. Вось як сам Адам Міцкевіч распавёў пра гэта ў пачатку паэмы «Пан Тадэвуш»:

*Паненка... што горад замковы*

*бароніш Навагрудскі з верным*

*ягоным жа людам!*

*Вось так, як мяне да здароўя*

*вярнула ты цудам*

*(тады, як ад плакаўшай маці табе пад апеку*

*я ахвяраваны, падняў амярцвелу павеку*

*і зараз жа мог да святыняў тваіх ад парогу*

*йсці пешкі, за вернута жыцце падзякаваць Богу),*

*так нас ты цудоўна павернеш пад родны блакіты...*

Пераклад Б. Тарашкевіча.

У 1804 г. бацька будучага паэта пераехаў з Завосся ў Наваградак, дзе купіў маленькі дамок. Праз тры гады Адам паступіў вучыцца ў Навагрудскую дамініканскую школу. Тут пачалося сяброўства Адама Міцкевіча з будучым пачынальнікам новай беларускай літаратуры, фалькларыстам Янам Чачотам. Сваю дружбу яны пранеслі праз усё жыццё. Не заўсёды хлапчукі былі ідэальнымі ў паводзінах: таксама лёталі па школьных калідорах, лупцавалі, бывала, па прычыне і без яе сваіх равеснікаў, карысталіся шыфраванай мовай у час адказу настаўніку, але дапамагалі адзін аднаму, стаялі адзін за аднаго гарой.

Пазней, калі сябры былі студэнтамі, на дзень нараджэння Яна Чачота Адам склаў прывітальны верш, у якім з замілаваннем успомніў сумесныя гады вучобы і дружбы.

[Настаўнік ці добра падрыхтаваны вучань чытае верш А. Міцкевіча «Ямбы на імяніны Яна Чачота» (1819) у перакладзе К. Цвіркі.]

У гады вучобы ў Навагрудскай школе ў падлетка і зарадзілася цікавасць і любоў да літаратуры, творчасці. Выконваючы заданні па рыторыцы і паэтыцы, хлопчык шмат чытаў, пісаў байкі і эпіграмы. Свой першы верш Адам стварыў пад уражаннем вялікага пажару, які аднойчы здарыўся ў Навагрудку.

Пятая старонка – «Дзіцячыя і юнацкія захапленні Адама Міцкевіча».

З дзяцінства Адам захапляўся гістарычным мінулым свайго краю. Па-першае, сведкам жывой гісторыі быў бацька хлопчыка – удзельнік паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам славутага генерала Тадэвуша Касцюшкі. Безумоўна, Мікалай Міцкевіч мог шмат цікавага расказаць свайму сыну і яго сябру Яну Чачоту. Пазней, вывучыўшы гістарычныя падзеі і факты, вялікі паэт напрыканцы свайго жыцця напісаў славутую паэму ў гонар Касцюшкі і гераічных паўстанцаў – «Пан Тадэвуш».

Другой прычынай, відаць, былі гістарычныя адметнасці роднага Навагрудка. Нямала яскравых падзей звязана з яго старажытнай Замкавай гарой, на якой прыкладна ў XII ст. быў узведзены замак. У 1250 г. у горадзе князь Міндоўг прыняў хрысціянства, і да канца XIII ст. Навагрудак зрабіўся сталіцай Вялікага Княства Літоўскага. Праўда, пасля шматлікіх войнаў ад замка засталіся толькі разбураныя сцены. Яны пазней і натхнілі паэта напісаць паэму «Гражына», якая стала сапраўдным гімнам Навагрудку:

*Ля Навагрудка, на ўздыбленых горах, -*

*Замак у месяца срэбным зіхценні;*

*Вал здзірванелы схаваўшы, сувора*

*Волатаў-вежаў ламаныя цені*

*Падалі ў роў, дзе між вечнай цясніны*

*Дыхалі воды, затканыя цінай.*

Пераклад С. Дзяргая.

Трэцяе, што абуджала ў Адама Міцкевіча захапленне гісторыяй, – гэта чытанне старажытных летапісаў і кніг у адной з найбагацейшых бібліятэк Беларусі – шчорсаўскай бібліятэцы графа Храптовіча. Тут, у Шчорсах, у паэта ўзнікла задума паэм «Гражына» і «Конрад Валенрод».

Шостая старонка – «Беларуская народная песня і мова ў жыцці паэта».

Паэтычная натура Адама Міцкевіча фарміравалася і на беларускіх народных казках, песнях, паданнях і легендах. З вуснай народнай творчасцю паэт пазнаёміўся значна раней, чым з польскай кніжнай літаратурай.

Таварыш Адама і Яна па Віленскім універсітэце Ігнат Дамейка ўспамінаў пра іх зацікаўленні: «Два нашы студэнты Навагрудскай школы з гадоў маленства добра ведалі наш літоўскі (г. зн. беларускі. – М. Ж.) люд, палюбілі яго песні, прасякнуліся яго духам і паэзіяй, да чаго, вядома ж, прычынілася і тое, што малое мястэчка Навагрудак не шмат чым адрознівалася ад нашых вёсак і засценкаў. Школьнае жыццё было, хутчэй, сельскае. Сябры хадзілі на кірмашы, на царкоўныя ўрачыстасці, бывалі на сялянскіх вяселлях, дажынках і хаўтурах. У тыя школьныя часы ўбогая страха і народная песня распалілі ў абодвух першы паэтычны агонь. Адам хутка ўзнёсся да высокай сферы сваіх цудоўных твораў, Ян жа да смерці застаўся верны народнай паэзіі...»

Пад уплывам беларускіх паданняў Адам Міцкевіч стварыў балады «Свіцязь», «Свіцязянка», «Рыбка», «Курганок Марылі» і інш.

Пісьменнік шырока ўводзіў у творы і беларускія словы: *зажынкі, дасеўкі, вечарынка, покуць, рунь, бульба, пацеркі, глячок* і інш. Паэт не толькі добра ведаў беларускую мову, мог вольна весці на ёй гутарку, але і высока цаніў яе: *«...З усіх славянскіх народаў русіны, гэта значыць сяляне Пінскай, часткова Мінскай і Гродзенскай губерняў, захавалі найбольшую колькасць агульнаславянскіх рыс. У іх казках і песнях ёсць усё. Пісьмовых помнікаў у іх мала, толькі Літоўскі Статут напісаны іх мовай, самай гарманічнай і з усіх славянскіх моў найменш зmененай». І яшчэ: «...На беларускай мове, якую называюць русінскай або літоўска-русінскай... гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая*

*гаворка, яна ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі».*

Потым класны кіраўнік прапануе класу паразважаць над пытаннем: «Чаму Адам Міцкевіч, узгадаваны на глебе беларускасці, пачаў пісаць па-польску?».

Прычынай паслужыла, мажліва, тое, што ў сям'і Міцкевічаў практычна ўсе размаўлялі па-польску – гэта было адметнай рысаю шляхецтва. Акрамя таго, у сувязі з трэцім (і апошнім) падзелам Рэчы Паспалітай (1795) Беларусь была канчаткова далучана да Расеі. З гэтага часу афіцыйнай мовай на Беларусі стала руская. Улічваючы палітычнае становішча канца XVIII – пачатку XIX ст., мастак слова, калі хацеў набыць вядомасць, мусіў пісаць альбо па-руску, альбо па-польску. У адваротным выпадку яго магла напаткаць доля іншых беларускіх паэтаў XIX ст., якія так і не здолелі разгарнуць свой талент.

Увагу школьнікаў варта звярнуць на той факт, што апрача беларускай, польскай і рускай моў Адам Міцкевіч валодаў нямецкай, французскай, італьянскай, англійскай, лацінскай і грэчаскай.

З паведамленнем па сёмай старонцы часопіса «Рэч Паспалітая ў канцы XVIII – пачатку XIX стагоддзя» выступае вучань- «гісторык».

У другой палове XVIII ст. Рэч Паспалітая ўступіла ў эпоху Асветніцтва, што значна паўплывала на развіццё навукі і разняволенне грамадскай думкі. Усё гэта выклікала патрэбу сацыяльных, эканамічных і палітычных рэформаў. Такія дэмакратычныя пераўтварэнні ў Рэчы Паспалітай не падабаліся суседнім манархічным дзяржавам, успрымаліся імі варожа. Манархі Расеі, Прусіі і Аўстрыі задумалі падзяліць паміж сабою Рэч Паспалітую – радзіму Адама Міцкевіча. Гэтыя падзелы адбыліся ў 1772, 1793 і 1795 гг. Палітыка гвалтоўнага захопу земляў выклікала нацыянальна-патрыятычны рух за незалежнасць і адзінства, які выліўся ў вызваленчае паўстанне 1794 г. Яно было задушана: многія са змагароў загінулі, трапілі ў ссылку, эмігравалі. Але бунтарскі дух у народа застаўся. Мікалай Міцкевіч стараўся выхоўваць у сыноў пачуццё патрыятызму. У 1812 г., незадоўга да смерці, бацька вітаў уваходжанне ў Польшчу войскаў Напалеона, бо спадзяваўся на хуткае вызваленне сваёй радзімы. Вядома, што падлетак Адам і яго браты цікавіліся лёсам вялікага французскага войска і на ўсё жыццё запомнілі бацькавы ілюзіі пра вызваленчую місію Напалеона.

Змест восьмай старонкі «Філаматы і філарэты» таксама раскрываецца вучнем- «гісторыкам»

У 1815 г. Адам Міцкевіч паступіў у Віленскі ўніверсітэт на фізіка-матэматычны факультэт, але праз год перайшоў на гісторыка-філалагічны, які закончыў у 1819 г. Ва ўніверсітэце будучы паэт атрымаў грунтоўную філалагічную адукацыю і захапіўся творамі сусветных філосафаў і пісьменнікаў. З цікавасцю чытаў Вальтэра, Жан-Жака Русо, Уільяма Шэкспіра, Ёгана Вольфганга Гётэ, Джорджа Байрана.

Віленскі ўніверсітэт быў тады самай прэстыжнай на Беларусі і ў Літве навучальнай установай, у якой лекцыі студэнтам чыталі вядомыя вучоныя і грамадскія дзеячы. Некаторыя з іх пазней сталі актыўнымі ўдзельнікамі паўстання 1830 – 1831 гг.

У гады вучобы ва ўніверсітэце Адам Міцкевіч, Тамаш Зан, Ян Чачот, Ігнат Дамейка і іншыя студэнты – нараджэнцы Наваградчыны – увaходзілі ў тайнае Таварыства філаматаў (сяброў навукі), ад якога пазней адгалінавалася Таварыства філарэтаў (сяброў дабрачыннасці). Як вядома, усе тайныя арганізацыі строга забараняліся царскімі ўладамі, таму філаматы і філарэты былі вельмі асцярожнымі ў падборы новых членаў. Прымаліся самыя надзейныя і здатныя да навукі і творчасці студэнты. Таму таварыства было нешматлікае: спачатку ў яго ўваходзіла 19 чалавек, пазней – 26.

Першапачатковую мэту сваёй арганізацыі філаматы бачылі ў маральным выхаванні асобы і аказанні ўзаемнай дапамогі ў набыцці адукацыі:

*Не возьмем мы хцівасць ва ўжытак –*

*Прэч, сквапнасці, пыхі насенне!*

*Наш самы высокі набытак –*

*Айчына, навука, сумленне!*

Песня Адама. Пераклад К. Цвіркі.

У 1818 г., згодна з новым статутам, задачы таварystваў пашырыліся – усебакова займацца краязнаўствам і весці культурна-асветніцкую працу сярод насельніцтва, агітаваць моладзь у тайныя патрыятычныя згуртаванні з мэтай будзіць у народа імкненні змагацца з расейскім царызмам.

На жаль, дзейнасць членаў таварystваў была выяўлена царскімі ўладамі. У 1823 г. пачалося следства. Адам Міцкевіч, Ян Чачот і іншыя члены былі арыштаваны і зняволены. Дваццаць удзельнікаў асуджаны і высланы ўглыб Расейскай імперыі. Такі лёс напаткаў і Адама Міцкевіча, які ў 1824 г. вымушаны быў назаўсёды пакінуць сваю Наваградчыну, родную Літву-Бацькаўшчыну.

Закончыць старонку можна падрыхтаваным загадзя выразным чытаннем на памяць твораў «Песня Філарэтаў», «Песня Адама», «Ода да маладосці», дзе аўтар выказаў веру ў светлую будучыню свайго народа.

Па дзевятай старонцы «Ніколі, нідзе не магу я расстацца з табою!..» выступае вучань- «бібліёграф».

*Ніколі, нідзе не магу я расстацца з табою!*

*Ідзеш ты па моры, па сушы ў дарогу са мною,*

*Сляды твае бачу па схілах, высокіх і слізкіх,*

*І чую твой голас у шуме каскадаў альпійскіх;*

*Наўкол азірнуся, і страх валасы падымае:*

*Баюся сустрэцца з табой, але прагна жадаю...*

Пераклад М. Калачынскага.

Гэтыя пранікнёныя радкі паэта прысвечаны Марыі Верашчацы, дачцэ шляхціцаў з Туганавічаў. Сюды ўпершыню Адам Міцкевіч прыехаў са сваім сябрам і калегам па Віленскім універсітэце Тамашом Занам, які быў знаёмы з Міхалам і Юзафам Верашчакамі – братамі Марыі. Юнакі прыехалі ў Туганавічы якраз у дзень Марыіных імянінаў – у жніўні 1820 г. Для каталіцкай дзяўчыны гэта быў дзень, калі яна ўшаноўвала свайго анёла-ахоўніка, хоць нарадзілася Марыя, як і Адам, 24 снежня, толькі ў 1799 г. (ці не знак гэта лёсу?).

Марыля (так называў яе паэт) была адукаванай і вельмі шматграннай асобай: яна шмат чытала (па-французску – у арыгінале), ведала яшчэ нямецкую і італьянскую мовы, пісала вершы і п’есы, іграла на фартэпіяна. Захапленне дзяўчыны беларускімі народнымі песнямі перадалося і закаханаму ў яе Адаму, які любоў да роднага фальклору захаваў на ўсё жыццё.

Але закаханыя не змаглі злучыць свае лёсы: гэтаму перашкаджала недастатковая матэрыяльная забяспечанасць маладога паэта. Бацькі выдалі дзяўчыну замуж за багатага графа Путкамера.

Вобраз Марылі Верашчакі адлюстраваны ў вершах Адама Міцкевіча «Да М...» («Прэч з воч маіх...»), «Няўпэўненасць», «Сон», «Курганок Марылі», «Сябрам», «Люблю я», «Да ***» («На Альпах у Сплюгене») і інш.

Тут варта прапанаваць вучням прачытаць два-тры вершы з інтымнай лірыкі паэта.

Зразумеўшы, што каханне страчана, у кастрычніку 1822 г. паэт напісаў замужняй Марыі ліст: «*...Каханая Марыя, я цябе шаную і абагаўляю, як багіню. Каханне маё такое ж бязвіннае і нябеснае, як і сам яго прадмет... Ты мой анёл-захавальнік, усюды прысутны... Але я не магу ўтрымацца ад страшэннага хвалявання, калі ўспамінаю, што я страціў цябе назаўсёды, што я буду толькі сведкам чужога шчасця, што ты забудзеш мяне; часта ў адну і тую ж хвіліну я малю Бога, каб ты была шчаслівая, хаця б і забылася пра мяне, і адначасна гатоў закрычаць, каб ты памерла... разам са мной!... Дарагая, адзіная мая! Ты не бачыш прорвы, над якой мы стаім!..*»

Толькі на трыццаць шостым годзе жыцця, калі паэт знаходзіўся ў эміграцыі ў Парыжы, ён ажаніўся з Цэлінай Шыманоўскай, дачкой славутай польскай піяністкі

Марыі Шыманоўскай. У іх сям’і нарадзілася шасцёра дзяцей. Першую дачку Адам Міцкевіч назваў Марыяй.

Дзясятая старонка «Калі ж дазволіш, Божа, мне ў той край вярнуцца з выгнання горкага, каб дома апынуцца...» таксама агучваецца вучнем-«бібліёграфам».

Настаўнік Ковенскай павятовай школы і паэт Адам Міцкевіч быў высланы з Літвы ва «ўнутраныя» губерні Расеі. У 1824 г. ён назаўсёды пакінуў сваю Наваградчыну і зрабіўся эмігрантам. Спачатку паэт па этапе прыехаў у Пецярбург. Тут ён пазнаёміўся і зблізіўся з паэтамі-дзекабрыстамі Кандратам Рылеевым і Аляксандрам Бястужавым. За пяць гадоў вандравання па Расеі пісьменнік наведаў яшчэ Крым, Адэсу і Маскву.

Восенню 1826 г. у Маскве Адам Міцкевіч пазнаёміўся з Аляксандрам Пушкіным, які толькі што вярнуўся з Міхайлаўскага, куды быў высланы пасля задушэння дзекабрысцкага паўстання. «Два паэты сустрэліся, быццам два браты. Паэзія і вялікая ўзаемная сімпатыя зблізілі іх. Асабліва захаплялі Пушкіна дзівосныя імправізацыі Міцкевіча... Падчас адной з такіх імправізацый у Маскве Пушкін, у гонар якога была наладжана вечарына, раптам саскочыў з месца і, кудлацячы валасы, амаль бегаючы па зямлі, ускрыкнуў: «Які геній! Які свяшчэнны агонь! Што я побач з ім!» І, кінуўшыся Адаму на шыю, абняў яго і пачаў цалаваць, быццам брата...» – пісаў у кнізе «Все волновало нежный ум» Арнольд Гесэн.

У 1829 г. Адам Міцкевіч пакінуў Расею і спешна скіраваўся ў Заходнюю Еўропу, дзе правёў астатнія 26 гадоў свайго жыцця. Нейкі час пісьменнік жыў у Германіі, Францыі, Швейцарыі, Італіі, Турцыі.

За мяжою сродкі на існаванне для сябе і сваёй сям’і паэт здабываў пераважна выкладчыцкай дзейнасцю: чытаў курс лекцый па лацінскай літаратуры ў Лазане (1839), выкладаў славянскія літаратуры ў Калеж дэ Франс у Парыжы (1840 – 1844), рэдагаваў газету «Трыбуна народаў» (1849).

У 1848 г. А. Міцкевіч паехаў у Італію, каб дапамагаць эмігранцкай моладзі ў арганізацыі легіёнаў для барацьбы з Аўстрыйскай імперыяй. Паэт разам з патрыётамі-эмігрантамі спрыяў вызваленню не толькі італьянцаў, але і іншых народаў, найперш славянскіх. Легіён, у якім служыў Адам Міцкевіч, абараняў ад французскай арміі і вольны Рым.

Падчас Крымскай вайны (1853 – 1856) пісьменнік выехаў у Канстанцінопаль для фарміравання легіёнаў для барацьбы з Расеяй на баку Турцыі. Але тут ён захварэў на халеру і 26 лістапада 1855 г. памёр. У 1856 г. прах Адама Міцкевіча быў перавезены ў Парыж, а ў 1890 г. – у Вавельскі замак у Кракаве.

Закончыць мерапрыемства можна літаратурнай віктарынай «Што ты запомніў з жыцця і творчасці Адама Міцкевіча?» ці загадзя падрыхтаваным выразным чытаннем на памяць вершаў пра вялікага паэта: «Над Свіцяззю» Петруся

Броўкі, «На Навагрудскай гары» Максіма Танка, «Адаму Міцкевічу» Рыгора Барадуліна, «Адам Міцкевіч у Туганавічах» Вольгі Іпатавай і інш.

### 1.3. Тэхналогія педагагічных майстэрняў (французская)

Пасля вывучэння тэмы «Уладзімір Караткевіч. Аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха»; раман «Каласы пад сярпом тваім» у 10-ым класе праграмай рэкамендавана для самастойнага чытання аповесць «Ладдзя Роспачы». Калі адсутнічае гэты твор, то даецца права пазнаёміцца і з іншымі, якія ёсць у школьнай бібліятэцы. Пры жаданні настаўнік літаратуры можа правесці і ўрок пазакласнага чытання. На нашу думку нельга абмінуць па-за ўвагай і аповесць гэтага класіка «Сівая легенда» (1960). На гэтых занятках варта выкарыстаць метады, прыёмы і формы працы паводле тэхналогіі педагагічных майстэрняў.

Гэтую тэхналогію таксама называюць французскай, бо яна распрацаваная ў Францыі прадстаўнікамі плыні «Французская група новай адукацыі». Псіхолагі названага руху лічылі, што ўдасканаліць любое грамадства можна толькі пры ўмове карэнных зменаў у адукацыі. Яны былі перакананыя ў тым, што кожны чалавек здольны здабываць веды самастойна, але асабліва ў сумесным пошуку. Педагог-майстар павінен прадумаць і арганізаваць ход заняткаў такім чынам, каб кожны вучань праз асабісты вопыт і даследаванні быццам сам адкрываў веды.

Найбольш важныя і неабходныя прынцыпы эфектыўнай пабудовы педагагічнай майстэрні:

1) абавязковае стварэнне педагогам атмасферы шчырасці, добразычлівасці і сутворчасці на ўсіх этапах урока;

2) майстар павінен звяртацца да асабістых пачуццяў школьніка, абуджаць яго персанальную зацікаўленасць у вывучэнні тэмы;

3) на працягу заняткаў не ацэньваць працу вучня, а на апошнім этапе даць яму магчымасць самому ацаніць сябе;

4) пажадана чаргаваць індывідуальную працу падлеткаў з калектыўнай, даць ім права выбару відаў дзейнасці;

5) педагогу важна не спяшацца адказваць самому на пастаўленыя пытанні, бо галоўнае – не так вынік, як сам працэс пошуку ведаў;

6) неабходна дамагацца роўнасці ў адносінах паміж школьнікамі і настаўнікам.

Звычайна на ўрокі па тэхналогіі педагагічных майстэрняў адводзіцца ў сярэднім дзве гадзіны, але, улічваючы рэальныя магчымасці педагога і змест сучаснай праграмы па беларускай літаратуры, паспрабуем паказаць сутнасць методыкі ў межах сарака пяці хвілін на асноўных структурных этапах гэтай тэхналогіі.

Вынікам урока па аповесці «Сівая легенда» павінна стаць разуменне дзесяцікласнікамі аўтарскай ідэі ў творы – асуджэнне дэспатызму, жорсткасці,

рэнегацтва і ўслаўленне найлепшых рысаў беларускага характару ў вобразе галоўнага героя – шляхціца Рамана Ракутовіча; раскрыццё мастацкай вартасці аповесці і яе сімволікі.

Урок пазакласнага чытання варта пачаць (не аб'яўляючы яго тэмы, задач і этапаў) з **індукцыі** («навядзення») ўдзельнікаў на тэму ці праблему, якую ўзняў пісьменнік у мастацкім творы. Выклікаць у вучняў эмацыйны настрой, пачуцці, асацыяцыі, якія б спрыялі ўдумліваму стаўленню да прадмета абмеркавання, – асноўная задача першага этапа. Для гэтага можна выкарыстаць адпаведную мелодыю, песню, уступнае слова педагога-майстра, прачытаны верш, тэкст, фразу, пытанне з мэтай асэнсавання загалоўка мастацкага твора, а таксама фотаздымкі, малюнкі, ілюстрацыі, прадметы і інш.

Удалым індуктарам можа стаць мастацкае чытанне заключнай сцэны аповесці – «Сустрэча закаханых Рамана Ракутовіча і Ірыны на замкавым двары» (пачынаючы ад слоў «Ударыў недзе першы далёкі ўдар звана» да радка «і твар ваяўніка плакаў без слёз»).

Пасля паўзы настаўнік пачынае ажыццяўляць другі этап урока-майстэрні – **самаканструкцыю**, што скіроўвае вучняў на індывідуальную працу па стварэнні гіпотэзы, тэксту, малюнка, праекта, на пошук вырашэння, адказу.

Выкладчык прапаноўвае вучням у сшытку па літаратуры абвесці ручкай сваю далонь і на кожным графічным пальцы ў адзін радок запісаць пачуцці (магчымы розныя часціны мовы), якія ўзніклі пад час слухання ўрыўка. У асацыяцыйны рад, верагодна, патрапяць словы «страх», «боль», «нянавісць», «трывога», «шкадаванне», «радасць» і інш. Кожны вучань зачытвае запісаныя ім словы і дапаўняе гэты рад іншымі, названымі астатнімі ўдзельнікамі майстэрні. Такое заданне ўключае дзесяцікласнікаў у творчы працэс, які прымушае ў дадзеным выпадку зразумець трагізм таго, што адбылося з закаханымі. Потым майстар просіць перачытаць яшчэ раз запісанае, а адно слова, самае галоўнае і важнае, запісаць у цэнтры далоні.

З мэтай вывучэння ўспрымання вучнямі самастойна прачытанай аповесці настаўнік прапаноўвае прыгадаць на галоўнае слова эпізоды, якія выклікалі ў чытачоў гэтае пачуццё, і расказаць пра ўражанні пасля прачытання твора.

Вусныя адказы даюць выкладчыку мажлівасць пераканацца, наколькі добра дзесяцікласнікі ведаюць змест аповесці «Сівая легенда». Школьнікі адзначаюць, што душэўныя пакуты і просьбы нобіля Рамана Ракутовіча, выказаныя Аляхно Кізгайлу, каб той вызваліў Ірыну, выклікаюць шкадаванне і спачуванне; напад паўстанцаў на кісцянёўскі замак – радасць і трывогу; бойка Рамана з Кізгайлам – пачуццё хвалявання за жыццё лірычнага героя.

Супярэчлівыя думкі і пачуцці вучні могуць выказаць пры абмеркаванні сцэны размовы пані Любкі з Ракутовічам, а потым і з Ірынай: адны спачуваюць першай з-за яе няспраўджанага кахання, другія спрабуюць аргументаваць сваю

нянавісць да пані, трэція ацэньваюць вернасць усіх герояў каханню. Практычна ўсе ўдзельнікі майстэрні выказваюць боль і трывогу, калі згадваюць эпізод пакарання закаханых Рамана і Ірыны пасля суда.

Наступныя два этапы педагагічнай майстэрні – **сацыяканструкцыя і творчасць** – зыходзячы з задач гэтага ўрока будуць аб'яднаны. Вучнёўскі калектыў трэба арганізаваць у міні-каманды ці майстэрні, дзе стварэнне гіпотэз, малюнкаў, праектаў, пошук адказаў ажыццяўляюцца ў пары, у групе з трох-пяці чалавек ці індывідуальна. Колькасць міні-групаў звычайна залежыць ад колькасці запланаваных выкладчыкам заданняў. Пры наяўнасці больш за дваццаць удзельнікаў майстэрні варта на пэўнае заданне фарміраваць два-тры міні-калектывы, якія ў працэсе ўрока будуць дапаўняць адзін аднаго.

Кожнай групе школьнікаў майстар дае заданне, запісанае на асобных картках ці на дошцы.

Першай групе, назавем яе ўмоўна майстэрняй «гісторыкаў», прапаноўваецца вызначыць час і месца падзей, асаблівасці эпохі, апісаныя ў «Сівой легендзе».

Другой – «тэатральных дзеячаў» – даецца наступнае заданне: «Як вядома, аповед у творы «Сівая легенда» вядзецца вуснамі швейцарца Канрада Цхакена, які дзевяць гадоў пражыў на Беларусі як наёмны ваяр. Безумоўна, за такі час у яго склаліся свае ўражанні і думкі пра характар беларускага народа. На аснове старонак твора складзіце дыялог з героем-апавядальнікам на гэтую тэму і праінсцэніруйце яго перад аднакласнікамі».

Трэцяй – «літаратурным крытыкам» – прапанавана даць сціслую характарыстыку галоўнаму герою Раману Ракутовічу на аснове яго выказванняў у найбольш значных эпізодах.

Чацвёртая майстэрня – «ваенных тактыкаў і стратэгаў» – выконвае такое заданне: «Адметнасць сюжэта аповесці «Сівая легенда» – падрабязны паказ Уладзімірам Караткевічам батальных сцэнаў штурму, абароны і захопу замка ў Кісцянях. На дошцы ці на аркушы паперы намалюйце ўмоўнымі знакамі карту ходу бітвы паўстанцаў і абаронцаў крэпасці. Якія вашы высновы пасля аналізу баталіі?»

Апошнюю групу складаюць адораныя школьнікі – «мастакі-ілюстратары». Настаўнік просіць стварыць на аркушы два партрэты Рамана Ракутовіча (у барвяным плашчы на белым кані пасля бою і на замкавым двары ў Магілёве), а таксама партрэт пакаранай Ірыны.

Як паказвае практыка, рабіць карту бою і партрэты мастацкіх вобразаў у час правядзення майстэрні не пажадана: гэтая праца патрабуе значнага часу, творчага настрою, фантазіі і цішыні. Таму выкладчыку літаратуры варта загадзя даць вучням магчымасць выканаць гэтыя заданні дома, напярэдадні ўрока пазакласнага чытання.

Выкананыя праекты і ілюстрацыі мацуюцца на дошцы для агляду і абмеркавання. Кожная вучнёўская група дэманструе і абараняе свой праект,

творчае заданне. Гэтыя справаздачныя этапы ў тэхналогіі называюцца **сацыялізацыя і афішаванне**. Ідэальны варыянт абароны праекта той, у якім удзельнічаюць усе члены групы. Астатнія вучні ўважліва слухаюць, пры неабходнасці задаюць пытанні і ў сшытках па літаратуры занатоўваюць свае пачуцці і ўражанні.

Прывядзем для ўзору некаторыя праекты-адказы на прапанаваныя вышэй заданні.

Праект майстэрні «гісторыкаў» можа быць пададзены як асобным вучнем, так і ўсім міні-калектывам.

Падзеі, апісаныя ў аповесці «Сівая легенда», адбываюцца на Магілёўшчыне, непадалёк ад Быхава, у кісцянёўскім замку, а напрыканцы твора – і ў самім Магілёве на пачатку XVII ст., пасля Люблінскай (1569) і Брэсцкай (1596) уній. Гэта быў трагічны для Белай Русі час. Пасля аб’яднання Польскага Каралеўства і Вялікага княства Літоўскага ў нашай краіне ўзмацняўся ўплыў каталіцтва, а беларуская мова і культура захлыналіся ад паланізацыі. На тэрыторыі заходняй часткі Беларусі пачалі інтэнсіўна ўзводзіць касцёлы, замкі, абарончыя збудаванні. Рэакцыяй на ўсё гэта сталі стыхійныя выступленні простых людзей супраць прыгнятальнікаў і іх наймітаў. У размове нобіля Аляхно Кізгайлы з наёмным капітанам Канрадам Цхакенам згадваецца смута ў Віцебску. Як вядома з гісторыі, гаворка ідзе пра паўстанне сялян і шляхты 1623 г, накіраванае супраць сацыяльнага і нацыянальна-рэлігійнага ўціску. Рэлігійны прымус адбіўся і на маладой сям’і Кізгайлаў. «Сам гаспадар, – пісаў Уладзімір Караткевіч, – таксама быў свежы католік, а жонка яго, Любка, заставалася праваслаўнай».

У аповесці дзейнічаюць і рэальныя асобы першай паловы XVII ст. – нобіль Раман Грынка з Ракутовічаў, пад кіраўніцтвам якога быхаўскія сяляне змагаліся супраць уціску магнатаў і іх прыслужнікаў, палітычны дзеяч, прыхільнік уніяцкай ідэі Леў Сапега, Дэспат-Зяновіч і князь Друцкі.

Адзначана ў творы і тое, што горад Магілёў яшчэ не страціў магдэбургскага права, паводле якога гараджане вызваляліся ад феадальных павіннасцяў, што давала ім магчымасць займацца рамесніцтвам, гандлем і земляробствам. Жыхары маглі выбіраць гарадскі орган улады – магістрат, а таксама суд.

Праект «тэатральных дзеячаў» пабудаваны на аснове выказванняў героя-апавядальніка Канрада Цхакена (дзесяцікласнікам трэба падабраць урыўкі з твора і прыдумаць да іх пытанні).

Непасрэдна перад пачаткам абароны гэтага праекта настаўнік прапаноўвае вучням усяго класа заданне: вызначыць і занатаваць рысы характару беларускага народа, найбольш ярка выяўленыя ў выказваннях іншаземца.

Летапісец. Паважаны Канрад, Вы пражылі на Беларусі дзевяць гадоў. Што Вы думаеце пра беларусаў?

Канрад Цхакен. «Так, я жыў сярод іх дзевяць год, часам пачынаў нават думаць па-беларусінску, а ўсё ж ведаў іх ненашмат лепей, чым у першы дзень.

Яны будуць крычаць: «Воўк вырваўся з логава» і ніколі не зробяць ласкі толкам растлумачыць, што здарылася, каб добры хрысціянін зразумеў іх. Як быццам гэта наш абавязак – разумець іхнія тропы і іншасказы... Крый божа, калі сярод іх з’явіцца першы паэт – яны затопяць вершамі ўвесь свет і нікому не дадуць спакою.

Яны трацяць шалёныя грошы на цэлы табун загадзя асуджаных коней – і пакідаюць пад’ёмны мост апушчаным.

Іхнія старыя крэпасці, як Смаляны, Ворша, Магілёў, – страшныя. Я не згадзіўся б абараняць іх нават пад пагрозай пазбаўлення раю (я ўсё адно, бадай што, туды не траплю), нават калі б мне плацілі не пяцьдзясят талераў, а сто. Сапраўды, каб выстаяць за такім плотам, патрэбна вялікая мужнасць і вялікая легкадумнасць. А яны не толькі выстойваюць, але і наносяць страты ворагу.

Яны ўмудрыліся, седзячы ў гэтых быдлячых загонах, адбіцца ад татар і сто год, абяскроўленыя, супрацiўляліся Літве – гэтага досыць».

Летапісец. У сваім жыцці Вы мелі непасрэдныя стасункі з найбольш радавітай часткай беларускага магнацтва – нобілямі. Што можна сказаць пра іх сэнс жыцця?

Канрад Цхакен. «Нобілі – самыя знатныя і самыя паважаныя народам людзі на гэтай зямлі. Яны не проста маюць дрэва продкаў, яны вядуць яго ад якога-небудзь слаўнага чалавека.

Іхні закон гонару: кожнае пакаленне павінна прымножыць славу гэтага продка сваімі дзеяннямі. Таму большасць з іх вызначаецца справядлівасцю, шчырым норавам і неўтаймаванай адвагай у баі.

Гэтыя тры добрыя якасці – я заўсёды казаў гэта – зусім не садзейнічаюць працвітанню. Таму гэта парода належыць да ліку выміраючых. Зніклі нашчадкі князя Вячкі, няма прамых нашчадкаў Андрэя Полацкага, нястомнага ворага Крэўскай уніі. Іх забылі. І па заслузе – няма чаго геройстваваць. Чалавек створаны на тое, каб пладзіцца, а не на тое, каб знішчаць сябе. Які толк у тым, што іх імёны занесены ў які-небудзь гарадзельскі прывілей або першы статут, калі носьбітаў гэтых імён не засталося на зямлі».

Летапісец. Як ваяру Вам даводзілася часта бачыць смерць людзей розных нацыянальнасцяў, у прыватнасці і беларусаў. Чым вылучаюцца яны ў апошнія хвіліны жыцця?

Канрад Цхакен. «Паміраюць спакойна – за іх заступаецца Божая Маці, – так спакойна, быццам у іх шчырыя сяброўскія адносіны і з богам і з чортам. І мне здаецца, што яны не вераць у тое і ў другое».

Летапісец. У чым, на Вашу думку, заключаецца шчасце беларусаў?

Канрад Цхакен. «Тутэйшым людзям мала трэба: толькі штодзённая луста хлеба з салам, гарэлка на свята. І яшчэ дабрата. Калі з імі добры – яны зробяць усё. Нават калі не будзе сала і гарэлкі, толькі павага».

Пасля інсцэніроўкі, у час франтальнай гутаркі, дзесяцікласнікі адзначаюць найлепшыя рысы характару беларускага народа: смеласць, адданасць справе, справядлівасць, дабрыню і павагу да іншых людзей. Усё пералічанае можна аб’яднаць у адно ёмкае паняцце – чалавечнасць. Практычна ўсе ўдзельнікі выказваюць пачуцці захаплення і гонару за свой народ.

Справаздача майстэрні «літаратурных крытыкаў» можа быць прадстаўлена таксама ўсімі членамі. Кожны ўдзельнік называе адну-дзве найбольш значныя рысы характару Рамана Ракутовіча і аргументуе прыкладамі з прачытанай аповесці.

У гісторыі пра закаханых, якую расказаў герою-апавядальніку Канраду Цхакену нейкі поп, і потым, на працягу ўсёй аповесці, у нобіля Грынкі яскрава выяўляюцца такія рысы характару, як настойлівасць у дасягненні мэты і вернасць у каханні да Ірыны. Два разы Раман асабіста прасіў і маліў Аляхно Кізгайлу адпусціць дзяўчыну яму ў жонкі, нягледзячы на іх сацыяльную няроўнасць.

Нянавісць да панства не засляпіла вочы «мужыцкаму цару» пасля штурму замка: ап’янёны перамогай, ён праявіў літасць да наёмных ваяроў-іншаземцаў і да нобіля Аляхно Кізгайлы, пакуль апошні сам не напрасіўся на паядынак, што закончыўся яго смерцю. Праўда, прынцыповым Ракутовіча бачым у адносінах да астатніх ворагаў, пераважна з беларускай шляхты, калі ён загадаў некаторых з іх «пусціць пад корань», хоць добра ведаў, што сам асуджаны ўладамі на смерць за кіраўніцтва паўстаннем.

Справядлівым можна назваць галоўнага героя за яго загад не знішчаць і не рабаваць замак Кізгайлы, а ўсю маёмасць падзяліць пароўну паміж усімі мужыкамі і іх сем’ямі.

Вернасць нобіля свайму народу, бацькаўшчыне мы заўважаем, калі асэнсоўваем прамоўленыя ім словы: «Мужык – станавы хрыбет усяму. А вы яго ў пекла ўвергнулі... Ты ці многа разумееш у гонары? Ваш гонар у Варшаве Жыгімонту пяткі лізаў. Ваш гонар адзінаверцаў маскоўскіх пад Воршай разграміў і пакуты ім чыніў смяротныя. Ваш гонар сваіх беларусаў на прэнг вешае. Да чаго вы народ русінскі, божы народ, давялі ў подласці сваёй? Дзеў на чужацкі ложак шпурнулі. Краіну ўсю! Слёзы яе вам сэрца не абцяжарваюць?! Веру змянілі, хрыстапрадаўцы! Народ прадалі, гандляры! Сваімі рукамі пятлю на яго звілі ды самі і надзелі. Ва ўніжэнні, ва ўціску ён небу вапіе, а вы лікуеце! <...> Я дваран здрадзіў, а ты здрадзіў край. Мне гарэць, а табе пакі. Ды мне, можа, яшчэ і даруе пан Бог, бачачы, што скроні ў мяне ад мучэнняў сівеюць. А табе – няма літасці».

У сцэне размовы ў бібліятэцы Рамана Ракутовіча з пані Любкай Кізгайлай маладая жанчына шчыра прызналася і ў сваім каханні да яго. Можна было пакараць

грэшніцу, але ён і тут гуманны: «Другая ніколі ў такім не сазналася б. Адна ты... Таму і не магу я цябе ненавідзець. І калі што перашкодзіла б мне цябе кахаць, дык не гэта тваё прызнанне».

З канцоўкі аповесці мы даведаліся, што панскае войска разбіла палкі мяцежнікаў, але самога кіраўніка доўга не маглі схапіць. «Амаль ніхто не здаваўся, а астатнюю, большую, частку Раман выпусціў сваім целам: паставіў умову, што здасца, калі іх адпусцяць.

І здаўся. Пасля гэтага кінуліся лавіць адпушчаных уцекачоў, ды куды там». Такім чынам, «мужыцкага цара» можна назваць клапатлівым і самаахвярным.

Такая рыса характару, як мужнасць, яскрава выяўляецца ў сцэне пакарання Ракутовіча і Ірыны на дварцовай плошчы ў Магілёве. Кат адсек герою правую руку вышэй кісці, а на левай пакінуў толькі мезены і безыменны пальцы. Але гэтыя здзекі не зламілі героя.

На аркушы паперы ці на дошцы ўдзельнікі майстэрні «ваенных тактыкаў і стратэгаў» прадстаўляюць загадзя падрыхтаваную карту штурму, абароны і захопу кісцянёўскага замка. Яны павінны тапаграфічнымі знакамі пазначыць названыя ў адпаведным эпізодзе лес, узгорак, лагчыну, вал, Кізгайлаў замак, размяшчэнне абедзвюх армій і асабліва падрабязна апісаць расстаноўку мужыцкага войска. Вусны аповед вучняў мае на мэце паказаць майстэрства падрыхтоўкі і вядзення бою, мужнасць і мудрасць Рамана Ракутовіча як военачальніка і раскрыць прычыны паражэння арміі даволі вопытнага ў вядзенні вайны капітана Канрада Цхакена.

З-за дыму абаронцы замка не заўважылі, як з лагчыны, зусім блізка ад муроў, нечакана выпаўзла дваццаць мужыцкіх вазоў з дзіўным рыжым сенам. Капітан Цхакен, разважаючы пра незвычайнае з’явішча, спазніўся своечасова знішчыць гарматамі гэтыя вазы. І ў выніку абедзве брамы замка Аляхно Кізгайлы згарэлі. Вал перад крэпасцю з-за няхваткі ваяроў таксама не быў абаронены. Гэта і стала першай сур’ёзнай памылкай абаронцаў, бо ўзнікла нечаканая пагроза замку і знікла перашкода для ворага патрапіць у яго.

Раззлаваны капітан Цхакен зрабіў яшчэ адну недаравальную памылку, калі паслаў на вараных конях сваіх кірасіраў на невялікі натоўп узброеных абы-чым паўстанцаў з асаднымі доўгімі лесвіцамі. Як потым выявілася, гэта была запланаваная падсадка, праз якую чорны конны атрад пасля быў цалкам знішчаны конніцай мяцежнікаў.

Сілы абодвух войскаў па колькасці ваяроў сталі няроўнымі. Пасля аблогі замак быў узяты мужыкамі пад кіраўніцтвам «барвянога ўладара і ваяўніка». «Чорт бы пабраў гэтага мужыцкага караля! – злосна праклінаў Ракутовіча наёмны капітан Канрад Цхакен. – Ён ваяваў зусім не па правілах. Праўдзівей, не па тых правілах, па якіх ваююць ва ўсім свеце. І не зразумела, па якіх».

Пасля гэтага выступлення выкладчык прапаноўвае дзесяцікласнікам назваць і запісаць рысы характару Рамана Грынкі, выяўленыя ў батальнай сцэне.

Кульмінацыйны момант педагагічнай майстэрні – этап «разрыву», на якім з'яўляецца новае бачанне, азарэнне. Удзельнікі павінны адчуць недахоп ведаў, унутраны эмацыйны канфлікт, што ў далейшым скіроўвае на паглыбленне ў праблему, на пошук адказаў, на зверку набытых ведаў з літаратурнымі крыніцамі. На дадзеным этапе можна выкарыстаць і «падказкі» – інфармацыю, якая будзе дадзена вучням, калі ў гэтым ёсць патрэба.

Далей, пасля афішавання першага партрэта «барвянога ваяўніка» (на белым кані), майстар прапаноўвае класу паслухаць аўтарскае мастацкае апісанне Рамана Ракутовіча.

«Конь мерна ступаў паміж целамі, і капыты звонка білі аб камень. Белы конь з залацістымі вачыма. А гэты сядзеў на ім як уліты. Бачыў я грыву непаслухмяных і бліскучых попельных валасоў, што адлівалі золатам, ёмісты чэрап з вялікім ілбом, цвёрда сціснуты вялікі рот, жорсткія жаўлакі на шчоках, прамы і крыху кірпаты нос.

Аблічча, што наганяе жах. Але жахлівей за ўсё былі вочы, незразумелыя па колеру, то шэрыя, то сталёвыя. То залацістае ў ім прамільгне, то нават трохі зялёнае, раз'юшанае. Доўгія, светлыя, незразумелыя вочы.

І гэта галава была закінута назад, бы ў нязмернай гардыні, а жылістая рука ўладна сціскала павады. І конь адчуваў гэтую руку і ішоў паслухмяна, дрыжучы кожнай жылкай, касавурачы шалёным вокам і стрыгучы вушамі».

Вучні адказваюць на пытанне: сімвалам чаго выступае ў аповесці Раман Ракутовіч? Майстар побач з партрэтам галоўнага героя кнігі прымацоўвае «падказку»: выяву старажытнабеларускага герба «Пагоня» і бел-чырвона-белага сцяга. Супрацьлеглыя ўражанні выклікае ў вучняў кантраст згаданага партрэта з партрэтамі знявечаных пасля суда ў Магілёве закаханых Рамана і Ірыны. Выкладчык задае пытанне: чаму менавіта так пакаралі суддзі галоўных герояў (юнаку адсеклі кісці рук, а дзяўчыну асляпілі), што сімвалізуе гэтае пакаранне?

У падмацаванне зробленых вучнямі высноваў майстар можа працытаваць урывак з артыкула даследчыка літаратуры Анатоля Вераб'я: «Аповесць насычана патрыятычнай сімволікай. Так, Раман выступае нібы казачны волат-асілак. У ягоным апісанні як вершніка на белым кані, апранутага ў барвяны плашч са старадаўнім двухручным мячом у руцэ, увасобіліся святыя для мастакоўскага сэрца герб «Пагоня» і бел-чырвона-белая старажытная беларуская сімволіка. І потым, калі паўстанне пацярпела паражэнне, на гэтай, як піша Уладзімір Караткевіч, «Богам праклятай, лютай, грэшнай зямлі», ганьбаваліся і былі пакараны і сам вершнік, змагар і абаронца людзей, і ягоныя меч і шчыт, і ягоная каханая, якая ўспрымаецца як дзяўчына і як сімвал Беларусі.

У аповесці «Сівая легенда» асуджаецца дэспатызм, жорсткасць і рэнегацтва. Асабліва трагічна паказана пакаранне Ракутовіча і яго каханай Ірыны <...> якія не здрадзілі свайму пачуццю. Нельга не далучыцца да заключных слоў, сказаных Цхакенам: «Божа, злітуйся над зямлёю, што нараджае такіх дзяцей». Так пранікнёна і балюча сказаць пра аслепленую і абязручаную Беларусь мог сапраўдны талент».

Настаўнік прапаноўвае дзесяцікласнікам паразважапь над сэнсам заключных слоў аповесці, якія сказаў герой-апавядальнік, калі назіраў за сустрэчай скалечаных Рамана і Ірыны, і адказаць на пытанне: якіх «такіх дзяцей» капітан меў на ўвазе?

Адказам могуць паслужьшь названыя школьнікамі рысы характару абодвух літаратурных вобразаў: «такіх – гэта значыць стойкіх, цвёрдых воляю, цярплівых, мэтанакіраваных і – самае галоўнае – верных адно аднаму ў каханні, якое здолелі зберагчы і пранесці праз неймаверныя пакуты і выпрабаванні».

Такім чынам, на этапе «разрыву» як бы замыкаецца кола ходу ўрока-майстэрні па аповесці «Сівая легенда»: ён пачаўся з мастацкага чытання ўрыўка пра трагічны эпізод сустрэчы Рамана і Ірыны і заканчваецца гэтай сцэнай, але ўжо асэнсаванай з пункту погляду літаратуразнаўцы.

Потым майстар скіроўвас ўвагу вучняў на самае першае, запісанае ў цэнтры далоні галоўнае слова, якім яны выказалі сваё ўражанне ад прачытанага, і прапаноўвае, калі ў гэтым ёсць неабходнасць, замяніць яго іншым.

Закончыць педагагічную майстэрню методыка рэкамендуе **рэфлексіяй** – апошнім этапам гэтай тэхналогіі. Рэфлексія – зварот «назад», усведамленне і асэнсаванне кожным удзельнікам уласнай дзейнасці. Настаўнік просіць вучняў выказаць пачуцці, уражанні і заўвагі, якія ўзніклі ў працэсе заняткаў. Гэтыя выказванні – карысны матэрыял для выкладчыка, для ўдасканалення наступнай майстэрні і наогул для далейшай педагагічнай працы.

### 1.4. Тэхналогія калектыўнага асэнсавання

Як зазначалася вышэй, закончыць вывучэнне манаграфічнай тэмы «Уладзімір Караткевіч» у 10-ым класе праграма прапануе самастойным чытаннем і абмеркаваннем аповесці «Ладдзя Роспачы». Дзесяцікласнікі найчасцей аддаюць перавагу ёй, бо можна прачытаць за гадзіну-дзве перад урокам.

Да чытання «Ладдзі Роспачы» падлеткаў прыцягвае не толькі параўнальна малая колькасць старонак, але і лёгкая манера пісьменніцкага аповеду. Сам Уладзімір Караткевіч зазначаў, што гэты твор – адзін з найбольш улюбёных.

Калі зыходзіць з патрабаванняў любой сучаснай педагагічнай методыкі, урок патрэбна пачаць з мэтавай устаноўкі і матывацыі, якія, як вядома, стымулююць вучняў да навучальна-пазнавальнай дзейнасці. Настаўнік прапаноўвае старшакласнікам самім сфармуляваць мэту і задачы ўрока пазакласнага чытання, пастарацца раскрыць тэматыку, праблемы, ідэйны змест і мастацкую арыгінальнасць самастойна прачытанай аповесці.

Пасля некалькіх адказаў педагог скіроўвае ўвагу на пералік задач, загадзя запісаных на дошцы, і просіць параўнаць іх з выказанымі:

- пазнаёміць з творчай гісторыяй напісання аповесці «Ладдзя Роспачы»;

- вызначыць канкрэтна-гістарычнае, міфалагічнае і агульначалавечае ў змесце твора, раскрыць значэнне выкарыстаных сімвалаў і алегарычных вобразаў у ім;

- звярнуць увагу на глыбокі пісьменніцкі роздум над сэнсам чалавечага жыцця і лёсам роднага краю, падкрэсліць аўтарскую пазіцыю ў творы і спосабы яе выяўлення.

Як вядома з вопыту, добра падрыхтаваны клас без асаблівых намаганняў спраўляецца з фармуляваннем мэты і задач урока, але ў вызначэнні праблематыкі, ідэйнага зместу аповесці «Ладдзя Роспачы» без папярэдняга літаратурнага аналізу ў дзесяцікласнікаў узнікаюць цяжкасці.

У сціслым паведамленні пра гісторыю напісання аповесці настаўнік можа зазначыць, што «Ладдзю Роспачы» Уладзімір Караткевіч надрукаваў у 1964 г. Задума яе напісання ўзнікла падчас гасцявання пісьменніка ў свайго дзядзькі Ігара Васілевіча Грынкевіча, які жыў у Рагачове. Ігар Васілевіч валодаў рэдкім талентам выдатнага апавядальніка. У гэтым старажытным горадзе пісьменнік пачаў пісаць раман «Каласы пад сярпом тваім», аповесць «Чазенія» і іншыя творы.

**Чаму аповесць «Ладдзя Роспачы» прысвечана менавіта Рыгору Барадуліну?**

З невялікага настаўніцкага аповеду дзесяцікласнікі даведаюцца, што Рыгор Барадулін – блізкі сябар пісьменніка, таксама яго зямляк, бо паходзіць з

Віцебшчыны. Яны пазнаёміліся і пасябравалі на адным з пасяджэнняў літаратурнага аб'яднання пры газеце «Чырвоная змена». Разам пісьменнікі пабывалі ў творчай камандзіроўцы на Далёкім Усходзе.

Тут можна праз мультымедыйную ўстаноўку паказаць фотаздымкі «Рыгор Барадулін, Уладзімір Караткевіч і Янка Брыль на Ушаччыне. 1965 г.» і «Уладзімір Караткевіч і Рыгор Барадулін. 1972 г.», што змешчаны ў 6 томе Збору твораў Уладзіміра Караткевіча (у 8т.;Мн., 1990).

Вывучэнне чытальніцкага ўспрымання твора выкладчык пачынае з пытання:

*У які час і дзе адбываюцца падзеі, апісаныя ў «Ладдзі Роспачы»? Якія мастацкія эпізоды, вобразы, дэталі ілюструюць жыццё людзей той эпохі?*

Без дамашняй падрыхтоўкі дзесяцікласнікі не змогуць даць поўнага, дакладнага адказу пра гістарычныя абставіны, апісаныя ў кнізе. Час, адлюстраваны ў «Ладдзі Роспачы», – другая палова XVI ст. (прыкладна 50 – 80-я гг.): «*...Няшчасны быў горад. Зусім нядаўна яго крымчакі абрабавалі і спалілі, за дваццаць сем год перад гэтым тое самае зрабіла маскоўская раць*». Гэтыя радкі распавядаюць пра Лівонскую вайну, распачатую ў канцы 50-х гг. XVI ст., якая падтачыла моц Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага.

У аповесці дзейнічаюць два вобразы –*»літасцівая каралева Бона з роду Сфорца»* і прывід Івана Жахлівага,– прататыпамі якіх з'яўляюцца рэальныя гістарычныя асобы. Вядома, што Бона Сфорца стала жонкай Жыгімонта I Старога ў 1518 г., а ў Італію выехала ў 1556 г. Іван Жахлівы памёр у 1584 годзе.

Уважлівыя вучні адзначаць: для 2-й паловы XVI ст. Вялікаму Княству Літоўскаму характэрна паступовая дэградацыя беларускага дваранства і шляхты. Напрыклад, Гервасій Выліваха ўжо не ведаў, да якога герба належаў яго род. Сам герой разам з сябрам вёў амаральны лад жыцця: ні мясцовыя ўлады, ні святары не маглі ўтаймаваць разгульную рагачоўскую кампанію на чале з Вылівахам, што з'яўляецца яскравым сведчаннем дзяржаўнай слабасці і ўпадку. Адзначаны ў «Ладдзі Роспачы» і рэлігійны ўціск: «Біскуп Смарагд хадзіў па наваколлі, зачыняючы грэцкага абраду цэрквы, а дабро іхняе рабуючы».

Уладзімір Караткевіч апісвае і іншыя бакі жыцця беларускага грамадства канца эпохі Адраджэння. Бацькаўшчына славілася багаццем лясоў, выдатнымі паляўнічымі, бортнікамі, рыбакамі, нават краўцамі. «У той час Магілёў з Рагачовам нават у Маскву пастаўлялі гатовае адзенне. Краўцоў было – грэблю масці». Пашыраўся на Беларусі і кнігадрук: «... ды яшчэ Іра Францічак, за пераплёт на служэнне надзелены вёскай Мазурыкі».

**Хто з'яўляецца галоўным героем аповесці? Сцісла раскажыце пра яго жыццёвыя ідэалы. Як сам У. Караткевіч ставіцца да свайго героя на пачатку твора?** Галоўны герой – «небагаты, але добрага роду дваранін па прозвішчу Гервасій Выліваха; (выліваха – г. зн. белая чапля). За яго плячыма – трыццаць тры гады жыцця. Як зазначае ў экспазіцыі твора сам пісьменнік, Г. Выліваха быў

«хобаль, залётнік, піяка, задзіра, біток, бабздыр несамавіты». Але аўтар заўважае і тое, што галоўны герой вызначаўся знешняй прыгажосцю, пяшчотнасцю, меў шмат сяброў, з якімі пастаянна бавіў час у корчмах ды замках. Уладзімір Караткевіч намаляваў вобраз далёка не ідэальнага чалавека, хутчэй наадварот, хоць дакладна сваіх аўтарскіх сімпатый ці антыпатый не выказаў.

**У 1987 г. «Ладдзя Роспачы» экранізавана рэжысёрам Алегам Белавусавым. Паспрабуйце і вы пабываць у ролі рэжысёра і аператара і слоўна намалюйце некалькі рабочых кадраў да самых яскравых і запамінальных эпізодаў твора.**

Такое пытанне развівае ў дзесяцікласнікаў творчае ўяўленне і, безумоўна, дапаможа выявіць, наколькі добра вучні ведаюць змест аповесці.

Дзеля эфектыўнасці ўрока далейшае абмеркаванне-аналіз можна правесці «следам за аўтарам» па тэхналогіі калектыўнага асэнсавання. Стваральнікам гэтай дыдактычнай сістэмы з’яўляецца Вазіна Кіма Якаўлеўна, расійскі прафесар, загадчык кафедры «Дзейнасць» Ніжагародскага міжабласнога інстытута павышэння кваліфікацыі работнікаў прафтэхадукацыі.

Назва «тэхналогія калектыўнага асэнсавання» – гэта беларускі пераклад рускага тэрміна «технология коллективной мыследеятельности», сустракаецца ў навукова-педагагічнай літаратуры і абрэвіятурны варыянт – «КМД». У дадзенай дыдактычнай мадэлі ўвесь працэс навучання ажыццяўляецца на аснове праблемных сітуацый, якія вырашаюцца ў чатыры этапы: **увядзенне ў сітуацыю, праца па абмеркаванні ў мікрагрупах, абарона сваёй пазіцыі і вызначэнне новай праблемы.**

Настаўнік прапануе кожнай групе з чатырох-пяці вучняў адпаведнае пытанне, якое можна загадзя запісаць на дошцы ці на асобных картках або паказаць на экране. Пасля пяці-сямі хвілін калектыўнага абмеркавання адзін з членаў мікрагрупы яшчэ раз зачытвае прысутным сваё праблемнае пытанне і дае аргументаваны адказ. Потым бярэ слова наступны міні-калектыў. Колькасць мікрагруп залежыць ад колькасці запланаваных настаўнікам пытанняў. На адзін міні-калектыў могуць прыпадаць некалькі праблемных пытанняў. Для абмеркавання аповесці Уладзіміра Караткевіча «Ладдзя Роспачы» вучням прапануюцца наступныя аналітычныя пытанні і заданні:

**Для 1-й мікрагрупы**. У эпізодзе «Суд хатняга лебедзя над дзікім» пісьменнік падае дыялог каралевы Боны Сфорцы з Гервасіем Вылівахам. Чаму аўтар так падрабязна апісаў гутарку гэтых персанажаў?

Што можна сказаць пра Караткевічавы адносіны да іх? Як бы вы ахарактарызавалі абодвух герояў?

**Для 2-й мікрагрупы**. Чаму жыццялюб Гервасій Выліваха хутка, без асаблівых ваганняў, згадзіўся на прапанову Смерці ісці ў апраметную?

Чаму сярод розных раслін галоўны герой выбраў і адламаў у дарогу менавіта кветку шыпшыны, а не галінку глогу ці барбарысу?

Чаму Г.Выліваха не аддаў кветку Смерці?

Які апошні ў сваім жыцці ўрок даў Гервасій дзяўчыне-сялянцы, калі перад адпраўкай у пекла моцна пацалаваў яе?

**Для 3-й мікрагрупы.** Якія філасофскія погляды беларускай шляхты 2-й паловы XVI ст. увасобіліся ў вобразе Вылівахі ў эпізодах «Па дарозе ў апраметную» і «На ладдзі Роспачы»?

Навошта герой захапіў з сабою музычны інструмент – лютню? Сімвалам чаго яна з'яўляецца?

**Для 4-й мікрагрупы**. На што разлічвала Смерць, калі менавіта Вылівaху прапанавала згуляць з ёю ў шахматы?

Чаму галоўны герой пасля першага пройгрышу згадзіўся і на другую партыю гульні?

Што дапамагло яму выйграць? Як вы ставіцеся да такога ўчынку Вылівахі?

**Для 5-й мікрагрупы**. У эпізодах «Развітанне па дарозе ў апраметную» і «Вяртанне з таго свету» Уладзімір Караткевіч тройчы паўтарае згадку пра жаўрукоў: «ён паправіў на спіне лютню і рушыў поплеч са Смерцю. Ішоў, здольны кожную хвіліну паваліцца і разбіць нос, бо зусім не глядзеў пад ногі, задзёршы твар у гарачае неба, пад якім нястомна звінелі **несмяротныя беларускія жаўрукі»**); «І Выліваха яшчэ раз азірнуўся. Гарачае святло ляцела на яго з-пад аблокаў, блакітных унізе, сляпуча белых уверсе. І ў гэтым акіяне раскошы **ўтрапёна звінелі беларускія жаўрукі»**; «трапятаў на межах залаты баркун, залатыя пчолы гулі над свепетамі, а ў небе, у палючым святле, звінелі між аблокамі **беларускія жаўрукі**» .

Як вы разумееце гэты караткевічаўскі прыём? З якой мэтай ён ужыты ў творы?

**Для 6-й мікрагрупы**. Які чалавек адлюстраваны ў вобразе Перавозчыка (Шолаха)?

Пасля песні Гервасія Вылівахі ў палачаніна пакаціліся пякучыя слёзы, з вачніц знікла плесня і з-пад яе з'явіліся вочы. Як вы разумееце гэтую мастацкую дэталь?

Чаму палачанін вырашыў расказаць пра сваю здраду ?

1) Ярка і каларытна апісвае Уладзімір Караткевіч характары і жыццёвыя ідэалы абодвух суразмоўцаў – двараніна Гервасія Вылівахі і каралевы Боны ў сцэне «Суд хатняга лебедзя над дзікім». Хітры «дзікі лебедзь» (Г. Выліваха), вітаючыся з

каралевай, выкарыстаў загадзя падрыхтаваную цікавую фразу: «Сонца табе заўсёды на шляхах, пані матка». У экстрэмальнай сітуацыі спрацаваў донжуанскі прыём – загадкавая, магчыма, выдуманая алегарычная гісторыя пра Верасовую Жанчыну. Строгая суддзя каралева Бона была кранутая абаяльнасцю галоўнага героя. Строгасць і непахіснасць хутка змяніліся звычайнай жаночай зацікаўленасцю – і стаў іншым тон размовы. У гутарцы з каралевай падсудны паніч трымаецца ўпэўнена, імкнецца даць ёй хуткія і абгрунтаваныя доказы асэнсаванасці свайго жыцця. Ведаючы пра ўклад жыцця каралёў, Гервасій стараецца паставіць суразмоўніцу ў тупіковую сітуацыю: «Цікава, якія валасы ў літасцівага пана караля, калі ў іх заблытаецца месяц?». А фраза «тады судзі мяне, каралева. Толькі памятай – гэта будзе суд хатняга лебедзя над дзікім» стала ў іх размове пераломнай. Пасля гэтых слоў Гервасій Вылівака зразумеў: вялікага пакарання ад каралевы не будзе.

У гэтым урыўку аўтарскія адносіны да галоўнага героя пэўна не акрэслены, а вось да каралевы Боны пісьменнік ставіцца з сімпатыяй. Уладзімір Караткевіч называе яе літасцівай, славутай фундатаркай касцёлаў. Бона Сфорца мела добрую рэпутацыю сярод сваіх падданых. Пісьменнік адзначае яе строгасць і справядлівасць: «...вялікі Цыкмун нездарма казаў, што пакуль яна над дзяржавай – аб маральнасці можна не непакоіцца». Аўтар завяршае характарыстыку «хатняга лебедзя» наступнымі радкамі: «Усе бачылі, як стараецца яна вярнуць гэтую аблудную душу на верны шлях, і нават кароль быў бы задаволены, убачыўшы яе намаганні ў доўгіх дыспутах. Яна ведала, што адзін схілены варты сотні верных, і таму была вынаходлівая і няўтомная, не шкадуючы для справы веры ні дня, ні ночы».

2) Падчас сустрэчы са Смерцю галоўны герой паводзіў сябе надзіва стрымана і нават гасцінна, пачаставаўшы госцю салодкім напоем. Вылівака паслухмяна падпарадкаваўся яе загаду, бо добра ведаў, што ад Смерці яшчэ ніхто не схаваўся і не адкупіўся. Як зазначае ў аповесці У. Караткевіч: «І вышэй за гэтую жанчыну не было нікога на зямлі». Па дарозе ў апраметную Гервасій сарваў і прышпіліў да сваіх грудзей першую кветку шыпшыны – сімвал роднай зямлі. Аддаць кветку Смерці – значыць страціць радзіму, стаць бяспамятным. Моцна пацалаваўшы на развітанне дзяўчыну-сялянку, галоўны герой даў ёй урок жыццялюбства: чалавек створаны не толькі для працы, але і для кахання. Трэба спяшацца кахаць, бо чалавечае жыццё кароткае.

3) Прааналізаваўшы паводзіны шляхціца Гервасія Выліваxі ў апошні дзень жыцця (эпізоды «Па дарозе ў апраметную» і «На ладдзі Роспачы»), бачым, што герой у час развітання імкнуўся ўвабраць у сябе прыгажосць неба, наваколля. Спяваў пад акампанемент лютні – даўняй спадарожніцы і сяброўкі яго жыцця. У падарожнай размове з кашчавай павадыркай ён зацікаўлена распытваецца пра лёс чалавечай душы ў апраметнай. Яго малітва да Усявышняга сведчыць пра нястрачаную веру. Вылівака – яшчэ і добры суразмоўца, жартаўнік: першы завёў гутарку з незнаёмымі людзьмі, што таксама трапілі ў апраметную, сыпаў народнымі жартамі. Можна назваць шляхціца і бунтаром – ён прапанаваў

прысутным не плаціць грошы за перавоз праз тагасветнае мора і наогул не веславаць.

4) Гульня са Смерцю ў шахматы з’яўляецца кульмінацыйным момантам твора. Уладарка пекла з усіх весляроў выбрала для гульні менавіта Гервасія, таму што ён – неардынарная асоба. Не спадабаліся Смерці яго прага да жыцця, бунтарства, нязломнасць духу і аптымізм. Сваёй загадзя прадбачанай перамогай кашчавая разлічвала знішчыць Выліваху маральна, прадэманстраваць усім прысутным яго нікчэмнасць перад ёю. Хоць шляхціц і прайграў першую партыю, але прынізіць яго чалавечы гонар гаспадыні апраметнай усё роўна не ўдалося. Любоў да людзей, імкненне дапамагчы ім выжыць натхнілі Гервасія і на другую партыю гульні. Стаць пераможцам яму дапамагла не толькі хітрая падтасоўка гульні, але, няхай і позняе, усведамленне цаны і сэнсу чалавечага жыцця. Героем кіравалі мудрасць і любоў да роднай зямлі. «Рабі нечаканае... рабі, як не робіць ніхто, – і тады пераможаш, – гаворыць у аповесці Уладзімір Караткевіч. – Нават калі ты слабы, як камар пасярод варожага мора. Таму што толькі дурні разважаюць заўсёды па правілах здаровага сэнсу. Таму што чалавек толькі тады чалавек, калі ён дзёрзка рве panылае наканаванне і плюе на “спрадвечны” закон» .

5) Апроч сімвалічных вобразаў кветкі шыпшыны і лютні, Уладзімір Караткевіч тройчы ўжывае ў аповесці і вобраз беларускіх жаўрукоў – прадвеснікаў надыходу вясны, цяпла, волі і шчасця. Першы выраз «нястомна звінелі несмяротныя беларускія жаўрукі» пісьменнік уводзіць у эпізод, калі Гервасій пакідае родныя мясціны. Эпітэтам «несмяротныя» аўтар, магчыма, хацеў падкрэсліць думку пра вечнаспь жыцця на зямлі і выказаў уласнае шкадаванне, што герой ідзе паміраць. Другі выраз-паўтор «утрапёна звінелі беларускія жаўрукі» Уладзімір Караткевіч ужывае ў эпізодзе, калі Выліваха ўваходзіць у апраметную. Да эпітэта «ўтрапёна» можна падабраць сінонім ‘адчайна’. Раскошная прырода са шкадаваннем і жалем развітваецца з суайчыннікам. Трэці радок паўтору пісьменнік уводзіць без дадатковай эмацыйнай нагрузкі ў эпізод, калі пераможца Смерці разам з каханай дзяўчынай Бярозкай і астатнімі выратаванымі пакутнікамі вяртаецца на белы свет.

Такім чынам, Уладзімір Караткевіч з дапамогай празаічнага рэфрэна адлюстраваў кантраст двух светаў – зямнога і небыццёвага, выказаў свае адносіны да галоўнага героя, абудзіў думкі чытача.

6) На прыкладзе Перавозчыка (Шолаха) Уладзімір Караткевіч выкрывае ганебную з’яву здрадніцтва. Герой з болем прызнаецца прысутным на ладдзі ў сваёй здрадзе: прадаў Полацк кіеўскаму князю Уладзіміру. Слёзы, якія з’явіліся на вачах Шолаха пасля песні Вылівахі, сведчаць пра духоўнае ачышчэнне палачаніна – ён становіцца відушчым. Перавозчык перажывае ўласную здраду, якая прынесла няшчасці Полацку. Прызнацца людзям у сваёй здрадзе, хутчэй за ўсё, яго прымусілі пачутая ў апраметнай песня, ззянне кветкі шыпшыны і пытанне Вылівахі: «Хто ты, каб зычыць гэткае страшнае?».

Пасля вусных адказаў вучняў – прадстаўнікоў кожнай з мікрагруп, настаўнік прапануе старшакласнікам заключныя пытанні і заданні.

**Вызначце тэму і ідэйны змест аповесці. Як вы разумееце сэнс яе назвы?**

**Ці згодныя вы з думкай беларускага літаратуразнаўцы Анатоля Вераб'я адносна загалоўка твора? Чаму?** «Ладдзя Роспачы – гэта Беларусь, якая, пераадольваючы змрок забыцця, бяспамяцтва і жахі апраметнай, уваскрасае і адраджаецца. Ад смерці і знікнення яе ратуе Гервасій Выліваха – жыццялюб, мастак (ён не расстаецца з лютняй і ў царстве Смерці), абаронца людзей і шчыры патрыёт роднай зямлі. У. Караткевіч сцвярджае, што любоў, цярпенне, смех і жартаўлівасць дазволілі беларускаму народу выстаяць у самых неспрыяльных умовах».

Гэтае выказванне пажадана запісаць у сшыткі па літаратуры.

**Многія радкі аповесці з'яўляюцца афарыстычнымі. Зачытайце і выкажыцеся наконт іх зместу.**

Дома вучні маглі выпісаць наступныя цытаты: «Людзі бываюць бруднейшыя за свінню і чысцейшыя за анёла. Дабрэйшыя за жыццё і ў сто разоў страшнейшыя за смерць», «Чалавек носіць сваё неба з сабою» або яшчэ: «мужчыны подлы народ, але няма нікога падлейшага за жанчын» і «...чалавек толькі тады чалавек, калі ён дзёрзка рве panылае наканаванне і плюе на «спрадвечны» закон».

Каб праілюстраваць багацце пісьменніцкай мовы, настаўнік прапануе зачытаць загадзя падабраныя пісьменніцкія азначэнні вобраза Смерці.

Уважлівыя чытачы абавязкова назавуць каля дзясятка сінонімаў. Гэта – Курносая, Бязвокая, Кума, найвялікшая ўладарка сусвету, вышэйшая і халодная істота, Каралева Смерці, гора і няшчасце Рагачова, бязвокая дрэнь.

Завяршыць заключныя заняткі можна настаўніцкім ці вучнёўскім невялікім паведамленнем пра прататып Гервасія Вылівахі. Ім мог быць і рагачовец-асілак, пра якога Караткевіч згадвае ў нарысе «Зямля пад белымі крыламі». Гэты чалавек «калісьці ў Рагачове, на спрэчку, пазносіў у адно месца дзесяць дванаццаціпудовых якараў з баржаў і пераблытаў іх лапамі так, што пасля куча людзей з гэтых лайбаў ледзь разблыталі, каб кожнаму забраць свой».

Прататыпам галоўнага героя мог быць і дзядзька Уладзіміра Караткевіча Ігар Васілевіч Грынкевіч, які, як ужо адзначалася ў пачатку ўрока, быў жыхаром Рагачова і славіўся рэдкім талентам апавядальніка.

У вобразе Гервасія Вылівахі пісьменнік мог адлюстраваць таксама і рагачоўца Зміцёра Дорахава, якога ў лісце да Янкі Брыля ахарактарызаваў як чалавека, які строіць «смешачкі, начальству і мешчаноце жыць не дае». Ліст датуецца 26 ліпеня 1964 г, калі і пісалася аповесць.

Закончыць абмеркаванне твора Уладзіміра Караткевіча можна падагульняльным пытаннем: **Якія жыццёвыя ўрокі можа ўзяць сённяшняя моладзь з прачытанай аповесці Уладзіміра Караткевіча «Ладдзя Роспачы»?**

### 1.5. Тэхналогія праектнага навучання

Побач з прафесійнай кампетэнтнасцю грамадзяніна любой сучаснай краіны найбольш значнымі з'яўляюцца і такія якасці, як творчасць і здольнасць яго да пастаяннага развіцця і самаадукацыі. Гэта, як вядома, сёння патрабуе ад настаўніцтва пошукаў усё новых метадаў і прыёмаў выкладання. Сучасная дыдактыка з мэтай укаранення развіццёвага навучання ў агульнаадукацыйных установах краіны прапануе педагогам выкарыстоўваць у сваёй працы і праектную тэхналогію.

Мэта праектнага навучання заключаецца ў прадстаўленні вучням магчымасці самастойна набыць веды з розных крыніц, навучыцца карыстацца імі для вырашэння новых пазнавальных і практычных задач, развіваць даследчыя ўменні і аналітычнае мысленне.

Праектнае навучанне ў першую чаргу звязана з метадам праектаў, які вядомы педагагічнай грамадскасці яшчэ і як метад праблем. Узнік ён у 20-ыя гады ХХ-га стагоддзя ў ЗША. Амерыканскі філосаф, педагог Дж. Дзьюі, а пазней і яго вучань В.Х. Кілпатрык распрацавалі гэты метад як гуманістычны накірунак у філасофіі і адукацыі. Дж. Дзьюі прапанаваў усё навучанне будаваць на актыўнасці і практычнай дзейнасці саміх дзяцей, пры гэтым патрэбна ўлічваць іхнія асабістыя інтарэсы і жаданні ў такім пазнанні. Для таго, каб матываваць падлеткаў на іх асабістую зацікаўленасць і неабходнасць у ведах, вучоны зазначыў, што спачатку патрэбна паказаць ім вельмі важную і значную жыццёвую праблему, а каб вырашыць яе і атрымаць рэальны вынік, давядзецца выкарыстаць неабходны багаж новых ведаў, якія трэба будзе яшчэ набыць па пэўнай дысцыпліне.

Адначасова з распрацоўкамі амерыканскіх педагогаў ідэі праектнага навучання ўзніклі і ў Расіі. Выдатны рускі філосаф М.Ф. Фёдараў распрацаваў прынцып адзінства тэарэтычных ведаў і практычнага дзеяння. У 1905 годзе рускі педагог С.Ц. Шацкі таксама арганізаваў невялікую групу супрацоўнікаў, якія імкнуліся актыўна выкарыстаць праектныя метады ў практыцы выкладання. На жаль, у 1931 годзе метад праектаў у СССР быў асуджаны пастановай ЦК ВКП(б) з-за недастатковай прадуманасці і павольнага ўкаранення ў школы.

Калі ў навучальных установах Беларусі і былых савецкіх краінах да нашага часу праектнае навучанне практычна не развівалася, то ў ЗША, Вялікабрытаніі, Бельгіі, Італіі гэты метад актыўна і даволі паспяхова распаўсюджваўся і набыў папулярнасць з-за рацыянальнага спалучэння тэарэтычных ведаў і практычнага іх прымянення ў час вырашэння канкрэтных вучэбных праблем.

З часам ідэя метада праектаў перанесла пэўную эвалюцыю. Але сутнасць яго, як зазначалася вышэй, застаецца нязменнай – стымуляваць жаданне вучняў да вырашэння пэўных узнікшых праблем.

Сёння ў аснову метада праектаў пакладзена спалучэнне двух паняццяў – праекта і яго выніку, якія сарыентаваны на самастойную дзейнасць школьнікаў – індывідуальную, парную і групавую.

Праект – гэта не даклад, не рэферат і нават не навуковае даследванне. У педагогіцы праектам прынята лічыць тэхналогію вырашэння пэўнай практычнай праблемы і стварэнне пэўнага прадукта. Праектам у агульнаадукацыйнай установе можа быць стварэнне настаўнікам беларускай мовы і літаратуры школьнага тэатра, фальклорнага калектыва, літаратурнага музея, літаратурна-музычнай кампазіцыі, школьнай рэдакцыі насценнай газеты ці часопіса, мастацкай студыі, літаратурнага клуба, камп’ютэрнага сайта і г.д.

Тэматыка вучнёўскіх праектаў можа быць звязана з адной прадметнай галіною – монапраект. Ён выконваецца на матэрыяле аднаго канкрэтнага школьнага прадмета (беларускай мовы, літаратуры, гісторыі Беларусі) ці несці міждысцыплінны характар – міжпрадметны. Тут інтэгруецца разнастайная тэматыка некалькіх прадметаў (напрыклад, беларуская літаратура і гісторыя Беларусі; беларуская і руская літаратура; беларускі фальклор, жывапіс і музыка Беларусі). Але, як зазначалася вышэй, пры падборы тэмы праекта настаўнік павінен арыентавацца на асабістыя інтарэсы, магчымасці школьнікаў і на практычную значнасць абранага праекта для адпаведнага вучнёўскага калектыва. Прапануем магчымыя тэмы праектаў, якія можна рэалізаваць у 8-11 класах:

1. Асаблівасці мовы нашай вёскі.

2. У кожнай мове свае «самацветы».

3. Музей бабуліных слоў.

4. «Багата, родная ты мова…»

5. Народныя звычаі і традыцыі нашага сяла.

6. Гісторыка-літаратурныя мясціны нашага краю.

7. Знакамітыя людзі нашага раёна (вобласці).

8. Нябесная заступніца Беларусі Ефрасіння Полацкая.

9. Падзеі і факты беларускай гісторыі ў «Слове пра паход Ігаравы».

10. Францыск Скарына – выдатны прадстаўнік беларускай культуры эпохі Адраджэння.

11. Беларуска-польскія пісьменнікі XIX стагоддзя.

12. Адам Міцкевіч на Беларусі.

13. Жыццёвымі пуцявінамі Янкі Купалы (Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча).

14. Пуцявінамі палясоўшчыка Міхала, героя паэмы Якуба Коласа «Новая зямля».

15. Слядамі Андрэя Лабановіча, героя трылогіі Якуба Коласа «На ростанях».

16. «Колькі талентаў звялося» (Я.Колас). Лёс і творчасць беларускіх пісьменнікаў канца 20-х – 30-х гадоў.

17. Паэзія беларускай эміграцыі.

18. «Я таксама з вогненнай вёскі…» (да юбілею з Дня Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі).

19. Памяць вечная аб тых, хто загінуў (да юбілею з Дня Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі).

20. Прырода і мы.

21. Зорка Палын. (Творы беларускіх пісьменнікаў пра Чарнобыль).

22. Кніга ў маім жыцці.

23. «Рыцар сумлення і свабоды» (У.Караткевіч). Да юбілею з дня нараджэння Васіля Быкава.

24. «Быў. Ёсць. Буду». Да юбілею Уладзіміра Караткевіча.

25. Па літаратурнай Брэстчыне і інш.

Выкананы падлеткамі праект можа быць прадстаўлены самымі разнастайнымі формамі: у выглядзе заметкі, артыкула, рэкамендацый, альбома, калажу, карты, інсцэніроўкі, рэпартажу, фільма і г.д.

Прэзентаваць створаны праект падлеткі могуць на ўроку мовы ці літаратуры, канферэнцыі, у час конкурсу, свята.

Па тыпалогіі вучэбныя праекты бываюць даследчымі, пошукавымі, практыка-арыентаванымі, творчымі, ролевымі. Разнастайны яны і па часу выканання. Вызначаюцца тры віды вучэбных праектаў: міні-праект (за некалькі гадзін, ад 2 да 6); сярэдняй працягласці (за некалькі месяцаў) і доўгатэрміновыя (патрабуюць значны час, два гады, для пошуку патрэбнага матэрыялу і яго аналізу).

Работа па стварэнні вучэбнага праекта звычайна выходзіць за рамкі вучэбнай дзейнасці школьнікаў і ажыццяўляецца ў некалькі асноўных этапаў:

*1) вучні самастойна ці разам з настаўнікам павінны выявіць актуальную тэму ці праблему праекта, вызначыць яго мэту, тып і колькасць удзельнікаў;*

*2) размеркаваць задачы па групах, абмеркаваць магчымыя метады даследвання, пошуку інфармацыі, творчых рашэнняў;*

*3) самастойная работа вучняў па сваіх індывідуальных ці групавых задачах; абмеркаванне ідэй у міні-калектывах і афармленне сумеснага выніка;*

*4) абарона праекта;*

*5) калектыўнае абмеркаванне і ацэнка выкананага праекта.*

Прапануем методыку ўрока пазакласнага чытання і лепшыя ўзоры вучнёўскіх міні-праектаў абароны любімай кнігі ў 6-8 класах з выкарыстаннем тэхналогіі праектнага навучання ў Год кнігі.

Менавіта ўрок-абарона любімай кнігі дае настаўніку магчымасць фармаваць у вучняў уменне сцісла перадаваць змест самастойна прачытанай кнігі, дзяліцца ўражаннямі аб падзеях і героях твора, даваць ацэначную характарыстыку прачытанага. І, нарэшце, выхоўваць высокі і патрабавальны літаратурны густ, эстэтычную граматнасць школьнікаў. Такі ўрок звычайна праводзіцца ў бібліятэцы. На яго запрашаюцца бацькі, вучні іншых класаў, настаўнікі. Афармленне бібліятэкі павінна мець адметнасць. Тут дарэчы выстаўкі кніг «Раім прачытаць летам», вучнёўскіх ілюстрацый да любімых твораў, плакаты з выказваннямі вядомых пісьменнікаў пра кнігі. Напрыклад:

*Для мяне кніга заўсёды была цудам. Яна была для мяне, можна сказаць,– настаўнікам жыцця.*

І. Мележ

*Заўсёды з любай кніжкай быў,*

*І быццам аж мільёны жыццяў*

*Я за адно сваё пражыў.*

П. Броўка

У залежнасці ад вучнёўскай аўдыторыі будуецца змест уступнага слова. Гэта могуць быць гутаркі: «Чаму чалавек павінен многа чытаць?», «Мая бібліятэка», «Што такое дынамічнае чытанне і як ім авалодаць?» і інш. Затым ставіцца перад школьнікамі задача: на працягу 3-7 хвілін проста і цікава расказаць пра сваю любімую кнігу. Гэта можа быць інсцэніроўка цікавага ўрыўка з твора, інсцэніраванае інтэрв’ю, ілюстрацыйны аповед, аповед-адкрыццё, аповед-рэклама, аповед-споведзь, аповед-дыспут...

Асобныя з іх прапануем вашай увазе.

**Праект «Інсцэніроўка»**

Перад вучнямі – самаробны шчыт у выглядзе вокладкі кнігі. На ім – назва кнігі і малюнкі, якія ілюструюць зборнік. Пасярэдзіне шчыта – прамавугольная адтуліна ў выглядзе акенца з аканіцамі, у ім паказваецца выканаўца ў ролі казачніка. Збоку ад шчыта стаіць бутафорская фурманка. На ёй сядзяць два вучні (выконваюць ролі пана і фурмана).

Казачнік (адчыняе аканіцы). Добры дзень, сябры! Раскажу я вам сёння адну казку са зборніка «Людзей слухай, а свой розум май».

Беларускі народ смяецца ў казках з гультаёў і карае людзей зайздросных, сквапных. А вышэй за ўсё ён шануе розум, дабро і справядлівасць.

Ну, дык слухайце і глядзіце беларускую народную казку «Разышоўся, як заечае сала».

Адзін пан вельмі любіў хваліцца. Не было таго дня, каб ён не зманіў.

Аднойчы паехаў ён да свайго далёкага сябра. На станцыі наняў фурманку. Едзе пан, маўчыць. Раптам бачыць (пан углядаецца): дарогу перабег заяц.

Пан. А што, ёсць на гэтым зайцы сала?

Фурман. Адкуль, пан, у яго тое сала!

Пан. Дрэнныя ж у вас зайцы. Вось у маім маёнтку зайцы водзяцца, дык сала

на іх на цэлы корх (далонь) будзе.

Фурман. Ой, пане (круціць галаваю), дзе ты бачыў такіх зайцоў? Ці не схлусіў ты?

Пан (упэўнена). Не.

Фурман. Тут, пане, па дарозе хутка брод будзе. Дык у нас, хто хлусіць, то ўсе ў тым бродзе топяцца.

Пан (спалохаўшыся). Праўда?

Фурман. Калі кажу, дык праўда.

Пан. А далёка да таго броду?

Фурман. Не, ужо недалёка.

Пан (мякка). Ну, то я, можа, крыху і прыхлусіў. Не на корх, а на тры пальцы.

Фурман. А можа, на адзін?

Пан. А далёка брод?

Фурман. Ды хутка...

Пан. Ну, то няхай будзе на адзін.

Фурман. А можа, пане, і на адзін мнагавата?

Пан. А брод далёка?

Фурман. Ды от-от перад намі.

Пан. Э, чорт з ім з тым салам. Можа, і на адзін не будзе.

Казачнік. Праехалі яшчэ з паўвярсты.

Пан. Ну, дзе ж твой брод?

Фурман. Няма.

Пан. А дзе ж ён падзеўся?

Фурман. Разышоўся, як сала на панскіх зайцах.

Казачнік. Ну, ці спадабалася вам казка? У гэтым зборніку змешчана шмат такіх цікавых народных твораў.

Спяшайцеся, сябры, хутчэй прачытаць іх. (Зачыняе аканіцы.)

**Праект «Інсцэніраванае інтэрв’ю»**

За часопісны столік садзяцца два вучні – адзін у ролі журналіста, другі (дзяўчына) выконвае ролю пісьменніцы.

(У аснову інсцэніраванага інтэрв’ю пакладзены артыкул Валерыя Добкіна «Не кажыце, што вы не былі на вайне...»)

Журналіст. Сёння ў нас у гасцях беларуская пісьменніца, аўтар кніг «У вайны не жаночае аблічча», «Апошнія сведкі», «Цынкавыя хлопчыкі», "Чарнобыльская малітва" – Святлана Алексіевіч.

Святлана Аляксандраўна, яшчэ ў 1991 годзе была надрукавана чарговая Ваша кніга-споведзь, кніга-дакумент, кніга памяці «Цынкавыя хлопчыкі». Што натхніла Вас на яе напісанне?

Пісьменніца. Я ехала да бацькоў. Яны жывуць непадалёку ад Мазыра. На аўтастанцыі ў Мазыры аднойчы я ўбачыла прапаршчыка і хлопца ў цывільным.

Штосьці ў паводзінах хлопца падалося дзіўным, ды і не толькі мне адной. А ведаеце, як на аўтастанцыі ў невялікім горадзе, дзе і пасажыры, бадай, адны і тыя самыя: усё пра ўсіх ведаюць. Я дазналася, што прапаршчык суправаджае хлопца, ціхага вар'ята. Яны ехалі з Афганістана. А на аўтастанцыі былі тыя, чые дзеці таксама ваявалі там. І тут страшна закрычала нейкая жанчына. Не ведаю, што са мною ў гэты момант адбылося, але я зразумела, што павінна пра гэта расказаць, расказаць усю праўду пра гэтую неаб'яўленую вайну. Назва прыйшла ўжо калі працавала над кнігай.

Журналіст. Вы назвалі яе «Цынкавыя хлопчыкі». Нават ад гэтай назвы – мароз па скуры. Невыпадкова Вы напісалі ў прадмове: «Гісторыя гэтай вайны яшчэ не напісана. Мы ведаем аб ёй роўна столькі, колькі нам можна ведаць, каб не ўбачыць сябе такімі, якія мы ёсць... Не кажыце, што вы не былі на той вайне. Няпраўда! Мы ўсе вярнуліся адтуль...». Але, на жаль, многія – у цынкавых трунах...

Пісьменніца. Гэтыя хлопцы і іх камандзіры, людзі старэйшыя, але, па сутнасці, таксама маладыя, з пасляваеннага пакалення, нябачна прысутнічаюць у аповедах аднапалчан, якія засталіся жывымі, у горкіх расказах удоў і мацярок. Першая з іх была Марыя Цярэнцеўна Бабкова, з якою я пазнаёмілася на могілках. А прывялі мяне туды хлопцы-«афганцы». У гэтай жанчыны былі два сыны, і абодва загінулі. Адзін – у час памятных канфліктаў на савецка-кітайскай граніцы, а другі – у Афганістане. Чым змераць трагедыю маці, як перадаць яе боль, чым суцешыць?! Але яна знайшла ў сабе сілы распавесці аб сваіх дзецях... І, слухаючы яе, я «пачула» кнігу...

Журналіст. Напэўна, Вам зноў, як і пры рабоце над першай кнігай, давялося пабываць у розных гарадах краіны, сустрэцца з сотнямі людзей, слухаць і запісваць у блакнот і на магнітафонную стужку іх аповеды, поўныя кранальных і страшных падрабязнасцей...

Пісьменніца. І яшчэ – двойчы пабываць у Афганістане. Бо ледзь не кожны, з кім давялося гутарыць, пытаўся: «А вы там былі?» І я разумела, як гэта важна для іх. Ды і для мяне, каб адчуць хоць бы тысячную долю іх пакут, іх суму па Радзіме, іх страху і адчаю. Гэта не была прыемная турыстычная паездка. Напружанне не адпускала, бадай, з таго моманту, калі пры пералёце граніцы ў салоне самалёта завыла сірэна..., і я з баявой машыны глядзела на афганскіх дзяцей, якія ваяўніча размахвалі рукамі і штосьці крычалі ў наш адрас... Затое цяпер я мела маральнае права пісаць.

Журналіст. Што Вам асабліва запомнілася ў той паездцы?

Пісьменніца. Сустрэча ў турме. З душманамі, якія асуджаны на смерць. Я спыталася ў аднаго з іх: «Хіба не страшна забіваць?» Ён адказаў, бліснуўшы бялкамі сіня-чорных вачэй: «Гэта вельмі проста».

І вось пазней, пры сустрэчы з хлопцамі, якія пабывалі там, я раптам зразумела, што і яны так лічаць: гэта вайна забівала і калечыла не толькі целы, але і

душы. Вайна ў Афганістане была амаральная па сваёй сутнасці, і таму, думаю, цяжка было ў ходзе яе чакаць высокамаральных учынкаў. Хоць гераізм, вядома ж, быў.

Журналіст. Якія водгукі Вы атрымалі аб кнізе?

Пісьменніца. Калі ў друку з'явілася мая кніга, мне пазваніў бацька афіцэра, які загінуў у Афганістане, і сказаў, што я напісала шкодную кнігу, што ён заўсёды быў актыўным прапагандыстам маіх кніг, а цяпер не скажа аб новай ніводнага добрага слова, наадварот, будзе яе праціўнікам. Што тут сказаць? Я не чакаю нічыёй удзячнасці. Я проста павінна дапамагчы выказаць праўду, якая б горкая яна ні была.

Журналіст. Шчыра дзякую, Святлана Аляксандраўна, за гутарку! Шчаслівага лёсу Вам і Вашым кнігам!

**Праект «Ілюстрацыйны аповед»**

Вучань, які выбраў абарону любімай кнігі ў форме ілюстрацыйнага аповеду, малюе і падпісвае адпаведным аўтарскім тэкстам 10-15 ілюстрацый да цікавых эпізодаў твора. Атрыманыя старонкі наклейвае ў альбом. На вокладцы – назва работы. Напрыклад, «Ілюстрацыі да аповесці І. Сяркова «Мы з Санькам у тыле ворага».

У час абароны прамоўца выходзіць да дошкі, гаворыць, які твор і якога пісьменніка абараняе, гартае свой альбом і зачытвае подпісы.

**Праект «Аповед-адкрыццё»**

«...Трыццаць першы год. На сходзе пісьменнікаў слова бярэ Бэндэ. Падымаецца на трыбуну. Скрыпяць хромавыя боты. Паўваенны сталінскі фрэнч, з правага боку кабура з пісталетам. «Калі Купала і Колас будуць пісаць такія творы, як «Курган», «Бандароўна», «Новая зямля», то мы з імі будзем размаўляць на іншай мове...»

Цішыня... Выступаць пасля Бэндэ ніхто не хоча, і тады падымаецца з месца Янка Купала. Сагнуўшыся, нетаропка ідзе да трыбуны. Чытае сваю знакамітую «Песню будаўніцтву»:

Прыйдзе новы – а мудры – гісторык,

А ён прыйдзе – ужо ён ідзе –

І сказ дзіўны, праўдзівы ад зорак

І да зорак аб нашых прасторах,

Аб падзеях, людзях павядзе.

Гром апладысментаў. Усе зразумелі: новы гісторык – не Бэндэ, у такіх няма будучыні».

Чытаем кнігу нарысаў Васіля Шырко «Дарагія мае землякі» і нельга адарвацца – разам з аўтарам чытач робіць цікавае падарожжа па сцежках, якія звязаны з жыццём і творчым лёсам беларускіх пісьменнікаў – Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цішкі Гартнага, Кандрата Крапівы, Паўлюка Труса, Пятра Глебкі, Алеся Якімовіча і інш.

Кожная кніга – гэта новае адкрыццё для чалавека. Прачытаўшы кнігу «Дарагія мае землякі», вы даведаецеся, напрыклад, як Янка Купала трапіў на вучобу ў Бяларучы і як пачаў даваць тут першыя самастойныя ўрокі паэзіі сваім аднакласнікам.

Разам з Васілём Шырко вы наведаеце музей Якуба Коласа, пабываеце на яго радзіме. Гэта невялічкая экскурсія дапаможа глыбей зразумець творчасць народнага паэта.

Пра спагаду і чалавечнасць Коласа апавядае беларускі паэт, былы вязень сталінскіх лагераў Павел Пруднікаў.

Кніга В. Шырко раскажа нам пра паэта, празаіка, публіцыста, аўтара першага беларускага рамана Цішку Гартнага, імя якога доўгі час замоўчвалася.

Пра сваю легендарную маладосць, вучобу, службу «за веру, цара і айчыну» распавядае сам Кандрат Крапіва.

Чытач даведаецца ў гэтай кнізе пра цікавыя і незвычайныя лёсы многіх нашых пісьменнікаў.

**Праект «Аповед-споведзь»**

Вось і зноў прачытаны паэтычны зборнік «Паміж усмешкай і слязой » маёй любімай паэтэсы, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова Ніны Язэпаўны Мацяш. Любімая, напэўна, таму, што яе вершы і паэмы хвалююць мяне, яны прасякнуты шчырасцю і таямнічасцю, радасцю і болем, лірызмам і патрыятызмам, светлым пачуццём любові і спагады да людзей, да жыцця.

У зборніку змешчаны лепшыя творы з шасці кніг паэтэсы, якія выйшлі раней.

Мне, як і кожнаму маладому чалавеку ў пятнаццаць гадоў, вельмі блізкая тэма кахання. Ніна Мацяш знаёміць нас з героем, які даверліва расказвае пра сваё каханне. Яно то шчаслівае, то горкае. Паслухайце, калі ласка, некаторыя вершы на гэтую вечную тэму са зборніка «Паміж усмешкай і слязой».

Вучаніца (вучань) чытае на памяць два-тры вершы на выбар.

**Праект «Аповед-дыспут»**

Амаль ва ўсіх сваіх творах Васіль Быкаў расказвае пра вайну. Але пісьменніка цікавіць не столькі сама вайна, колькі маральны свет чалавека, магчымасці яго духу. Васіль Быкаў заўсёды ставіць сваіх герояў у экстрэмальныя сітуацыі, калі чалавек знаходзіцца перад выбарам: жыццё ці смерць. Пісьменніка цікавяць прычыны гераізму і здрады.

У цяжкіх умовах дзейнічае і сельскі настаўнік Алесь Іванавіч Мароз з аповесці «Абеліск». У канцы 1939 г. у заходнебеларускай вёсцы Сяльцо пачала дзейнічаць першая савецкая школа, у якой працаваў Алесь Іванавіч. «...Не толькі школьнікі з Сяльца, але і сяляне з усяе акругі сталі глядзець на Мароза, як на якога заступніка. Што ў каго было цяжкага ці незразумелага – усе да яго цягнуліся ў школу».

Калі пачалася вайна, настаўнік не мог па стане здароўя са зброяй у руках змагацца з ворагам. Ён працягваў працаваць у школе.

Пасля няўдалай дыверсіі на паліцая хлопцы трапляюць у фашысцкі палон. Настаўнік добраахвотна здаецца ў рукі ворагаў, каб выратаваць сваіх выхаванцаў, але і сам гіне разам з імі.

Учынак настаўніка выклікае сярод чытачоў супярэчлівыя меркаванні. Пасля выхаду аповесці «Абеліск» на старонках газет і часопісаў вялася дыскусія. Погляды чытачоў падзяліліся: адны сцвярджалі, што Мароз добраахвотна ідзе да ворага, каб падзяліць са сваімі вучнямі адказнасць за іх учынкі. Іншыя меркавалі, што В.Быкаў прымусіў Мароза ахвяраваць сабой, каб не даць яму магчымасці выканаць больш цяжкай задачы: мужнай барацьбой адпомсціць за расстраляных хлопцаў.

Давайце ўважліва прачытаем аповесць Васіля Быкава «Абеліск» і выкажам свае думкі.

Заключная частка ўрока

Бібліятэкар знаёміць вучняў з выстаўкай кніг «Раім прачытаць летам».

Можна правесці паэтычную пяціхвілінку па тэме «Гімн кнізе». Тут гучаць такія паэтычныя творы: «Летапісец», «Перапісчык», «Кніга», «...Вы, хто любіце патрапіць» Максіма Багдановіча;

«Летапісец» Змітрака Бядулі;

«Апошняя кніга» Аркадзя Куляшова;

«Скарына пакідае Радзіму» Уладзіміра Караткевіча;

«Кніга» Петруся Броўкі;

«Роздум перад кніжнай паліцай» Ніла Гілевіча;

«Азбука зямлі» Рыгора Барадуліна і інш.

З цікавасцю ўспрымаюцца вучнямі літаратурныя віктарыны. Напрыклад, па тэме «Ці добра ты ведаеш жыццё і творчасць пісьменнікаў-землякоў» і інш.

Падвядзенне вынікаў

Члены журы (звычайна гэта бацькі, настаўнікі, лепшыя вучні) падводзяць вынікі абароны любімай кнігі. Калі ёсць магчымасць, узнагароджваюць пераможцаў.

Думаецца, што такі ўрок-абарона любімай кнігі можа вырасці ў агульнашкольнае мерапрыемства – ранішнік ці вечарыну «Любімая кніга, любімыя пісьменнікі». На ім без вялікай папярэдняй падрыхтоўкі могуць выступіць пераможцы з усіх класаў.

Калі ў практыцы работы вучняў яшчэ не было праектнай дзейнасці, то рэкамендуем настаўніку-філолагу адзін ці некалькі праектаў зрабіць сумесна з дзецьмі,безумоўна, прааналізаваўшы і рэалізаваўшы кожны з вышэй названых этапаў па іх стварэнні.

Такім чынам, ствараючы праекты, школьнікі асвойваюць алгарытм праектнай дзейнасці, вучацца самастойна шукаць і аналізаваць інфармацыю, інтэграваць і прымяняць атрыманыя раней веды па беларускай мове і літаратуры. У выніку развіваюцца ў вучняў творчыя і інтэлектуальныя здольнасці, самастойнасць, адказнасць, фарміруецца ўменне планаваць і прымаць рашэнні. Вучэбныя праекты стануць правобразамі праектаў ў будучым самастойным жыцці падлеткаў. Выконваючы іх, вучні набываюць вопыт вырашэння рэальных праблем.

## Раздзел 2.

### 2.1. Тэхналогія выкарыстання лічбавых адукацыйных рэсурсаў у выкладанні беларускай мовы і літаратуры

Сёння любы прагрэсіўны настаўнік рэспублікі добра ўсведамляе, што без выкарыстання інфармацыйна-камп'ютарных тэхналогій нельга ўжо абысціся ў адукацыйнай сістэме XXI стагоддзя. Многія выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры пачалі эфектыўна выкарыстоўваць звычайны персанальны камп'ютар ці наўтбук у выкладанні і добра пераканаліся, што ён дапамагае вучням эфектыўна засвоіць праграмную інфармацыю і яе сістэматызаваць, садзейнічае стварэнню аб'ёмных і яскравых наглядных сродкаў, наогул павышае матывацыю да вывучэння прадметаў. У асобных выпадках пры дапамозе камп'ютара выкладчык зможа больш яскрава арганізаваць індывідуальную і групавую форму навучання. З вопыту назіраем, што такі падыход у выкладанні беларускай мовы і літаратуры фарміруе ў навучэнцаў сучаснай школы больш высокі ўзровень самаадукацыйных навыкаў і ўменняў. Відавочна, што прымяненне лічбавых рэсурсаў аблягчае і працу настаўніка: напрыклад, яму не трэба рабіць неабходныя запісы на дошцы ці, скажам, затрачваць у пасля ўрокаў час на праверку вынікаў бягучай тэставай работы, што аўтаматычна мяняе характар ўзаемадзеяння настаўніка і вучня (з камп'ютарам не паспрачаешся!), бяспрэчна, павышаецца і якасць нагляднасці і г.д.

Такім чынам, сучаснаму настаўніку беларускай мовы і літаратуры ўжо сёння патрэбна асвойваць новую тэхніку і ствараць новыя методыкі выкладання сваіх прадметаў, зыходзячы з запатрабаванняў вучняў і магчымасцей сучаснай інфармацыйнай прасторы.

Прымяніць камп'ютар на ўроках беларускай мовы і літаратуры магчыма ў разнастайных адукацыйных рэжымах:

- у навучальным;
- у рэжыме графічнага ілюстравання праграмнага матэрыялу;
- у трэніровачным з мэтай выпрацоўкі і замацавання элементарных уменняў і навыкаў пасля вывучэння пэўнай тэмы;
- у дыягнастычным рэжыме тэсціравання якасці засваення праграмнага матэрыялу;
- у рэжыме самаадукацыі.

Тэрмін «лічбавыя адукацыйныя рэсурсы» трэба разумець як камп'ютарныя сродкі навучання, якія ўяўляюць сабою віртуальную нагляднасць у лічбавай форме, неабходную для арганізацыі адукацыйнага працэсу. Можна карыстацца і такімі сінонімамі, як «электронныя сродкі навучання» ці «праграмна-педагагічныя сродкі». Да лічбавых адукацыйных рэсурсаў адносяцца наступныя навучальныя аб'екты:

- сімвальныя аб'екты (разнастайныя знакі, сімвалы, тэксты, графікі);

- вобразныя аб'екты (фотаздымкі і малюнкі);
- аўдыёінфармацыя (вусныя тэксты ў маналагічнай і дыялагічнай формах, музыка);
- відэааб'екты (анімацыі, мадэлі і відэасюжэты);
- аб'екты «віртуальнай рэальнасці» (трэнажоры, інтэрактыўныя мадэлі, канструктары).

Кожны з вышэй пералічаных аб'ектаў можа быць выкарыстаны настаўнікам

у навучальным працэсе самастойна. Асобныя з іх, зыходзячы з канкрэтнай мэты і задач урока, валодаюць большым ці меншым прыярытэтам у выкарыстанні.

У апошнія гады Рэспубліканскім навукова-метадычным цэнтрам былі распрацаваны і дасланы на дысках у кожную школу Айчыны цэлыя камплекты лічбавых адукацыйных рэсурсаў практычна па ўсіх агульнаадукацыйных прадметах, у тым ліку і па беларускай мове і літаратуры. Мэта стварэння такіх камплектаў у першую чаргу заключалася ў аблягчэнні працы настаўніка пры падрыхтоўцы і правядзенні ўрокаў і ў дапамозе школьніку ў час выканання дамашніх заданняў, асабліва па літаратуры, калі адсутнічаюць хрэстаматыі для вучняў 10-11-ых класаў. Апошнім часам Міністэрства адукацыі ўзяло пад кантроль выкарыстанне ў школах рэспублікі электронных сродкаў навучання: штогод праводзіцца маніторынг адукацыйнага працэсу па гэтым пытанні.

На жаль, у сувязі з увядзеннем новых правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі беларускай мовы асобныя матэрыялы на сёння ўжо страцілі сваю актуальнасць.

Улічваючы, што выкарыстанне інфармацыйна-камп'ютарных сродкаў паскарае працэс тлумачэння вучэбнага матэрыялу і павышае яго якасць, настаўнік павінен ужо сам добра валодаць камп'ютарам, умець працаваць у праграмах Microsoft Word і PowerPoint, а таксама валодаць праектнай методыкай. Пры падрыхтоўцы лічбавых адукацыйных рэсурсаў патрэбна улічваць узроставыя асаблівасці класа, тэму і мэту заняткаў. Выкладчык можа рацыянальна выкарыстоўваць інтэрактыўныя мадэлі на ўроках разнастайных тыпаў: тлумачэння новага матэрыялу, замацавання, паўтарэння і кантрольных заняткаў.

Паспрабуем чытачу ніжэй прадэманстраваць метадычныя падыходы выкарыстання асобных лічбавых рэсурсаў як на ўроках беларускай мовы, так і літаратуры, спалучаючы традыцыйнае навучанне з новымі тэхналогіямі. Тут выкладчык можа выкарыстаць разнастайныя інтэрактыўныя адукацыйныя мадэлі:

- мультымедыйныя прэзентацыі ў праграме PowerPoint;
- інтэрнэт-рэсурсы;
- тэкставыя рэдактары;
- тэсты;
- электронныя падручнікі.

## 2.2. Дыдактычныя мадэлі правядзення заняткаў з прымяненнем мультымедыйных сродкаў

Як вядома, адным з галоўных этапаў любога ўрока з'яўляецца тлумачэнне новага матэрыялу ў час інфармацыйна-пошукавага этапу. Настаўнік павінен зрабіць яго максімальна наглядным і зразумелым для вучняў. Каб эфектыўна дасягнуць гэтага, трэба выкарыстоўваць **мультымедыйныя прэзентацыі**, выкананыя ў праграме PowerPoint. Яны ўяўляюць сабою дасканала прадуманы мультымедыйны канспект, у змесце якога прысутнічае сціслы тэкст, асноўныя правілы-азначэнні, апорныя схемы, табліцы, малюнкі, фотаздымкі, відэафрагменты, анімацыя і гук. Праграма PowerPoint дае мажлівасць будаваць разнастайныя графікі і дыяграмы, рыхтаваць паказ і дэманстрацыю слайдаў, якія дапамагаюць сэканоміць час на ўроку.

Англійская прыстаўка multi (мульты) асацыіруецца ў чытача са словамі «мультфільм», «мультыплікатар», «мультымільянер» і інш. У сувязі з развіццём і ўдасканаленнем камп'ютэрнай тэхнікі з 90-ых гадоў мінулага стагоддзя стаў шырока вядомы і яшчэ адзін тэрмін – мультымедыа.

Што датычыцца лексічнага значэння гэтага слова, то яно складаецца з дзвюх частак: multi , што ў перакладзе абазначае «многа, шмат», і media – «асяроддзе». У слоўніку тэрмінаў (гл. вучэбны дапаможнік для сярэдняй школы «Агульная інфарматыка. – Масква , 2003) аўтары С.Сімановіч, Г.Яўсееў і А.Аляксееў даюць наступнае азначэнне: «Мультымедыа – гэта аб'яднанне ў адным дакуменце гукавой, музычнай і відэаінфармацыі з мэтай імітацыі ўздзеяння рэальнага свету на органы пачуццяў».

Сапраўды, дзякуючы выкарыстанню такой камп'ютэрнай тэхналогіі на сучасным уроку школьнік мае мажлівасць успрымаць неабходную інфармацыю адначасова некалькімі органамі пачуццяў, а не паслядоўна, як гэта звычайна бывае пры традыцыйным выкладанні. На сёння мультымедыйная сістэма ўжо замяніла і выдатна спалучыла ў адно цэлае добра знаёмыя настаўніку графапраектар, ці кадаскоп, дыяпраектар (фільмаскоп), эпіпраектар, прайгравальнік і магнітафон.

Перавага мультымедыйнай праграмы яшчэ і ў тым, што вучань падчас самастойнай дзейнасці як на ўроку, так і дома можа выбіраць уласны тэмп працы, пасільны аб'ём інфармацыі і ступень яе цяжкасці . Такі прыём выкладання і навучання дае настаўніку мажлівасць з поспехам рэалізоўваць дыферэнцыраваны падыход у навучанні. Дзеці больш грунтоўна запамінаюць новы матэрыял, павышаецца іх матывацыя да пазнання школьных прадметаў, значна эканоміцца час на выкананне трэніровачна-карэкцыйных заданняў, развіваецца наглядна-вобразнае мысленне, фарміруецца ўменне работы з інфармацыяй: яе пошук, адбор і перапрацоўка.

З дапамогай камп'ютарнай графічнай праграмы PowerPoint настаўнік пры жаданні можа сам стварыць і паказаць вучням на экране набор слайдаў з разнастайнымі схемамі, табліцамі, малюнкамі, фотаздымкамі, неабходным тэкстам.

Таксама ёсць магчымасць дэманстраваць анімацыйныя фільмы, відэакліпы, слухаць мелодыі як на ўроках мовы, так і літаратуры. Прафесійна падрыхтаваная дэманстрацыя пэўнай інфармацыі ў навуцы, адукацыі, бізнесе, медыцыне, прамысловасці і іншых галінах чалавечай дзейнасці называецца яшчэ і прэзентацыяй.

Раней урок, на якім выкарыстоўвалася камп'ютарная тэхніка і праграмныя сродкі навучання, у дыдактыцы называўся «ўрокам з камп'ютарнай падтрымкай». Затым шырокае выкарыстанне настаўніцтвам сродкаў мультымедыа нарадзіла новую назву – «мультымедыа – ўрок». Для больш зручнага вымаўлення з цягам часу і гэтае слова скарацілася, і цяпер у педагагічнай літаратуры найчасцей ужываецца «медыа-ўрок».

Перш чым уводзіць новыя мультымедыйныя сродкі навучання ў адукацыйны працэс, настаўнік павінен усвядоміць педагагічную мэтазгоднасць прымянення камп'ютарнай тэхнікі на ўроку: што ў выніку гэта дасць вучням і самому педагогу-карыстальніку.

Зразумела, што камп'ютар ніколі не заменіць настаўніка, а толькі дапаможа зрабіць яго працу больш эфектыўнай. Па-першае, педагог на медыа-ўроку часцей за ўсё выступае ў якасці кансультанта, а гэта значыць, ён зможа адвесці на індывідуальную работу з вучнямі больш часу. Па-другое, ёсць унікальная магчымасць зрабіць урокі роднай мовы і літаратуры больш цікавымі, нагляднымі і дынамічнымі. Па-трэцяе, школьнікі за даволі кароткі тэрмін нашмат лепш запамінаюць неабходны матэрыял, больш глыбока ўсведамляюць яго сутнасць.

Мультымедыа-ўрок – гэта таксама тып урока фарміравання новых ведаў, як і ўрок-лекцыя, урок-семінар, урок-экскурсія, урок-даследаванне. Праводзіць яго можна ў звычайным класе, які абсталяваны камплектам апаратных сродкаў. Для дэманстрацыі неабходны камп'ютар, спецыяльны праектар, экран, гукавыя калонкі і наяўнасць прыстасаванняў для дыскет і кампакт-дыскаў.

Распрацаваць першы камплект вучэбна-метадычных матэрыялаў настаўніку-філолагу будзе складана. Добра, калі гэта зробіць выкладчык інфарматыкі ці аматар-знаўца медыа-тэхналогіі. Але, бясспрэчна, што без папярэдне прадуманай паслядоўнасці слайдаў прэзентацыя атрымаецца няўдалай. Таму настаўніку патрэбна скрупулёзна спланаваць сваё бачанне выкладу новай тэмы.

У час праектавання мультымедыа-ўрока рэкамендуецца ўлічваць і захоўваць некаторыя санітарна-гігіенічныя правілы і патрабаванні. Для школьнікаў шостых-сёмых класаў можна адвесці да дваццаці хвілін часу на бесперапынную працу за камп'ютэрам, для восьмых-дзявятых класаў – да дваццаці пяці хвілін, для старшакласнікаў – да трыццаці. З мэтай зніжэння стамляльнасці вучняў прапануем працу за камп'ютэрам чаргаваць з працай за дадатковым сталом : спалучаць прагляд прэзентацыйнага матэрыялу на маніторы ці экране з выкананнем разнастайных трэніровачна-карэкцыйных практыкаванняў і заданняў.

Якім жа чынам дастасаваць мультымедыйную тэхналогію да ўрока беларускай мовы ? Паспрабуем праілюстраваць гэта на асноўных яго этапах і фрагментах, напрыклад, па тэме **«Прызначэнне літар е, ё, ю, я, і» ў 5-ым класе** (ўводны ўрок).

Як паказвае педагагічны вопыт, гэты матэрыял засвойваецца вучнямі з цяжкасцю, таму мы прапануем вывучаць яго з дапамогай мультымедыйных сродкаў, выкарыстоўваючы прыём блокавай падачы паняццяў.

**Мэта:** паглыбіць у вучняў паняцце пра двайную ролю літар **е**, **ё**, **ю**, **я**, **і**. Пазнаёміць з пяццю пазіцыямі ётавых галосных, калі яны абазначаюць два гукі адной літарай. Садзейнічаць засваенню тэрмінаў, якія называюць фанетычныя паняцці.

Выпрацоўваць уменне адрозніваць на слых гукі, якія на пісьме абазначаны з удзелам вышэй названых літар. Запісваць два гукі адной літарай, пераводзіць адпаведныя літарныя абазначэнні ў гукавыя, вызначаць гукавы склад слоў з ётавымі літарамі.

Выхоўваць у пяцікласнікаў жыццёвую свядомую патрэбу ў набыцці ведаў для далейшага ўладкавання свайго жыцця і дасягнення асабістых поспехаў.

Тып ўрока: камбінаваны з суправаджэннем інфармацыйна-камп’ютарных і тэставай тэхналогій.

Літаратура: Красней В.П. і інш. Беларуская мова. Вучэбны дапаможнік для 5 класа агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання. Частка 1. – Мн. 2008, «Нацыянальны інстытут адукацыі».

Абсталяванне: камп’ютары, мультымедыйная прэзентацыя «Суадносіны паміж галоснымі гукамі і літарамі» і тэставыя электронныя заданні на дадзеную тэму.

**1.** Пасля праверкі дамашняга практыкавання 207, што змешчана на старонцы 120 вышэй названага вучэбнага дапаможніка, настаўнік беларускай мовы ў невялікім ***уступным слове*** скажа, што кожны падлетак, вядома, марыць і жадае хутчэй вырасці, стаць дарослым грамадзянінам і ажыццявіць сваю даўнюю мару: стаць афіцэрам, доктарам, настаўнікам ці лётчыкам. І гэтае імкненне зразумелае, адвечнае і не аднаго пакалення. Але для таго каб ажыццявіць сваю мару, сёння патрэбна сучаснаму старшакласніку у першую чаргу здаць цэнтралізаванае тэсціраванне па адной з дзяржаўных моў. На сёння так склалася, што менавіта ад вынікаў гэтага іспыту і залежыць дальнейшы лёс вучня: быць ці не быць.

Затым настаўнік прапануе хвілін пяць пабыць у ролі вучняў-старшакласнікаў, якія выконваюць па беларускай мове тэставае заданне пад № 1 на веданне фанетыкі. З мэтай актывізацыі набытых раней ведаў і для стварэння сітуацыі поспеху **на матывацыйным этапе** настаўнік прапануе аднаму з вучняў класа з

каментарыем адказаць на запісанае загадзя на дошцы тэставае заданне да ўрока і выправіць памылкі:

***Адзначце словы, транскрыпцыя якіх зроблена правільна:***

1) снежань **[с’н’эжан’],**

2) люты **[л’юты]**,

3) вясна **[вас’на]**,

4) ліпень **[л’іп’эн’]**,

5) вясёлка **[в’ас’олка]**.

*Адказ: 1, 4, 5.*

З мэтай стварэння арыенціровачнага аб’екта для будучай тэмы дадзеных заняткаў і пастаноўкі тупіковай сітуацыі настаўнік прапануе класу паразважаць над зместам яшчэ аднаго тэставага задання, якое пажадана таксама запісаць і своечасова адкрыць прысутным вучням на другім крыле дошкі:

***Адзначце словы, транскрыпцыя якіх зроблена правільна:***

1) яблык **[йаблык]**,

2) спее **[с’п’эйэ]**,

3) шампіньён **[шамп’ін’он]**,

4) камп’ютар **[кампутар]**,

5) салаўіны **[салаўйіны].**

*Адказ: 1, 2, 5.*

Як паказвае практыка, пяцікласнікі на дадзеным этапе ўрока практычна ўсе памыляюцца з выкананнем дадзенага задання. Яно і відавочна: па праграме ў чацвёртым класе такая тэма не вывучалася.

Такім чынам, тупіковая сітуацыя, ці так званы «кручок», матывацыйнага этапа атрымаўся ўдалым. Таму педагогу тут будзе да месца прапанаваць вучням асэнсаваць сваё становішча і паставіць перад сабой бліжэйшую мэту і задачы ўрока.

Пасля некалькіх вучнёўскіх маналогаў настаўнік адлюструе на маніторах камп’ютараў ці на экране мультымедыйнай устаноўкі тэму дадзенага ўрока і наступную мэтавую ўстаноўку дадзеных заняткаў:




2. Улічыўшы важнасць дадзенай тэмы ў сістэме курса вучэбнага прадмета «Беларуская мова» і недастатковы падыход яе тлумачэння ў вышэй названым падручніку, настаўнік далей запросіць пяцікласнікаў уважліва паназіраць за прадстаўленай інфармацыяй на маніторах камп’ютара і паслухаць тлумачэнне педагога. Слова выкладчыка будзе ўяўляць сабой звычайнае агучванне тэарэтычнага і ілюстрацыйнага матэрыялу па дадзенай тэме заняткаў. Мультымедыйныя кадры, як паказвае вопыт, нязмушана будуць прыцягваць і ўтрымліваць увагу пяцікласнікаў. Тлумачэнне **на інфармацыйным этапе** ўрока зойме хвілін восем. Кадры прэзентацыі «Суадносіны паміж галоснымі гукамі і літарамі» могуць быць наступнымі:



**Літары е, ё, ю, я, і выконваюць двайную ролю:**

1. ***У становішчы пасля зычных (акрамя ў) яны абазначаюць адзін галосны гук і мяккасць папярэдняга зычнага:***

***лес - [л’эс], клён - [кл’он],***

***люк- [л’ук], мята - [м’ата],***

***мір- [м’ір].***

zhukovich4.narod.ru 4

***2. У астатніх выпадках – два гукі:***

*у становішчы*

*у* ***пачатку*** *слова*

*пасля* **ь**

*пасля* **’**

*пасля* **ў**

*пасля* ***галосных***

zhukovich4.narod.ru 5

***У пачатку слова:***

***ежа - [йэжа]***

***ёлка - [йолка]***

***юнак - [йунак]***

***яна - [йана]***

***іхні - [йіхн’і]***

zhukovich4.narod.ru 6

## Пасля ь:

льe - [л’йэ]

пашталЬён - [паштал’йон]

налЬю- [нал’йу]

КасЬян - [кас’йан]

zhukovich4.narod.ru 7

## Пасля ’ :

з’еў - [з’йэў]

кап’ё - [кап’йо]

саб’ю - [саб’йу]

з’ява - [з’йава]

вераб’і - [в’эраб’йі]

zhukovich4.narod.ru 8

## Пасля ў:

шчаўе - [шчаўйэ]

салаўём - [салаўйом]

салаўю - [салаўйу]

салаўя - [салаўйа]

салаўі - [салаўйі]

zhukovich4.narod.ru 9




Пасля прагляду прэзентацыі настаўнік беларускай мовы прапануе вучням класа самастойна прачытаць тэарэтычны матэрыял падручніка на старонках 120 і 121 і сказаць, які матэрыял ім падаўся дакладным, больш зразумелым і чаму.

3. **На трэніровачна-карэкцыйным этапе** дадзенага ўрока з мэтай замацавання набытых тэарэтычных ведаў варт прапанаваць вучням вусна выканаць практыкаванне 209, у якім патрэбна зачытаць з ліку прапанаваных радоў слоў тыя, дзе літары **е**, **ё**, **ю**, **я**, **і** стаяць : 1) у пачатку слоў; 2) пасля галосных; 3) пасля **Ў**; 4) пасля раздзяляльнага мяккага знака; 5) пасля апострафа. Дадзенае заданне можна выканаць і самастойна па адпаведных радах-варыянтах. Першаму раду класа прапануюцца пункты 1 і 2, другому – 3 і 4, трэцяму – 4 і 5.

Пасля праверкі і з мэтай працягу замацавання дадзенай тэмы заняткаў варт выканаць практыкаванне 211 (з празаічным тэкстам) ці 212 (з вершаваным), што на старонках 121-122 падручніка, у якіх сітуацыя дзесяцігадовым вучням будзе трохі ўскладнена: патрэбна самастойна выпісаць словы ўжо з тэкстаў, у якім літары **е**, **ё**, **ю**, **я**, **і** абазначаюць таксама два гукі.

Калі будзе дазваляць яшчэ час, то з мэтай развіцця маўлення можна прапанаваць вучням класа і самім скласці свой невялікі тэкст (тры-пяць сказаў) пра прыкметы позняй восені з ужываннем слоў з ётавымі галоснымі літарамі і заслухаць некалькі работ на гэтым этапе.

4. **На кантрольна-рэфлексійным этапе** ўрока настаўнік прапануе пяцікласнікам паспрабаваць выявіць свой узровень ведаў па вывучанай тэме ўрока, адказаўшы ў пары з суседам па парце на дзесяць тэставых заданняў, якія ўведзены ў камп'ютарную праграму сістэмы «Краб». Яна ўяўляе сабой трынаццаць кадраў. На першым паведамляецца тэма праграмаванага кантролю «Тэставыя заданні па тэме «Суадносіны паміж галоснымі гукамі і літарамі». 5 клас». Другі кадр патрабуе ўдзельнікам зарэгістравацца: указаць сваё прозвішча, імя і клас.

Прозвішча

імя

клас

далей

Пры націсканні мышкай дадатковай панэлі пад назвай «далей» вучні адкрыюць наступнае першае тэставае заданне, якое выглядае такім чынам:

Пытанне 1

*Адзначце словы, у якіх літара* ***Е*** *абазначае адзін гук:*

елка
венік
восень
верасень
шчаўе

далей

Праграма створана так, што вучань можа націскаць любое з прапанаваных вышэй слоў. У залік пойдзе толькі той варыянт, пасля якога будзе націснута панэлька з назвай «далей». Пераход на чаговы кадр адбываецца аўтаматычна. Вярнуцца і паправіць апошнюю камбінацыю ўжо не ўдасца. Пажадана пасля кожнага кадра-пытання ўвесці і кадр-адказ, каб вучань мог адразу ж прааналізаваць яго і заўважыць памылкі.

Вы адказалі: *няправільна*

Правільны адказ: *венік, восень, верасень*

далей

Прапануем і наступныя тэставыя заданні з гэтай праграмы:

Пытанне 2

*Адзначце словы, у якіх літара **Е** абазначае два гукі:*

медзь
дзеці
еднасць
даехаць
пад’езд

далей

Пытанне 3

*Адзначце словы, у якіх літара **Ё** абазначае адзін гук:*

ёлка
вёска
вясёлка
аб’ём
салаўём

далей

Пытанне 4

*Адзначце словы, у якіх літара **Ё** абазначае два гукі:*

канёк
ручаёк
палёт
раз’ём
маё

далей

Пытанне 5

*Адзначце словы, у якіх літара **Я** абазначае адзін гук:*

яблык
аб’ява
праязны
зямля
жоўтыя

далей

Пытанне 6

*Адзначце словы, у якіх літара **Я** абазначае два гукі:*

ялінка
дзядзька
вясновы
заява
мячык

далей

Пытанне 7

*Адзначце словы, у якіх літара **Ю** абазначае адзін гук:*

дзвюма
раз’юшаны

| |
|---|
| жартуюць<br>бюст<br>юбілей [далей] |
| Пытанне 8<br><br>*Адзначце словы, у якіх літара **Ю** абазначае два гукі:*<br>паб'ю<br>юнак<br>саўю<br>палью<br>малюнак [далей] |
| Пытанне 9<br><br>*Адзначце словы, у якіх літара **І** абазначае адзін гук:*<br>салаўі<br>лічба<br>руіны<br>нізіна<br>іскра [далей] |
| Пытанне 10<br><br>*Адзначце словы, у якіх літара **І** абазначае два гукі:*<br>заінець<br>пісьмо<br>караблі<br>паіць<br>іншы [далей] |

Пасля выканання гэтых заданняў на экране з'явіцца выніковы кадр, які будзе адлюстроўваць яшчэ раз прозвішча і імя ўдзельніка праграмы, на колькі пытанняў ён адказаў, колькі балаў набраў і якую атрымаў адзнаку. Выніковы кадр можа выглядаць наступным чынам:

| |
|---|
| Вынік<br>Васілеўскі<br>Андрэй<br>Мікалаевіч<br><br>6<br><br>Пройдзена пытанняў: 10<br>Набрана балаў: 15 з 25<br>Адзнака: 6 [OK] |

Закончыць ўрок па дадзенай тэме «Прызначэнне літар **е**, **ё**, **ю**, **я**, **і**»

можна выяўленнем ўражанняў пяцікласнікаў. Настаўнік спытае ў іх, што дапамагло ім засвоіць гэтую тэму на высокі бал, а што з'явілася прычынай магчымай няўдачы. Адзначыць пахвалой тыя пары вучняў, якія адказалі на высокі бал. Прапануе ўсяму класу яшчэ і **дома** замацаваць набытыя веды пры ўмове прачытання параграфа 29, што на старонцы 121, і самастойна выканаць пісьмова практыкаванне 213, якое арганічна пераклікаецца з толькі што выкананымі тэставымі заданнямі.

На другіх занятках настаўніку можна па чарзе правесці індывідуальны праграмаваны зрэз ведаў у кожнага вучня класа па гэтай самай камп'ютарнай тэставай праграме і выставіць у класны журнал цэлую калонку адзнак. Праверана на ўласным вопыце, што пасля выкарыстання мультымедыйнай і тэставай праграмы кожны вучань атрымае «дзевяць» і «дзесяць» балаў. На наступных уроках па тэме адбываецца канкрэтызацыя і замацаванне вывучанага матэрыялу, выпрацоўваюцца адпаведныя ўменні і навыкі.

### 2.3. Інтэрнэт-рэсурсы для настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры

Павысіць свой інтэлектуальны, навукова-педагагічны і метадычны ўзровень сучасны настаўнік беларускай мовы і літаратуры можа дзякуючы такім сайтам, як http://edu.gov.by (Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь),

http://akademy.edu.by (сайт Акадэміі паслядыпломнай адукацыі Рэспублікі Беларусь),

http://adu.by (Нацыянальнага інстытута адукацыі Рэспублікі Беларусь),

www.nastaunik.info (грамадскі сайт пра тэндэнцыі адукацыі ў свеце, новыя педагагічныя тэхналогіі і метады выкладання),



http://zhukovich4.narod.ru («Каб харашэць душой». Педагагічны сайт Міколы Жуковіча),

http://belkabinet.by (сайт настаўніка беларускай мовы і літаратуры Ганны Квасюк).

У інтэрнэце прадстаўлены беларускамоўныя сайты-газеты і часопісы, у якіх змешчаны разнастайныя лінгвістычныя, літаратуразнаўчыя, крытычныя і краязнаўчыя артыкулы, сучасныя лірычныя, эпічныя і драматычныя творы. Настаўнік беларускай мовы і літаратуры можа практычна без фінансавых затрат пагартаць старонкі наступных перыядычных выданняў:

www.lim.by (газета «Літаратура і мастацтва»),

www.arche.by (інтэлектуальны часопіс для моладзі),

http://dziejaslou.by (часопіс «Дзеяслоў»),

http://knihi.com (Беларуская палічка. Беларуская электронная бібліятэка),

http://nn.by (газета «Наша ніва»),

http://tbm-mova.by (Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны),

http://suc-biel-lit.livejournal.com (сучасная беларуская літаратура),

www.pravapis.info (беларускі класічны правапіс),

www.belkniga.by (новыя кнігі пра Беларусь),

http://bk.knihi.com (беларускі кнігазбор),

http://kamunikat.org (беларуская інтэрнэт-бібліятэка)

www.zbsb.org (электронная бібліятэка, кнігі, літаратура міжнароднага грамадскага аб’яднання «Бацькаўшчына»).

Для падрыхтоўкі мультымедыйных прэзентацый па аглядавых тэмах настаўнік беларускай літаратуры можа выкарыстаць матэрыялы наступных сайтаў:

http://spadczyna.com (спадчына Беларусі),

http://starbel.narod.ru (гісторыя Беларусі IX-XVIII стагоддзяў),

http://etna.by (Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту),

http://litmuseums.iatp.by (літаратурныя музеі Беларусі),

www.artmuseum.by (Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь),

http://nacbibl.org.by/llitm/lithist (Музей гісторыі беларускай літаратуры),

http://arthistory.ru (гісторыя сусветнага мастацтва),

http://elib.bsu.by (альбомы па мастацтве),

www.apx-by.info (архітэктура Беларусі),

http://globus.tut.by (помнікі архітэктуры Беларусі),

http://nacbibl.org.by (Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны),

www.khatyn.by (Дзяржаўны мемарыяльны комплекс «Хатынь»),

www.brest.by (Брэсцкая крэпасць-герой),

http://rtbd.of.by (Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі).

http://karty.by (карты Беларусі).

На сёння выкладчык літаратуры можа выкарыстаць у час падрыхтоўкі да заняткаў і правесці інтэрнет-урокі па матэрыялах сайтаў-віртуальных музеяў, што прысвечаны асобам разнастайных пісьменнікаў. Варт пазнаёміцца настаўніку з наступнымі электроннымі веб-праектамі:

www.arhives.gov.by (архівы Беларусі. Архіўныя дакументы пра Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Янку Купалу, Якуба Коласа і інш.),

www.znichka.ucoz.com (Кнігарня. Творы і біяграфіі беларускіх празаікаў і паэтаў),

http://bogdanovich149.narod.ru (веб-праект, прысвечаны Максіму Багдановічу),

http://biadulia.ru (Змітраку Бядулю),

http://tiskagartni.ru (Цішку Гартнаму),

www.bykau.info (веб-праект аб жыцці і творчасці Васіля Быкава),

www.shamyakin-goup.iapt.by (электронная версія музея Івана Шамякіна пад назвай «Майстра»)

www.ivan-melez.iapt.by (віртуальны музей Івана Мележа: старонкі жыцця),

http://uladzimir-karatkevich.iapt.by (сайт аб жыцці і творчасці Уладзіміра Караткевіча),

www.makaenak-goup.iapt.by (віртуальны музей Андрэя Макаёнка),

www.daineka.by (сайт Леаніда Дайнекі),

http://niakliaev.by (афіцыйны сайт Уладзіміра Някляева),

http://gapeev.info (афіцыйны сайт сучаснага празаіка Валерыя Гапеева).

Ёсць у сусветным сеціве і сайты-зборнікі, ці анталогіі. Напрыклад:

www.jivebelarus.net (бібліятэка гістарычных артыкулаў),

www.z-roga.belarushosting.org (змешчаны разнастайныя песні з нотамі, фанаграмы, крыжаванкі, сцэнарыі і інш),

www.knihi.com (Беларуская палічка. Беларуская электронная бібліятэка),

http://literatura.at.tut.by (партал беларускай літаратуры).

http://vershy.ru (нацыянальны паэтычны партал),

http://vyaselka.ru (вершы для дзяцей),

www.zaviruha.ru (вершы пра зіму),

www.soneyka.ru (вершы пра вясну),

www.kupalle.ru (вершы пра лета),

www.listapad.ru (вершы пра восень),

http://matulya.ru (вершы пра маці),

http://belmova.ru (вершы пра беларускую мову),

http://sinyvokaya.ru (вершы пра Беларусь),

http://belarusy.net (вершы пра знакамітых беларусаў),

http://sledvainy.ru (вершы пра вайну),

http://charnobyl.ru (Чорны вецер. Вершы беларускіх паэтаў пра Чарнобыльскую катастрофу. Успаміны сведкаў і празаічныя творы),

http://moykahany.ru (вершы пра каханне).

Дыскі: 1. «Беларускія народныя казкі». Казкі пра жывёл. 10 трэкаў. Чытае Алег Хамёнак.

2. «Легенды і паданні» (пра заснаванне Менска, Бярэсця, Магілёва, Гомеля, пра Нарач і возера свіцязь і інш.) 23 трэкі. Чытае Віктар Манаеў.

3. «Максім Багдановіч. Вершы». 25 твораў. Сярод іх «Слуцкія ткачыхі», «Летапісец», «Кніга», «Па-над белым пухам вішняў» і інш.

4. Аўдыёкніга «Якуб Колас. «Новая зямля». Паэма». Чытае Мікола Рабычын.

5. Аўдыёкніга «Якуб Колас. «Сымон-музыка». Паэма». Чытае Валерый Шушкевіч.

6. Аўдыёкніга «Янка Купала. Вершы. Паэмы». «Уладзімір Някляеў. «Шлях». Чытае Валерый Шушкевіч.

7. Аўдыёкніга «Іван Мележ. «Людзі на балоце». Чытае Андрэй Камада.

8. Аўдыёкніга «Уладзімір Караткевіч. Зборнік вершаў «Быў. Ёсць. Буду». Чытае Андрэй Камада і інш.

### 2.4. Дыстанцыйнае навучанне

Апошнім часам у педагагічным друку ўсё часцей сустракаюцца публікацыі пра дыстанцыйнае навучанне, электронны падручнік ці інтэрнэт-урок, якія, як сцвярджаюць навукоўцы, у XXI ст. стануць самай эфектыўнай формай навучання і падрыхтоўкі спецыялістаў. Заняткі аб'ядноўвае тое, што арганізуюцца яны на базе камп'ютарных тэхналогій, такіх, як інтэрнэт, электронная пошта, тэлебачанне і інш.

Дзякуючы доступу да інтэрнэту сучасныя школьнікі і студэнты могуць засвоіць праграму, атрымаць неабходны навучальны матэрыял практычна па любой дысцыпліне ў электронным ці друкаваным выглядзе і – самае важнае – авалодаць ім самастойна, без выкладчыка. Роля настаўніка тут мяняецца на ролю кансультанта, партнёра па творчым пошуку. На яго ўскладаюцца функцыі каардынацыі працэсу і карэкцыі выкладанага курса.

З дапамогай інтэрнэту навучэнец на значнай адлегласці і не выходзячы з дому можа ўжо сёння адкрыць сайты электронных бібліятэк і за лічаныя секунды знайсці патрэбныя раздзел кнігі, параграф, цытату, кінафільм, табліцу ці мастацкі твор. Камп'ютарная сістэма таксама дае вучню мажлівасць на адлегласці праверыць веды па вывучанай тэме, выявіць дапушчаныя памылкі і атрымаць адпаведныя рэкамендацыі.

Характэрнай асаблівасцю дыстанцыйнага навучання з'яўляецца тое, што вучні могуць не наведваць заняткі ў навучальнай установе, а выбіраць для працы зручныя для сябе час, месца і тэмп. У аснову такога навучання пакладзены модульны прынцып: прымяненне інструкцый для самастойнай ці групавой працы з інфармацыйнымі крыніцамі сеткі.

Такім чынам, **дыстанцыйнае навучанне – гэта атрыманне навучэнцамі ведаў па пэўнай галіне навукі на любой адлегласці і ў любы час з дапамогай камп'ютарных тэхналогій без наведвання навучальнай установы.**

Інтэрнэт відавочна пранікае ў адукацыйную галіну. Прагрэсіўныя педагогі нашай краіны для таго, каб надаць эфектыўнасць і прывіць цікавасць да свайго прадмета, сёння выкарыстоўваюць у адукацыйным працэсе камп'ютарныя тэхналогіі. Такі падыход дазваляе сучаснаму выкладчыку вырашаць наступныя метадычныя задачы:

*1) фарміраваць у школьнікаў устойлівую матывацыю вучыцца,*

*2) развіваць уменні самастойнай працы з навучальным матэрыялам,*

*3) выпрацоўваць крытычнае мысленне ва ўмовах карыстання вялікім аб'ёмам інфармацыі,*

*4) паспяхова развіваць здольнасці індывідуальнай працы і ў камандзе,*

*5) удасканальваць навыкі самаадукацыі і самакантролю.*

Настаўнік беларускай літаратуры ўжо цяпер можа выкарыстаць інтэрнэт як дапаможны сродак на занятках ці арганізаваць асобны інтэрнэт-урок.

На сёння ёсць шмат рэсурсаў, прысвечаных класікам беларускай літаратуры: Максіму Багдановічу (www.maksimbogdanovich.ru), Уладзіміру Караткевічу (www.uladzimir-karatkevich.com ), Васілю Быкаву (www.bykau.info), Максіму Танку (www.maksimtank.ru) і інш. Гэтыя сайты нельга пакінуць па-за ўвагай сучасных школьнікаў, асабліва на ўроках літаратуры ў 10-11-ых класах сярэдніх школ, гімназій і ліцэяў.

З улікам магчымых збояў у сеціве і з мэтай эканоміі фінансавых сродкаў настаўніку беларускай мовы і літаратуры варта за некалькі дзён да планаванага ўрока па тэме «Васіль Быкаў. Жыццёвы і творчы шлях пісьменніка» ў 11-ым класе зайсці на сайт «Васіль Быкаў» і скалькаваць патрэбны матэрыял у папку камп’ютара «Мае дакументы» ці на дыск.




Перад заняткамі гэты матэрыял можна вельмі хутка перанесці на персанальныя камп’ютары.

**Мэты ўрока:** паўтарыць і сістэматызаваць веды школьнікаў па раней вывучаных творах пісьменніка; пры дапамозе новых камп’ютэрных тэхналогій пазнаёміць адзінаццацікласнікаў з асноўнымі этапамі жыцця і творчасці класіка, з грамадзянскай пазіцыяй Васіля Быкава; зацікавіць старшакласнікаў неардынарнай асобай празаіка і яго кнігамі; выхоўваць пачуццё нацыянальнай самасвядомасці.

Каб на ўроку стварыць адпаведны настрой вучняў і творчую атмасферу, на школьнай дошцы пасля тэмы можна змясціць на фоне ручніка партрэт Васіля Быкава. Пад ім – паставіць у гарлачыку сімвалічны букет з жытнёвых каласкоў і валількоў. Побач з партрэтам празаіка варта змясціць на плакаце ці запісаць крэйдай на дошцы эпіграфы да заняткаў: «*Васіль Быкаў, як той васілёк у жыце*

*Беларушчыны, робіць зямлю нашую бліжэйшай да неба, а неба слова беларускага - вышэйшым*» (Рыгор Барадулін);

ці

*Будуць часам ідалы раструшчаны.*

*Свет разумны стоміцца ад крыкаў.*

*Васільком у жыце Беларушчыны*

*Назаўсёды застанецца Быкаў!*

Рыгор Барадулін;

ці: «*Лёс збярог нам Васіля Быкава, каб ён жыў і пісаў ад імя цэлага пакалення, ад імя тых, што юнакамі спазналі вайну і ўзмужнелі духам са зброяй у руках, для якіх дзень жыцця быў роўны веку жыцця*» (Чынгіз Айтматаў).

Добра, каб належнае месца ля партрэта заняла і выстава быкаўскіх кніг, фотаздымкаў, а таксама афіш да кінафільмаў, балета і оперы, што зняты і пастаўлены паводле твораў пісьменніка.

Інтэрнэт-урок па біяграфіі Васіля Быкава можна пачаць традыцыйна з асэнсавання згаданых эпіграфаў і невялікага ўступнага слова настаўніка, у якім можна сказаць, што, паводле звестак ЮНЕСКА, напрыканцы 70-х гг. XX ст. Васіль Быкаў быў адным з самых вядомых пісьменнікаў у свеце. Ды і сёння не зменшылася яго папулярнасць: быкаўскія творы перакладзеныя больш чым на пяцьдзясят моваў свету, у тым ліку на англійскую, іспанскую, італьянскую, нямецкую, французскую, японскую. Кнігі Васіля Быкава выходзілі ў Варшаве, Берліне, Празе, Будапешце, Сафіі, Мілане, Парыжы, Лондане, Каіры. Пра яго і сёння пішуць у папулярных газетах Расеі, Францыі, Германіі, Італіі, Польшчы, Швецыі, Фінляндыі...

Васіль Быкаў быў узнагароджаны Залатой Зоркай Героя Сацыялістычнай працы, ордэнам Айчыннай вайны I ступені, яму нададзена ганаровае званне «Народны пісьменнік Беларусі», ён уганараваны Ленінскай прэміяй за аповесць «Знак бяды» і Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Якуба Коласа за аповесці «Воўчая зграя», «Яго батальён», прэстыжнай расейскай прэміяй «Трыумф».

Для актывізацыі апорных ведаў па матэрыяле, вывучаным у 6-8-ых класах, настаўнік можа правесці з вучнямі франтальную гутарку па пытаннях:

– Што вы ведаеце пра жыццё і творчасць Васіля Быкава, яго ўдзел у грамадскім жыцці Беларусі?

– З якімі творамі празаіка вы пазнаёміліся?

– Чым яны запомніліся?

– Якія героі асабліва ўсхвалявалі, уразілі і чаму?

Настаўніцкі вопыт паказвае, што веды па біяграфіі ў адзінаццацікласнікаў практычна адсутнічаюць. Больш упэўнена адчуваюць сябе вучні ў час абмеркавання апавяданняў «Незагойная рана», «Страта» і аповесцяў «Альпійская балада» і «Жураўліны крык».

Пасля пастаноўкі мэты і задач урока настаўнік прапануе старшакласнікам з дапамогай рэсурсаў інтэрнэту звярнуцца да зместу электроннага сайта www.bykau.info

Каб праца школьнікаў была больш эфектыўнай і мэтанакіраванай, настаўнік павінен сцісла пазнаёміць іх з асноўнымі раздзеламі сайта – «Біяграфія», «Артыкулы», «Фота», «Творы», «Бібліяграфія» і прапанаваць модульную праграму для самастойнай ці парнай работы:

**1. Прачытайце на сайце сціслую біяграфію Васіля Быкава і запішыце ў сшытках па літаратуры яе план, які стане асноўным матэрыялам для вуснага паведамлення (рыхтуецца дома).**

**2. Адкрыйце файл пад назвай «План біяграфіі Васіля Быкава» ў папцы камп’ютара «Мае дакументы» і параўнайце свой план з настаўніцкім, зрабіце карэктывы ў сваім сшытку.**

(Змест файла «План біяграфіі Васіля Быкава»: 1. Некалькі радкоў пра радзіму, навучанне і франтавы шлях пісьменніка. 2. Час апублікавання і тэматыка ранніх быкаўскіх твораў. 3. Узнагароды за творчасць. 4. Экранізацыя. 5. Жыццё і праца ў Гродне. 6. Праблемы ў сярэдзіне 1990-х гг. Жыццё за мяжой. 7. Адкрыццё памятнага знака ў райцэнтры Старыя Дарогі. 8. Смерць Васіля Быкава.)

**3. Самастойна пазнаёмцеся ў рубрыцы «Бібліяграфія» з пералікам твораў Васіля Быкава і іх перакладаў. Выпішыце найбольш перакладаныя, а значыць вядомыя.**

**4. Давайце зверымся і зробім карэктывы. Для параўнання адкрыйце папку камп’ютара «Мае дакументы» і ў ёй файл «Папулярныя быкаўскія творы».**

(Адказ: «Трэцяя ракета», «Абеліск», «Сотнікаў», «Альпійская балада» перакладзены на англійскую, нямецкую, рускую, чэшскую і іншыя мовы.)

**5. У рубрыцы «Фота» паглядзіце фотаздымкі пісьменніка і яго сяброў. Занатуйце ў сшытак па літаратуры прозвішчы найбольш слынных людзей, з якімі Васіль Быкаў меў цесныя стасункі.**

**6. Давайце зноў зверымся і зробім карэктывы. Адкрыйце для параўнання файл «Сябры пісьменніка» ў папцы «Мае дакументы».**

(Адказ: Алесь Адамовіч, Уладзімір Караткевіч, Пімен Панчанка, Рыгор Барадулін і інш.)

**7. У рубрыцы «Творы, прысвечаныя Васілю Быкаву» пазнаёмцеся з вершамі Рыгора Барадуліна і Уладзіміра Караткевіча. Выпішыце найбольш трапныя выразныя мастацкія сродкі, якімі паэты характарызавалі класіка.**

**8. Давайце зверымся і зробім карэктывы. Адкрыйце для адказу файл «Тропы».**

[Васіль Быкаў – «анёл, Гаспадар Беларусі» (Р. Барадулін), «рыцар сумлення і свабоды» (У. Караткевіч).]

**9. Самастойна прачытайце артыкул Валянціна Акудовіча «Чаму Васілю Быкаву не далі Нобелеўскай прэміі?» і пісьмова дайце сціслы адказ на пастаўленае пытанне. Ці згодны вы з думкай публіцыста? Чаму?**

**10. У файле «Нобелеўская прэмія» знайдзіце цытаты-адказы на гэтае заданне.**

(«...толькі фармальна «Нобелем» узнагароджваюць некага персанальна, а насамрэч гэта прэмія кантыненту, рэгіёну, краіне... «; «З гэтага вынікае, што праблему «Быкаў – Нобель» будзе лагічна перафармуляваць на праблему «Беларусь – Нобель»...»; «...не далі таму, што некаму гэтага вельмі моцна не хацелася... даць Нобелеўскую прэмію Васілю Быкаву – азначала легалізаваць Беларусь у якасці эстэтычнага, інтэлектуальнага і... этычнага суб’екта сусветнай супольнасці»; «Скасаваць краіну, якая мае свайго Нобелеўскага лаўрэата, значна складаней, чым скасаваць краіну, якая яго не мае».)

Звычайна дыстанцыйны ўрок заканчваецца кантрольна-рэфлексійным этапам: праводзіцца невялікі зрэз ведаў, атрыманых з дапамогай рэсурсаў інтэрнэту. Але на такім нетрадыцыйным уроку літаратуры мэтазгодна правесці гутарку для выяўлення вучнёўскіх уражанняў і думак, каб настаўнік мог удасканальваць методыку такіх заняткаў.

Кантрольныя пытанні пажадана даць на другім уроку ў час праверкі дамашняга задання ў форме тэстаў, што знаходзяцца на с. 103 – 107 кнігі «Беларуская літаратура. Тэсты. XI клас: Дапаможнік для навучэнцаў агульнаадукацыйных школ, гімназій, ліцэяў» / Аўтары-скл. Гарадко Г. і інш, – Мінск, 2001.

**Дамашняе заданне:** на аснове запісаў канспекта і артыкулаў (с. 49-59) навучальнага дапаможніка для 11 класа сярэдняй школы (Мельнікава З.П. і інш. / Пад рэд. З. Мельнікавай, Г. Ішчанкі. – Мінск, 2009) падрыхтаваць вуснае паведамленне па тэме ўрока.

Такі ўрок можна праводзіць і з захварэлымі вучнямі, якія маюць дома доступ да інтэрнэту і гэты канспект-модуль.

Школьны ўрок, такім чынам, перастае ўспрымацца як адзіны шлях атрымання ведаў, ён – толькі адна з яго формаў. Выкарыстанне нават элементаў дыстанцыйнага навучання ў звычайным навучальна-выхаваўчым працэсе дазваляе зрабіць яго жывым, цікавым і творчым.

**Тэставыя заданні.** У сувязі з падрыхтоўкай выпускнікоў 11-ых класаў да паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы ў многіх школах рэспублікі апрабіруюцца заняткі па камп'ютарным тэсціраванні. Гэты спосаб кантролю ведаў дае мажлівасць выкладчыку і беларускай мовы за нязначны час урока аб'ектыўна ацаніць практычна ўсіх вучняў класа па пэўнай тэме ўрока, то і па пэўным раздзеле вучэбнай праграмы. Ёсць у наяўнасці разнастайныя электроныыя праграмы складання тэставых заданняў па любой тэме ці раздзеле як мовы, так літаратуры ў любым класе навучальнай установы. Узоры праграм па складанні тэставых заданняў можна знайсці на сайце «Каб харашэць душой» (адрас – zhukovich4.narod.ru.) Недахопам некаторых тэставых праграм можна лічыць адсутнасць моманту работы над памылкамі. Але пры жаданні настаўнік і гэты недахоп можа выправіць. Рэкамендуем пасля кожнага задання ўводзіць кадр з паведамленнем вучню, як ён адказаў: «вы адказалі правільна» ці «памылкова». Пры наяўнасці памылкі патрэбна ўвесці правільныя нумары адказаў.

Аўтарам гэтага артыкула ўжо апісана методыка арганізацыі і правядзення такіх ўрокаў на старонках кнігі «Сучасныя педагагічныя тэхналогіі на ўроках беларускай мовы і літаратуры» выдавецтва «Аверсэв» (2007 г.) Будучым абітурыентам настаўнік можа парэкамендаваць выявіць свой узровень ведаў па беларускай мове пры ўмове рэгістрацыі на сайце http://vedy.by Тут змешчаны комплексныя тэсты па розных вучэбных прадметах, якія задзейнічаны ў цэнтралізаваным рэспубліканскім тэсціраванні. Падобны матэрыял і структура заданняў знаходзяцца на сайце http://testirovanie.org

**Электронныя падручнікі.** На сёння больш эфектыўнай тэхналогіяй з'яўляецца выкарыстанне на ўроках мовы і літаратуры электронных падручнікаў. Яны па сутнасці ўяўляюць сабой звычайную кнігу ў віртуальным камп'ютарным наборы тэарэтычных звестак, для замацавання аўтарамі падабраны разнастайныя практыкаванні і заданні, у змесце могуць быць і тэсты, прысутнічаюць табліцы, схемы і ілюстрацыі. Праўда, у адрозненне ад звычайнага школьнага падручніка электронны прадназначаны для самастойнага і індывідуальнага вывучэння тэарэтычнага матэрыялу.

Наяўнасць такіх дапаможнікаў у інтэрнэце і на асобных дысках пакуль недастатковая. Трэба прызнаць, што гэтая тэхналогія па беларусазнаўству распрацавана слаба і недасканала. Развіццё пытання яшчэ ў перспектыве. Думаем, што толькі абмежаванае кола настаўнікаў можа на сёння выкарыстоўваць гэты лічбавы рэсурс у сваёй выкладчыцкай працы.

Варта звярнуць увагу на змест першага электроннага падручніка пад назвай «Гавары са мной па-беларуску. Базавы курс класічнай беларускай мовы» аўтараў Сяргея Аляксандрава і Галіны Мыцык. Рэсурс знаходзіцца па адрасе http://old.knihi.com/www.padrucnik . Настаўнік беларускай мовы пасля знаёмства з гэтым падручнікам можа распрацаваць і правесці некалькі ўрокаў мовы практычна ў кожным класе сярэдняй школы. На жаль, у інтэрнэтнай прасторы электронныя падручнікі па беларускай літаратуры  адсутнічаюць. Выкладчыкі і вучні 10-11-ых класаў могуць карыстацца толькі копіяй дапаможнікаў, якімі былі забяспечаны ўсе сярэднія школы рэспублікі і перададзены на дыскавым носьбіце. Рэкамендуем выкарыстаць для правядзення некаторых урокаў беларускай літаратуры ў 5-ым класе сайт-зборнік «Казкі беларускія», што знаходзіцца на сайце http://kazki.by. Цікавай і змястоўнай энцыклапедыяй можна лічыць сайты www.belarus.by і http://be.wikipedia.org па архітэктуры Беларусі. Даведнікам можна лічыць і яшчэ адзін лічбавы рэсурс – энцыклапедыю электронную, змешчаную на сайце http://slounik.org. У ім ёсць разнастайныя віды беларускіх слоўнікаў: арфаграфічны, тлумачальны, этымалагічны, фразеалагічны, дыялектны, руска-беларускі, беларуска-рускі і інш.

**Літаратура**


**1. Быкаўцава, І**. Слоўнікавыя дыктоўкі на ЭВМ. // Роднае слова. 2002. № 5

2. **Беспалько, В.П.** Педагогика и прогрессивные технологии обучения/ В.П. Беспалько. М.: Изд-во института профессионального образования МО РФ, 1985.512 с.

3. **Буцэнка, А**. Функцыянальная стылістыка: Блочная тэхналогія навучання. 11 клас.// Роднае слова. 2003. № 3

4. **Вазина, К.Я**. Коллективная мыследеятельность – модель саморазвития человека/ К.Я. Вазина. Н.Новгород, 1990.

5. **Віктаровіч, Т.А**. Адаптыўная сістэма навучання. Неабходнасць пераходу да новых тэхналогій. // Беларуская мова і літаратура. 2004. № 1.

6. **Віктаровіч, Т**. Адаптыўная сістэма навучання: На прыкладзе ўрока «Разрады лічэбнікаў». 6 клас. // Роднае слова. 2003. № 8

7. **Гин, А.А**. Приемы педагогической техники: Свобода выбора. Открытость. Деятельность. Обратная связь. Идеальность. Пособие для учителей/ А.А. Гин. Мн.: НМЦ «Учебная книга и средства обучения»; Гомель ИПП «Сож», 1999. 88 с.

8. **Грыцкевіч, С.** Выкарыстанне асобасна-арыентаванай тэхналогіі Дальтан у выкладанні роднай мовы. // Роднае слова. 2002. № 11

9. **Жаўнерчык, А.** Перабудова складаных сказаў: Урок-практыкум з элементамі тэхналогіі Дальтан. 11 клас. // Роднае слова. 2005. №2

10. **Запрудскі, М.І.** Сучасныя тэхналогіі навучальна-выхаваўчага працэсу // Народная асвета. 2000. № 5

11. **Запрудский, Н.И.** Технология педагогических мастерских/ Н.И. Запрудский. Мн.: АПО; Мозырь: ООО ИД «Белый ветер», 2002. 96 с.

12. **Запрудский, Н.И.** Современные школьные технологии/ Н.И. Запрудский. Мн.: «Сэр-Вит», 2004. 288 с.

13. **Кашлев, С.С.**Современные технологии педагогического процесса / С.С. Кашлев. Мн.: Университетское, 2000. 95 с.

14. **Кендыш, Н**. У краіне кветак: Урок развіцця мовы па тэхналогіі «французскія педагагічныя майстэрні». 5 клас.// Роднае слова. 2004. № 5

15. **Кныш, М.** Класіфікацыя адукацыйных тэхналогій навучання.// Роднае слова.2005. № 2

16. **Кныш, М.**Мадэляванне асабістай сістэмы навучання.// Роднае слова. 2005. № 4

17. **Круглова, О.С.** Технология проектного обучения // Завуч. 1999. № 6. С.90-94

18. **Крысюк, Л.С.** План-канспект урока па творчасці М.Багдановіча ў 8 класе (тэхналогія поўнага засваення ведаў). // Беларуская мова і літаратура. 2005. № 6

19. **Левитес, Д.Г**. Современные образовательные технологии / Д.Г. Левитес. Новосибирск. 1999. 288 с.

20. Личностно-ориентированная педагогика Дальтон: история, принципы и организация работы / Под ред. **Ю.Л. Загуменнова.** Мн.: НИО, 1998. 196 с.

21. **Маркова, А.К. и др**. Формирование мотивации учения / А.К. Маркова. М., 1990. 190 с.

22. **Мацвеева, Я.** Развітанне з краінай Прыметніяй: Урок-падарожжа. 5 клас.// Роднае слова. 2005. № 11

23. **Мацвеева, Я.** Развітанне з марфалогіяй: Урок-залік па тэхналогіі адаптыўнай школы. 7 клас. // Роднае слова. 2003. № 3

24. **Мачэль, А.** Выпрабаванне вайной: Урок-канферэнцыя па аповесці «Жураўліны крык» Васіля Быкава. 7 клас. // Роднае слова. 2004. № 1

25. **Мачэль, А.** Дальтан-заданне як сродак павышэння якасці навучання. // Роднае слова. 2002. №11.

26. **Махмутов, М.И.** Организация проблемного обучения в школе / М.И. Махмутов. М.: Просвещение, 1977. 240 с.

27. Методыка выкладання беларускай літаратуры: Вучэб. дапам. / **Л.В.Асташонак, Г.С.Гарадко, Г.М.Ішчанка і інш.;**Пад рэд. В.Я.Ляшук. Мн.: ТАА «Асар». 2002. 416 с.

28. **Міхайлоўская, А.** Апавяданне «Дзяльба кабанчыка» Віктара Карамазава: Урок з выкарыстаннем тэхналогіі «дэбаты». // Роднае слова. 2004. № 6

29. **Мяжэвіч, В.А.** Урок – педагагічная майстэрня па творчасці Аркадзя Куляшова ў 9 класе. // Беларуская мова і літаратура. 2004. № 1.

30. **Новикова, Т.А.** Проектные технологии на уроках и во внеурочной деятельности // Школьные технологии. 2002. № 2

31. **Руцкая, А.В.** Выкарыстанне новых тэхналогій пры вывучэнні літаратуры. // Беларуская мова і літаратура. 2004. № 5

32. **Рымша, Т**. Маці: Урок беларускай мовы па тэхналогіі французскіх педагагічных майстэрняў. 6 клас // Роднае слова. 2005. № 6

33. **Сасімовіч, Алена.** Складаназалежныя сказы з акалічнаснымі даданымі: Урок з выкарыстаннем камп'ютэра. 9 клас.// Роднае слова. 2005. № 11

34. **Селевко, Г.К.** Современные образовательные технологии / Г.К. Селевко. М., 1998. 256 с.

35.**Тарасава, С.М.** Навучанне літаратуры з выкарыстаннем інтэрактыўных тэхналогій (на прыкладзе метаду «Анкета 5 з 25»). // Беларуская мова і літаратура. 2004. № 1.

36. **Тарасава, С.М.** Навучанне літаратуры з выкарыстаннем інтэрактыўных тэхналогій (метад «Бура прапаноў»). // Беларуская мова і літаратура. 2004. № 2.

37. **Тарасава, С.М.** Навучанне літаратуры з выкарыстаннем інтэрактыўных тэхналогій (метад «Тэхніка намінальных груп»). // Беларуская мова і літаратура. 2004. № 3

38. **Томашава, С.** Перапіс насельніцтва: Урок-абагульненне ў форме лінгвістычнай казкі па раздзеле «Лексіка». 5 клас. // Роднае слова. 2005. № 2

39. **Чечель, И.** Метод проектов: субъективная и объективная оценка результатов // Директор школы. 1998. № 4.

40. **Якавец, В.** Прыметнік: Урок-залік па тэхналогіі рознаўзроўневага навучання.

6 клас. // Роднае слова. 2002. № 12

41. **Якавец, В.** Прыслоўе: Урок-залік у 8 класе. // Роднае слова. 2005. № 10

42. **Якиманская, И.С.** Личностно-ориентированное обучение в современной школе / И.С. Якиманская. М.: Сентябрь, 1996. 480 с.